

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 3 лютага 1989 г. № 5 (3467) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


ЛЮДЗІ РОДНАГА КРАЮ



ПАДКОВА НА ШЧАСЦЕ. Каваль Баляслаў Аўгусцінавіч ФІЛІПЕНАК з калгаса «Буравеснік» Шаркоўшчынскага раёна.
Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ

## ПАМЯЦІ ЗАГІНУЎШЫХ У АФГАНІСТАНЕ

Першымі наведвальнікамі адкрытай 26 студзеня ў мінскім Доме афіцэраў выстаўкі конкурсных праектаў мемарыяла землякам, якія загінулі ў Афганістане, сталі члены мінскага клуба воінаў-інтэрнацыяналістаў запасу «Памяць». Гэта па іх ініцыятыве ЦК камсамола Беларусі ў сакавіку мінулага года аб'явіў конкурс і адкрыў рахунак 700659 у рэспубліканскім Жылсацбанку для збору сродкаў на стварэнне помніка.

Наведвальнікам экспазіцыі, якая будзе працаваць роўна месяц, трэба будзе выбраць лепшы з васьмі прадстаўленых праектаў. Іх думкі, выкладзеныя ў спецыяльнай кнізе, будуць улічаны экспертнай камісіяй, куды ўвайшлі вядомыя беларускія скульптары і мастакі, былыя воіны-інтэрнацыяналісты.

Мемарыял плануецца ўзвесці ў адным з мінскіх паркаў або сквераў. Канкрэтнае месца таксама будзе вызначацца з улікам грамадскай думкі. Выказаць яе або прапанаваць сваю ідэю помніка можна дзяжурным апаратыўнага штаба, створанага ў ЦК ЛКСМБ, па тэлефонах: 29-30-77, 29-31-46, 29-33-16.

## МІЛАСЭРНАСЦЬ— У КАНКРЭТНЫХ СПРАВАХ

Сапраўдным днём нараджэння Беларускага аддзялення Савецкага фонду міласэрнасці і здароўя назваў мінулую нядзелю старшыня праўлення фонду акадэмік АН БССР Мікалай Саўчанка. У гэты дзень у Палацы культуры Белсаўпрофа адбылася дабрачынная сустрэча «Духоўная культура і рэлігія», збор ад якой стаў першым укладам грамадскасці ў нядаўна адкрыты рахунак нумар 704201.

Зала палаца не змагла ўмясціць усіх жадаючых трапіць на сустрэчу. Яе ўдзельнікі — М. Саўчанка, намеснік старшыні Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры Л. Валяеў, мітрапаліт Мінскі і Беларускі Філарэт гаварылі аб задачах адраджэння і развіцця духоўнасці і культуры, аб'яднання намаганняў розных грамадскіх фондаў і рэлігійных арганізацый, каб дапамагчы ўсім, каму патрэбна міласэрнасць, і заахвоціць да гэтага як мага больш людзей. Дзесяткамі пытанняў засыпалі прысутныя мітрапаліта Філарэта. Ці з'яўляецца ён кандыдатам у народныя дэпутаты, аб адносінах да таварыства «Памяць», будаўніцтва другой чаргі Мінскага метрапалітэна, аб стварэнні ў рэспубліцы новых храмаў і лёсе існуючых, аб рэпрэсіраваных у гады культу асобы рэлігійных дзеячах, канкрэтных справах веруючых, якія дапамагаюць медперсаналу ў бальніцах... На гэтыя і многія іншыя пытанні былі дадзены адказы.

На сустрэчы выступілі харавая капэла Палаца культуры Белсаўпрофа і спецыяльна прыехаўшая група хору студэнтаў Маскоўскай духоўнай семінарыі і акадэміі.

(БЕЛТА).

## ВЫБАРЫ І НАШ ВЫБАР

# ГАРАЧЫ СТУДЗЕНЬ

Першы месяц года прынёс шмат новага, нязвыклага і супярэчлівага. Адбывалася вылучэнне кандыдатаў у народныя дэпутаты СССР — стваралася база для выбару, які кожны з нас мае права ажыццявіць 26 сакавіка, наведаўшы выбарчы ўчастак ці ўхіліўшыся ад галасавання. Кандыдатаў, як і раней, вылучалі працоўныя калектывы, але ўжо без апрыклага «нашаму прадпрыемству даручаны гонар»... Кандыдатаў вылучалі грамадскія арганізацыі, што было ў навіну... Кандыдаты вылучалі самі сябе — гэта ўвогуле ледзь не сенсацыя... Закон аб выбарах не пярэчыў і супраць «легалізацыі» ініцыятыўных груп і рухаў з неакрэсленым статусам: яны мелі магчымасць прапаноўваць кандыдатуры на разгляд сходаў па месцы жыхарства ці тых жа працоўных калектываў.

**Вопыт, набыты на першым этапе выбарчай кампаніі, патрабуе надзвычай уважлівага аналізу і вывучэння. Найперш дзеля таго, каб зразумець, наколькі эфектыўная распачатая палітычная рэформа ў дэмантажы «механізма ўладаўтрымання», замене яго дэмакратычным волевыяўленнем грамадства. «Мэта новага выбарчага закона — забяспечыць вызначальны ўдзел грамадзян, грамадскіх арганізацый у фарміраванні дэпутацкага корпуса,— гаворыць у інтэрв'ю часопісу «Новое время» член Цэнтральнай выбарчай камісіі прафесар Р. Барабаш. — Але некаторыя элементы выбарчага механізма аморфныя: яны могуць быць выкарыстаны і насельніцтвам, і апаратам. Спробы апарата атрымаць перавагу павінны быць нейтралізаваны актыўнасцю грамадзян. Закон не можа прадугледзець усе дэталі, многае залежыць ад выпрацоўваемай практыкі».**

Самае, бадай, галоўнае тое, што цяперашняя выбарчая кампанія актыўна каталізуе працэс дэмакратызацыі нашага грамадства. Як высвятляецца, мы можам самастойна, без падказкі «звыш», вызначыць, хто з вядомых нам людзей мае здольнасці да палітычнай дзейнасці. Як высвятляецца, такіх людзей — разумных, сумленных, прынцыповых, таленавітых — у нас нямала, значна больш, чым тасуецца анкет у кабінетных зацішках.

Днямі вынікі «гарачага студзеня» былі падведзены на пасяджэнні Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах народных дэпутатаў СССР. Названы такія лічбы: на 750 мандатаў грамадскімі арганізацыямі вылучана 880 кандыдатаў, па тэрытарыяльных і нацыянальна-тэрытарыяльных акругах на адзін мандат прэтэндуюць у сярэднім 5 кандыдатаў (*адназначалася, праўда, што прыблізна* ў 12 працэнтах выбарчых акруг альтэрнатыўных кандыдатаў няма). А гэта значыць, што недзе адзін-два, недзе і дзесяць, і дваццаць, а магчыма і больш. Гэта значыць таксама, што за гарачым студзенем ідзе гарачы люты.

Мы — выбіраем. Дыстанцыя выбарчага марафона выпрабоўвае ўвесь наш невялікі пакуль што дэмакратычны вопыт, узровень палітычнай культуры і сацыяльнай актыўнасці. Выпрабоўваецца таксама наша здольнасць пераадольваць стэрэатыпы, абыякавасць, наіўнасць...

**А. ГАНЧАРОЎ.**

---

*Перабудова і мы: урокі, трывогі, спадзяванні*

**Уладзімір КАЛЕСНІК**

# ТУТ МОЖНА ЖЫЦЬ

**КАЗУСЫ ПРАВІНЦЫІ**

ПІСЬМЕННІКУ, які жыве ў правінцыі, даводзіцца ў парадку адаптацыі прывыкаць да спецыфічнай школы ацэнак яго працы і яго асобы. Паколькі вартасці ўстанаўлівае публіка, але замацоўвае правам аўтарытарнасці кіраўнічае асяроддзе, а мастацкіх твораў не хапае часу чытаць нікому, дык па лесвіцы грамадскай карыснасці пісьменнікі аказваюцца натуральна ніжэй майстроў відовішчных і іншых прыгожых мастацтваў, творы якіх кіраўнікі і публіка часцей бачаць, слухаюць і прымаюць як уклад у духоўную вытворчасць ці ў фонд культурнага адпачынку працоўных. Ад мастацкай літаратуры ў гэтым сэнсе наедак мала відочны: вершы, апавяданні, артыкулы з'яўляюцца ў друку не так часта; рэгулярна сачыць за «Літстаронкамі» мала каму з чытачоў абласной газеты хочацца. Грамадскасць выпрацоўвае ўражанне аб паэтах візуальна: на літаратурных сустрэчах, слухаючы творы ў аўтарскім выкананні. На такое ўспрыманне, зразумела, не ўсе творы разлічаны. Адным словам, творчы пачатак засланяецца больш выразным — субардынацыйным. Пісьменнікі ва ўспрыманні правінцыі дзеляцца паводле таго, у якім ярусе *яны сядзяць*. Найніжэй знаходзяцца пісьменнікі раённыя, пра іх існаванне ў абласным цэнтры могуць і забыць, калі тыя не нагадаюць пра сябе нейкім сенсацыйным творам ці незвычайным учынкам; пра аўтараў абласнога рангу гаворыцца з лёгкай паблажлівасцю — «таксама пішуць», пра рэспубліканскіх — з фамільярнасцю — «нашы беларускія пісьменнікі», а ўсур'ёз прымаюцца маскоўскія, з прыніжанасцю — зарубежныя!... Праўда, і тут павага бывае этыкетнай.

Павучальна было б кожнаму паэту хоць раз у жыцці выехаць у раён з журналістам, каб пераканацца, што асновай дзелавых узаемаадносін і ацэнак у нас яшчэ застаецца нязжыты страх: каго больш баімся, ад каго залежым—таго і больш паважаем. Варта прывучыць сябе глядзець на гэты утылітарны этыкет з гумарам. Адмяніць і перарабіць яго немажліва. Для гэтага патрэбна будзіць асабовасць і незалежнасць з абодвух бакоў стала зносін. Адным словам, патрэбна заключная фаза перабудовы.

НАПЭЎНА, для жыцця ў правінцыі трэба нарадзіцца, але і ўцягнуцца можна, калі станеш цаніць такія рэчы, як персанальнасць і суб'ектыўнасць адносін з людзьмі, яны лепшыя ў малых, чым у буйных гарадах, тут вышэй адчуванне бяспекі, зроджанае з таго факта, што многа людзей вартых даверу і спраўджаных табе знаёма асабіста і чалавек ніколі не адчувае сябе загубленым у натоўпе, бо кожны дзень на вуліцы сустрэне не адзін свойскі зычлівы твар.

А ўсё ж бываюць і нараканні сяброў на нудоту і адзіноту. Я суцяшаю іх тым, што можа быць яшчэ нешта горшае — агрэсіўнае непрыманне «іншага», мудрагеля, зазнайкі — эфект нівеліроўкі. Пераадолець абыякавасць не так і цяжка, творчы чалавек павінен перш за ўсё прывучыць сябе да адзіноты, самая адказная частка яго працы — думанне, эксперыментаванне, пісанне, маляванне, складанне песень, танцаў — павінны працякаць у стане выключнай засяроджанасці, у самоце, без дарадчыкаў і падказчыкаў. Калі такой патрэбы няма—няма таленту, няма творчай асобы, ёсць чалавек, які хоча, гарыць жаданнем адыграць нейкую «важную» ролю.

Часта бывае, што ў правінцыі складваецца дружны і адкрыты калектыў (на кафедры, у літаб'яднанні), праходзіць час і заўважаеш потым са скрухай і жалем, як людзі, прывыкаючы да адкрытасці і зычлівасці, трацяць прабіўную сілу, не ўмеюць адстойваць свае аўтарскія інтарэсы ў рэспубліканскіх органах друку, паводзяць сябе наіўна і недалужна, крыўдзяцца, чакаючы, што *на крыўдзіцеля нойдзе* скруха ды ён узнагародзіць пакрыўджанага ласкай і ўцехай. Гэта вельмі важны сімптом — страта сацыяльнай арыентацыі, абумоўленай нажніцамі паміж агульналюдскай этыкай, кодэксам чалавечнасці і практычнай рабочай этыкай устаноў, сфармалізаваных арганізацый і ўсяго такога. Быць адкрытым і шчырым не толькі не аплачвалася, а і дорага каштавала, бо нярэдка такія людзі і сябрыны станавіліся казламі адпушчэння.

Асобным, на мой погляд, паказальным парадоксам з'яўляецца беларускае абласніцтва. Па сваіх памерах беларускія вобласці ўступаюць расійскім, але па насельніцтве часам пераўзыходзяць і дасягаюць іншых саюзных рэспублік (Брэсцкая вобласць роўная Эстоніі). У той жа час па культурнай вазе нашы вобласці блізка не падыходзяць да суседніх, яны пераважна толькі адміністрацыйныя і гаспадарчыя цэнтры. Адміністрацыйныя велічыні аказваюцца карлікамі грамадскага, культурнага, навуковага і творчага жыцця рэспублікі. У росце культуры і творчасці абласное кіраўніцтва мала зацікаўлена, справядліва сказаць наадварот — яно зацікаўлена ў тым, каб інтэлігенцыя не набыла значэння і не пачала «ствараць праблемы».

Калі ў абласцях будуць умовы для дзейнасці салідных культурных сіл — створацца моцныя навуковыя калектывы, аддзяленні творчых саюзаў ды выраступць, убяруцца ў сілу самадзейныя нефармальныя арганізацыі, тады, скажам, першы сакратар абкома партыі ці старшыня аблвыканкома не змогуць адбыць па два тэрміны на пасадах і ні разу не паказацца ў «свой» педінстытут, універсітэт. Ды і ВНУ, калі б усё ішло як трэба, было б не дзве-тры на вобласць, а больш. *Можа тая ж Эстонія мець іх ажно шэсць!* Веды ж— капітал. Праўда, толькі там, дзе на іх ёсць попыт. Па абласных цэнтрах залежваюцца і ўцэньваюцца не толькі дрэнныя тавары, але часам і добрыя спецыялісты, веды, таленты, псуюцца характары ў творчых людзей, заблакіраваных кіраўнічай актыўнасцю ці апатыяй.

Людзі энергічныя, інтэлектуальна ёмістыя, ахвочыя спажываць бясконцую колькасць інфармацыі, апантаныя цікаўнасцю пранікнуць за кулісы грамадскага і творчага жыцця, ведаць выдавецкую кан'юнктуру, сакрэты пісьменніцкай «кухні» і сакрэты сталіцы ад магазінаў да кабінетаў у Доме ўрада — такія людзі ў правінцыі сумуюць і пакутуюць ад колькаснай і якаснай недаінфармаванасці. Можна назваць такую недаінфармаванасць уяўнай, бо ва ўмовах інфармацыйнай навальніцы не толькі ў свеце, краіне, але і ў вясковай хаце звестак бывае аж надта, каб чалавек мог скласці грунтоўнае ўяўленне пра жыццё сям'і чалавечай. Існуе ж на Захадзе тэорыя адзінай вёскі, у якую мае ператварыць свет пан тэлевізар, знаёмячы між сабой усё чалавецтва і вяртаючы яго да пачцівых нораваў вясковай грамады, дзе людзі ўмелі саромецца і стараліся зарабіць павагу суседзяў, бо «грумада», як казаў наш геніяльны казачнік з Вялікага Рожана Рэдкі, — адзін вялікі чалавек. Пакуль што гэта мара, лятунак, нязбыўнасць, бо сучасны тэлевізар і прэса і ўся лавіна інфармацыі больш палітызуе, раз'ядноўвае, чым гуманізуе. Суб'ектыўнае адчуванне недаінфармаванасці абумоўлена хутчэй тым, што многія людзі не маюць ахвоты і ўмення самастойна асвойваць інфармацыю, перапрацоўваць яе, ствараць на яе аснове карціну свету і знаходзіць сябе ў свеце. Інфармацыйная лавіна ў многіх разбудзіла апетыт, варты Гарганцюа. Галодным здаецца, што інфармацыя сама па сабе каштоўнасць, самацэнная духоўнасць і чым больш яе спажываеш, тым больш пажывішся. Але гэта ілюзія. Насычэнне наступае не ў працэсе спажывання, а ў працэсе ўпарадкоўвання, асэнсавання інфармацыі, тады і паўстаюць новыя, арыгінальныя ідэі, пры ўмове, што чалавек мае творчае ўяўленне, высокую мэту. Вось гэты момант і ёсць момант духоўнага наталення. Можна жыць і ў правінцыі ды адчуваць паўнату духоўнага жыцця, зведваць

---

# ПАГЛЫБЛЯЦЬ ЭКАНАМІЧНУЮ РЭФОРМУ

**У Мінску прайшлі сходы партыйна-гаспадарчага актыву рэспублікі**

На парозе чацвёртага года пяцігодкі Беларусь можа пахваліцца пэўнымі гаспадарчымі і сацыяльнымі поспехамі. Спынілася зніжэнне тэмпаў развіцця грамадскай вытворчасці. Павялічыўся прырост нацыянальнага даходу, прадукцыі прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Узмацняецца сацыяльная скіраванасць эканомікі, ідзе яе структурная перабудова, у жыццё ўваходзяць усё больш эфектыўныя формы кіравання і арганізацыі працы.

Аднак уздым эканомікі ідзе марудней, чым намячалася. Вострым застаецца становішча з прадуктамі харчавання, таварамі народнага спажывання. Усё гэта сведчанне таго, што глыбінныя прычыны тармажэння і застою да канца не пераадолены.

Аб выніках работы прамысловасці, будаўніцтва, транспарту, гандлю і бытавога абслугоўвання насельніцтва ў 1988 годзе і за тры гады пяцігодкі, аб задачах партыйных, савецкіх, прафсаюзных, камсамольскіх і гаспадарчых органаў, грамадскіх арганізацый па далейшым паскарэнні сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі ішла гаворка на рэспубліканскім сходзе партыйна-гаспадарчага актыву, які адбыўся 28 студзеня. Даклад «Памножыць уклад індустрыі ў арсенал перабудовы» зрабіў сакратар ЦК КПБ **У. А. Ляпёшкін.**

30 студзеня адбыўся рэспубліканскі сход партыйна-гаспадарчага актыву, які разгледзеў вынікі работы аграпрамысловага комплексу рэспублікі ў 1988 годзе і за тры гады пяцігодкі, абмеркаваў задачы партыйных, савецкіх, прафсаюзных, камсамольскіх і гаспадарчых органаў па далейшым паляпшэнні харчовага забеспячэння насельніцтва. З дакладам «Поўны гаспадарчы разлік, самафінансаванне — галоўны напрамак перабудовы ў аграрным сектары» выступіў сакратар ЦК КПБ **М. І. Дземянцей.**

На сходах былі ўхвалены сацыялістычныя абавязацельствы, прынятыя ў працоўных калектывах на 1989 год.

У рабоце сходаў удзельнічалі члены Бюро ЦК КПБ.

Перад удзельнікамі актываў выступіў першы сакратар ЦК КПБ **Я. Я. Сакалоў.**

На сходах падкрэслівалася, што год работы ва ўмовах гаспадарчага разліку і самафінансавання прынёс не толькі павучальны вопыт, але і ўскрыў вялікія недапрацоўкі, разам з тым падказаў і шляхі далейшага ўдасканалення гаспадарчага механізма. Трэба больш рашуча і ўпэўнена пераходзіць ад першай мадэлі гаспадарчага разліку да другой, ад другой — да арэнды; актыўней мабілізоўваць творчы патэнцыял навукова-даследчых, канструктарскіх, працоўных калектываў на паскарэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу, спалучаць навуку з вытворчасцю, укараняць вынікі навуковых даследаванняў у практыку. Сысці з пазіцый чакання, пастаянна быць у пошуку, ставіць перад сабой напружаныя задачы, знаходзіць нестандартныя падыходы да іх вырашэння — вось што

## З пошты «ЛіМа»

## ● РОЗУМ, МУДРАСЦЬ І СУМЛЕННЕ

## ● У ДЫРЭКТАРЫ — ПА КОНКУРСУ

## ● АД КАГО НАМ АБАРАНЯЦЦА?

□

*Ярлыкі, накшталт «антыперабудоўшчык», «сталініст» і г. д.,* безумоўна, не ўпрыгожваюць ні наш друк, ні вусныя выступленні. Аднак ёсць рэальнасць, на якую таксама нельга не зважаць і ад якой у адначассе нам не пазбавіцца. Бо колькі інстытутаў, кафедр і асобных вучоных працавала на ўзвялічванне сталіншчыны *і брэжнеўшчыны!* Колькі іх спрыяла росту гэтых негатыўных з'яў! Колькі дысертацый напісана і абаронена на гэтым, колькі створана манаграфій, што ўводзілі народ у зман. Колькі людзей пабудавалі на апалагетыцы сталіншчыны і брэжнеўшчыны свае кар'еры, прыдбалі дабрабыт і бестурботнае жыццё. І было б дзіўна, калі б ім хацелася сапраўдных перамен. Хутчэй ім хочацца чагосьці, што толькі звонку нагадвае сапраўднае народаўладдзе, а па сутнасці — захоўвае жорсткі, камандны, арыентаваны на думку «звыш» стыль кіравання.

Хацелася б, каб гэта ўсвядомілі некаторыя нашы ідэалагічныя работнікі, думкі якіх (часам у выглядзе дырэктыў без подпісу) часам раздрукоўваюцца ў рэспубліканскай прэсе, або распаўсюджваюцца па іншых каналах. Наш народ варты, каб яму больш давяралі. Ён валодае калектыўнай мудрасцю і сумленнем, якія *дапамаглі яму выстаяць* у часы трагічных выпрабаванняў і захаваць здаровыя сілы дзеля адраджэння.

У такім разе таму, хто прыдумаў ганебнае проціпастаўленне рабочых і інтэлігенцыі, трэба нагадаць адну простую і вечную выснову. Грамадства—адзіны арганізм, *дзе ўсё ўзаемазвязана* і ўзаемазалежна. Наданне адной з сацыяльных груп права кіраваць іншымі — ненатуральнае. Грамадствам павінен кіраваць розум, памножаны на гуманізм і дзейсны клопат пра захаванне жыцця на зямлі, пра лёс наступных пакаленняў. Маю на ўвазе розум калектыўны, без падзелу на «чыстых» і «нячыстых».

**А. САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук, прафесар.**
г. Мінск.

□

Пра Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту сёння ў рэспубліцы вядуцца вострыя дыскусіі. Пра гэта неаднойчы пісаў і «ЛіМ». З дня прыняцця пастановы аб стварэнні музея прайшло 12 гадоў. У канцы мінулага года нарэшце з'явіўся праект генплана музея. Аднак многія кардынальныя пытанні да сённяшняга дня не вырашаны.

Як калектыў музея, мы нясём маральную і матэрыяльную адказнасць за яго стан, будаўніцтва і далейшы лёс. Як супрацоўнікі, мы зацікаўлены, каб усе нашы намаганні прыносілі максімальны плён. Але, як паказала практыка, гэта не *заўсёды здараецца. Многія пытанні,* якія тычацца нашага музея, вырашаюцца часта не па-гаспадарску, келейна, не ўлічваецца рэальная абстаноўка і патрабаванне часу.

Усе нашы фонды размешчаны ў непрыстасаваных памяшканнях: у падвалах у Мінску і хлявах у вёсцы Строчыца. Сховішчы раскіданы па ўсім горадзе. Прадметы матэрыяльнай культуры, якія трапляюць у музей, інтэнсіўна разбураюцца. Мы не ведаем, хто займаецца праектаваннем вытворча-гаспадарчай зоны музея і калі ўрэшце будзе праектная дакументацыя. Невядома, як будзе вырашацца пытанне з захаваннем фондаў да заканчэння будаўніцтва.

А як вядзецца рэстаўрацыя архітэктурных помнікаў на тэрыторыі музея? Скажам адкрыта: няякасна. З-за гэтага скажаецца аблічча помнікаў, губляюцца адметнасці цяслярскага майстэрства. Няма трывалай навуковай і тэхнічнай базы па кансервацыі драўніны.

З 1976 г. не змяніліся ўмовы працы супрацоўнікаў. Як было ў нас 5 маленькіх пакояў, так і засталося. Прыходзяць жа новыя людзі, а дзе ім працаваць? Няма месца для бібліятэкі, чытальнай залы, навуковага архіва. Усе санітарныя нормы груба парушаюцца. Тэрыторыя музея не добраўпарадкавана. Кепская дарога, няма месц для адпачынку, вады, туалетаў...

Калі справы будуць ісці так, як ідуць зараз, мы будзем мець музей вельмі няскора, а шмат што і ўвогуле беззваротна страцім.

Мы лічым, што музей павінны ўзначаліць зацікаўленыя людзі, якія здолеюць аб'яднаць здаровыя сілы калектыву, скарыстаць дапамогу грамадскасці. Таму *прапануем абвясціць рэспубліканскі конкурс* на пасады дырэктара, намеснікаў, загадчыкаў аддзелаў і сектараў.

І яшчэ. Рэстаўрацыю помнікаў народнай архітэктуры трэба рабіць сіламі лепшых народных дойлідаў або пад іх кіраўніцтвам. Тады наш музей будзе мець сапраўдную вартасць, навуковую і гістарычную каштоўнасць.

Неабходна стварыць грамадскі савет з лепшых спецыялістаў рэспублікі, якія змаглі б дапамагаць у будаўніцтве і кантраляваць навуковую дзейнасць музея.

**Б. ХАРКЕВІЧ,**
**загадчык сектара;**
**С. МАЕЎСКАЯ,**
**загадчык навукова-экспазіцыйнага аддзела;**
**А. НАРОЎСКАЯ,**
**ст. навуковы супрацоўнік;**
**Г. ФУРС,**
**галоўны захавальнік і іншыя супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, усяго 20 подпісаў.**

□

Родам я з Мінска, а працую электраманцёрам-вахтавіком на Ніжневартаўскім прадпрыемстве электрычных сетак.

Ведаю, што наша дзяржава дбае аб беларусах, якія жывуць за мяжой. Для іх вядуцца радыёперадачы, выдаецца газета «Голас Радзімы». А вось у адносінах да нацыянальных патрабаванняў беларусаў, якія жывуць у нашай краіне, але за межамі БССР, я такога клопату не заўважаю.

Існуюць, напрыклад, цэлыя гарады і пасёлкі ў Заходняй Сібіры, дзе беларусы складаюць значную частку насельніцтва. У мясцовым друку часам з'яўляюцца навіны з Беларусі, калі-нікалі можна набыць і беларускія газеты (праўда, толькі на рускай мове і дзесяцідзённай «свежасці»). Не дзіва, што беларускую мову тут можна пачуць толькі ў радыёперадачах, як кажуць, «адтуль». Для Беларускага ж радыё гэтая частка свету — па-за ўвагай.

Каму даводзілася надоўга быць адарваным ад роднага дому, той па-сапраўднаму можа зразумець, што такое радзіма. Няўжо ж нельга дапамагчы нашым землякам падтрымліваць пастаянную духоўную сувязь з Беларуссю?

Стыхійна форма такіх кантактаў ужо знойдзена — гэта зямляцтвы. У Калінінградзе, Вільні, Ленінградзе, Маскве яны ўжо існуюць. Ведаю, што ў Сібіры створаны прыбалтыйскія зямляцтвы. Узнікла вялікая патрэба сёння ў стварэнні беларускіх. Думаецца, што клопат аб іх нараджэнні, аб дапамозе землякам магла б узяць на сябе Камісія па нацыянальных *пытаннях пры Вярхоўным* Савеце БССР.

**В. ДУДАРАЎ,**
**электраманцёр-вахтавік.**
**Ніжневартаўскі раён,**
**п. Старыя Покачы.**

□

Нядаўна ў Навагрудскім раёне выступаў з лекцыямі аб праблемах міжнацыя*нальных адносін выкладчык* Гродзенскага медінстытута В. Ц. Калакольнікаў. Тое, што мне давялося пачуць, не толькі здзівіла, але і абурыла.

Пачаў Віктар Цімафеевіч са слоў У. І. Леніна аб тым, што ўсялякая рэвалюцыя павінна ўмець абараняць сябе. Перабудова, працягваў ён,— таксама рэвалюцыя. І цяпер настаў час абараняць яе.

З усім гэтым нельга не пагадзіцца. Але ад каго раіў лектар нам абараняцца? Ад «унутраных ворагаў». Хто ж яны? Гэта розных масцей нацыяналісты, якія аказаліся не толькі ў Нагорным Карабаху і вакол яго, але і ў розных іншых мясцінах. У тым ліку і ў нас пад бокам. Канкрэтна? Ды ўсё тыя ж Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч. У гэтую ж абойму трапілі і Чынгіз Айтматаў, і Аляксей Карпюк, які, на думку лектара, «сам не ведае беларускай мовы».

*Пакончыўшы з «нацыяналістамі»,* лектар пайшоў далей — замахнуўся на беларускую мову.

Сёння, сцвярджаў паважаны навуковец, беларуская вёска карыстаецца тою ж моваю, якою яна карысталася і 100, і 200 гадоў назад. Але гэтую мову літаратурнай не назавеш, гэта толькі набор разнастайных дыялектаў. А ў беларускіх гарадах, з прычыны спрадвечнай шматнацыянальнасці іх насельніцтва, беларуская мова ніколі не была сродкам зносін паміж людзьмі.

Так што, рабіў выснову лектар, беларуская мова не прыжылася на Беларусі па аб'ектыўных прычынах. Аднак, суцяшаў ён, бедаваць нам няма чаго. У нас столькі заключаецца міжнацыянальных шлюбаў, аднак дзеці нараджаюцца. Значыць, людзі могуць дамовіцца між сабой і без ведання роднай мовы. Дык навошта ж плакаць па ёй?

Калі я зрабіў лектару заўвагу, што ён стварае вобраз ворага там, дзе яго няма, што па пытаннях мовы ён або недастаткова дасведчаны, або свядома перакручвае факты, ён тут жа абвінаваціў мяне: «Не зря говорят, что на воре шапка горит,— сказаў ён.— Я вас лично не трогал, а вы бросились защищать националистов...»

**У. БАРМУТА.**
г. Навагрудак.

□

Выклікала роздум публікацыя «Перабудова і мы: урокі, спадзяванні, трывогі» («ЛіМ» за 13 студзеня г. г.), у прыватнасці, выступленне эксперта БФК А. Хатэнкі. Патрабаваць, як гэта рабіў адзін з кіраўнікоў фонду, поўны спіс калядоўшчыкаў, каб прозвішча было і абавязкова месца працы! Па-мойму, да большага абсурду дадумацца нельга!

Чаму традыцыйныя беларускія святы, звычаі і абрады ўсё яшчэ выклікаюць такі панічны страх у некаторых нашых кіраўнікоў? Якую крамолу можна адшукаць у цудоўных песнях, абрадавых дзеях, прымаўках, што адбіраліся і шліфаваліся народам на працягу стагоддзяў, дзе адлюстраваліся светапогляд, нацыянальны характар, маральна-этычныя і эстэтычныя погляды беларусаў? Чаму ніхто з тых, хто забараняе, удакладняе, узгадняе, ніколі не выступіць на старонках друку, па тэлебачанні, радыё з тлумачэннем сваёй пазіцыі?

Негатыўнае стаўленне да народнай абраднасці, як сведчыць прэса, назіраецца і ў некаторых іншых саюзных рэспубліках. Але такога, як у нас, калі залівалі купальскае вогнішча з пажарных машын (было гэта ў Заслаўі ў 1987 годзе), напэўна, нідзе больш не сустракалася.

*Усё нешта вышукваем, нечага баімся...* Чаму б такую зацікаўленасць не праявіць у адносінах да афіцыйных рытуалаў,— скажам, да абраду заключэння шлюбу? Як часта маладыя чуюць казённыя словы, бездапаможныя вершы, накшталт гэтага:

**«Пусть Вам запомниться эта минута,**
**Да будет счастлива она.**
**Отныне Вы не просто друг**
**и подруга,**
**Отныне Вы муж и жена»**
**(г. Докшыцы).**

Вось яшчэ прыклад: «У вас сегодня замечательный день. Вы сознательно решили создать еще одну семейную ячейку, из которых состоит наше советское общество. Это обязывает Вас ко многому не только друг перед другом, но и перед обществом строителей коммунизма» (Лепельскі раён, абрад заключэння шлюбу); або: «Не выставляйте свои чувства напоказ, берегите их от чужого любопытного глаза. Решение предупредить беременность ставьте на строго индивидуальную медицинскую основу» (г. Клімавічы).

Хіба можна параўнаць гэтыя бяздушна-халодныя словы з народнымі пажаданнямі:

**Благаслаўляем вас жытам, бытам,**
**Доўгім векам, добрым здароўем,**
**Каб доўга жылі, каб нас не забылі,**
**Адно аднаго шанавалі.**
**Хлебам-соллю сустракаем**
**І на быт добры, і на век доўгі.**

А колькі цудоўных вясельных песень у нашага народа! Аддзел фальклору Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР выдаў 6 тамоў. Але гэтае багацце амаль не выкарыстоўваецца, што, дарэчы, нікога з функцыянераў асабліва не цікавіць. А вось спіс калядоўшчыкаў — гэта ў абавязковым парадку!

Тут бы радавацца, што нехта яшчэ праяўляе зацікаўленасць: у холад і мароз ідзе спяваць і танцаваць. Бо за гады застою выхавалі такога ўжо сузіральніка, абыякавага да ўсяго і ўсіх. А ў любым жа абрадзе вельмі важны саўдзел.

Было б няпраўдай сцвярджаць, што традыцыйныя святы і абрады цікавяць усю моладзь. Наадварот, нацыянальны нігілізм шматлікіх беларусаў, іх негатыўнае стаўленне да роднай мовы, гісторыі, культуры праяўляецца і тут. Тым больш трэба ўсяляк падтрымліваць энтузіястаў.

**Т. КУХАРОНАК,**
**кандыдат гістарычных навук.**
г. Мінск.

□

*У 1937 годзе я і мой сябра* Дзянісаў Аляксандр Ануфрыевіч (ён — інвалід вайны, жыве ў Жлобіне) заканчвалі Рагачоўскі педтэхнікум. Былі мы ў тэхнікуме камсамольскімі важакамі: я — намеснік вызваленага сакратара камітэта камсамола, ён — член камітэта. У Рагачоўскім РК ЛКСМБ нас ведалі не з дрэннага *боку. Аднойчы прапанаваў нам першы* сакратар перайсці на працу ў райком. Прапанова, што ні кажы, заманлівая: працаваць нам давялося б не на сяле, а ў горадзе, хоць невялікімі, але начальнікамі былі б, ды і справа знаёмая. І ўсё ж — неяк боязна. Цягнулі мы з адказам каля месяца і ўрэшце адмовіліся: не пойдзем. Хацелася праверыць сябе на працы ў школе — чаго мы вартыя як спецыялісты.

— Эх, хлопцы, шкода...— з жалем уздыхнуў першы сакратар.— Будзеце мяне ўспамінаць...

Добры быў чалавек. Толькі вось прозвішча яго не памятаю.

Так мы з сябрам і раз'ехаліся на канікулы, не даўшы згоду. А ў сярэдзіне жніўня таго ж 1937 года вярнуліся ў Рагачоў, бо чамусьці не даслалі нам накіраванняў на работу. Разам з сябрам пайшлі да дырэктара тэхнікума. А той на нашы пытанні — куды ехаць на працу— адказваў: «Сам нічога не ведаю».

Як высветлілася, райвыканком не дзейнічае, райком партыі «арыштаваны». Наш «шэф», першы сакратар РК ЛКСМБ, у турме — «вораг народа».

Купілі мы кавун, селі ў скверыку, адзін на аднаго паглядзелі: «Во дзе наша пагібель была!» — вусны не гаварылі, нельга; вочы так казалі.

І колькі ўжо часу мінула, заўжды пры сустрэчах успамінаем таго сакратара, той жудасны 1937 год: былі ж і мы тады за крок ад Курапат...

**П. БАНДАРЧУК,**
**настаўнік-пенсіянер, партызан і франтавік Вялікай Айчыннай вайны.**
п/а Астролічы Кобрынскага раёна.

□

*ПАЭТЫЧНЫ ВОДГУК*

### Лаўцам чорнага ката ў чорным пакоі

**Не давымотвайце мне сілы,**
**Не папіхайце да мяжы,**
**Дзе шлях мой па зямельцы мілай**
**Упрэцца ў сумныя крыжы —**
**І стане ў свеце крыжам болей:**
**О, як дажыць хацела б я**
**Да дня, калі змагу без болю**
**Аб Беларусі запяяць!..**
**Калі пабачу, што зямную,**
**Дзівосную красу яе**
**Больш пустадомак не спляндруе,**
**А мову пан не аплюе**
**Чыноўнаю ілжывай фразай,**
**Што дбае пра культуру ён,**
**А сам па-беларуску й сказу**
**Не вымавіць здаўна-давён,**
**Хоць нарадзіўся тут, і вырас**
**На гэтай прадзеднай зямлі,**
**Што ўсім нам дадзена навырост,**
**Каб дасканаліцца маглі**
**Не ў спусташэнні, а ў любові.**
**О, як дажыць хацела б я**
**Да дня, калі змагу без болю**
**Аб Беларусі запяяць!..**

**Ніна МАЦЯШ.**
г. Белаазёрск.

# НАДЗЁННАСЦЬ — ХЛЕБ ПУБЛІЦЫСТЫКІ

**Як паведамлялася ўжо ў «ЛіМе», 10 студзеня г. г. у Мінску ў Доме літаратара адбылося выязное пасяджэнне Савета па публіцыстыцы СП СССР з такім парадкам дня: «Аб ролі і значэнні публіцыстыкі на сучасным этапе перабудовы».**

Расказ пра гэтую неардынарную падзею ў літаратурным жыцці рэспублікі я пачну з невялікага рэпартажу аб паездцы нашых гасцей у Курапаты— месца, якое сёння ці не ва ўсім свеце стала сімвалам жудаснага сталінскага тэрору.

...«Рафік» імчыць нас па Мінску. Вуліца Якуба Коласа, Лагойскі тракт, мікрараён Зялёны Луг-6, кальцавая дарога — вось ён, ледзь аснежаны сёлетняй зімой лес. «Так блізка? —здзіўляецца Юрый Дзмітрыевіч Чарнічэнка. — Амаль у самім горадзе». Тлумачым яму, што перад вайной Мінск быў куды меншы, адсюль да горада было кіламетраў сем-восем.

Сыходзім з шашы, ідзём метраў сто па шырокай просецы ўглыб лесу, потым зварочваем управа, і праз хвіліну-дзве бачым сярод соснаў некалькі прыцярушаных снегам напаўзакапаных ям. Расказваем, што мінулым летам тут праводзілася эксгумацыя астанкаў. Было раскапана каля дзесяці магіл. У кожнай знойдзена па 50—60 прастрэляных чарапоў, другія касцяныя астанкі, спарахнелыя рэшткі адзення, расчоскі, грабянцы, кубачкі, іншыя рэчы. Госці, зняўшы шапкі, моўчкі пастаялі ля адной з магіл.

Западзіны — сляды пахаванняў — па ўсім лесе. Літоўскі публіцыст Рымантас Ваганас заўважае, што і ў Літве перад самай вайной органамі НКУС дзесяткі тысяч людзей былі расстраляны, высланы на ўсход, у сталінскія лагеры.

— На ўскраіне Кіева знайшлі месца, дзе ў канцы трыццатых гадоў таксама праводзіліся масавыя расстрэлы, — гаворыць украінскі пісьменнік Аляксей Дзмітрэнка. — На жаль, глыбокі пошук усіх абставін гэтай трагедыі наўрад ці ўдасца правесці, бо гарадскія ўлады акурат у гэтым месцы распачалі будаўніцтва чыгуначнага вакзала.

Маскоўскі публіцыст Ігар Дуэль заўважае, што Беларусь паказала прыклад мужнага, бескампраміснага, прынцыповага выкрыцця сталінскіх злачынстваў...

Выязное пасяджэнне Савета па публіцыстыцы сабрала вялікую аўдыторыю. Ва ўсякім разе, у канферэнц-зале Дома літаратара, дзе яно пачалося, свабодных месц не было. Пасяджэнне адкрыў **Ніл Гілевіч.** Ён ахарактарызаваў публіцыстыку, як самы аператыўны і дзейсны літаратурны жанр у справе перабудовы.

Па традыцыі (ох, гэтыя традыцыі!) пасяджэнне пачалося з дакладаў, якія, праўда, далікатна былі названы паведамленнямі. З першым выступіў старшыня секцыі публіцыстыкі і нарыса Саюза пісьменнікаў БССР **Васіль Якавенка,** з другім — доктар філалагічных навук, прафесар БДУ імя У. І. Леніна **Барыс Стральцоў.**

В. Якавенка, назваўшы публіцыстыку «рэжучай часткай мастацкага інструмента», адзначыў, што станаўленне гэтага жанру ў беларускай літаратуры звязана з іменамі Янкі Брыля, Васіля Віткі, Веры Палтаран, Ігната Дуброўскага, Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Янкі Сіпакова, Віктара Карамазава, Святланы Алексіевіч, Анатоля Вярцінскага, Анатоля Казловіча і іншых. Менавіта яны ў сваіх публіцыстычных творах прадэманстравалі ўзоры аналітычнага мыслення, уменне даследаваць глыбінныя, складаныя працэсы жыцця. Дакладчык расказаў прысутным аб рабоце секцыі публіцыстыкі, якая, на яго думку, апошнім часам актывізавалася. У доказ гэтага ён прывёў некалькі праведзеных секцыяй мерапрыемстваў, звязаных з праблемамі экалогіі. З другога боку, зазначыў В. Якавенка, часта тыя, каго крытыкуюць, не рэагуюць на публіцыстычныя выступленні пісьменнікаў. З абурэннем гаварыў ён аб спробах чыноўнай бюракратыі прадставіць дзейнасць многіх беларускіх пісьменнікаў у крывым люстэрку, навесіць на іх ярлыкі нацыяналістаў, пасварыць інтэлігенцыю і рабочы клас.

У паведамленні Б. Стральцова быў зроблены экскурс у гісторыю беларускай публіцыстыкі, ля вытокаў якой стаялі Платон Галавач, Міхась Чарот, Кузьма Чорны і іншыя выдатныя беларускія пісьменнікі. Дакладчык ахарактарызаваў творчасць некаторых сучасных пісьменнікаў - публіцыстаў, падкрэсліў, што шмат яшчэ пішацца і выдаецца публіцыстыкі шэрай, нецікавай.



Выступае Юрый ЧАРНІЧЭНКА.

Хацеў па звычцы напісаць: «Потым пачалося абмеркаванне дакладаў», але спахапіўся. Якраз гэтага і не было. Даклады проста былі своеасаблівай запеўкай для надзвычай вострай дыскусіі, для ажыўленага абмену думкамі аб тым, як пераадолець супраціўленне перабудове, як зрабіць працэс дэмакратызацыі грамадства незваротным, паглыбіць галоснасць, спыніць неканстытуцыйны кантроль «уладу маючых» над сродкамі інфармацыі і г. д.

Гаворка адбылася вялікая, перадаць яе ўсю немагчыма ў межах газетнай справаздачы, таму *падаю толькі* асобныя фрагменты выступленняў.

### З выступлення С. АЛЕКСІЕВІЧ:

— Толькі што выйшаў чарговы нумар «Политического собеседника» з артыкулам журналісткі Бумажковай, дзе робіцца яшчэ адна спроба ачарніць, абылгаць Васіля Быкава і Алеся Адамовіча. Ці ўзяць, напрыклад, такі факт. Нядаўна была ў Любанскім раёне, дзе жывуць мае сваякі, размаўляла там са швагерам, які з'яўляецца парторгам мясцовага саўгаса. І пачула ад яго наступнае: «Ваш Быкаў — наркаман, а Адамовіч — самазванец, які выдае сябе за ўдзельніка Айчыннай вайны. Па іх, па такіх, як яны, даўно плача Кольскі паўвостраў». Бачыце, чым пагражаюць? Не думаю, што лухту пра Быкава і Адамовіча мой сваяк прыдумаў сам.

Як усё-такі адарваліся ад народа многія партыйныя функцыянеры! Помню, на адным з мітынгаў, арганізаваных нефармаламі, выступалі рабочы і партыйны работнік. Ледзь не кожнае слова рабочага сустракалася апладысментамі, слухаць жа інструктара было сорамна: настолькі ён не ўмеў гаварыць з людзьмі, настолькі быў у палоне сцёртых ад доўгага ўжывання стэрэатыпаў.

Дарэчы, пра стэрэатыпы. Летась мне давялося пабыць у Афганістане, бачыць там кроў і слёзы. Многія гады мы былі ў палоне, па сутнасці, памылковага ўяўлення пра гэту вайну. Пра вайну гэтую, пачатую дзесяць гадоў назад брэжнеўскай клікай, трэба гаварыць народу праўду.

### З выступлення А. АНФІНАГЕНАВА
(г. Масква):

**— Нядаўна я з хваляваннем паглядзеў ваш фільм «Боль», прысвечаны лёсу воінаў-афганцаў, і хачу сказаць, што беларусы шмат робяць для таго, каб сцвердзіць ідэалы перабудовы, хоць на гэтым шляху ім даводзіцца пераадольваць супраціўленне сіл застойнага часу.**

**Зараз шмат гавораць аб кансалідацыі перабудовачных сіл. Але не з усімі, хто на словах нібыта за перабудову, я, напрыклад, хачу кансалідавацца. Зрэшты, і Ніна Андрэева дакляравала перабудову. Мне больш падабаецца слова салідарнасць — салідарнасць сапраўдных прыхільнікаў перабудовы.**

**Я хачу звярнуць вашу ўвагу на адну кнігу, якая летась выйшла ў Маскве. Называецца яна «Іншага не дадзена» і ўключае шэраг артыкулаў вядомых савецкіх пісьменнікаў, вучоных, грамадскіх дзеячаў, артыкулаў, пазначаных высокім узроўнем грамадскай свядомасці. Кнігу аб'ядноўвае адна думка — альтэрнатывы перабудове няма. Тым не менш кнігу не ўсе прымаюць, у тым ліку, і ў пісьменніцкім асяроддзі.**

### З выступлення Г. ЛІСІЧКІНА
(г. Масква):

— Мне здаецца, што ў нас няма эканамічных цяжкасцей. Пра якія эканамічныя цяжкасці можна зараз гаварыць, калі валавы прадукт у нас ужо складае 1 трыльён 460 мільёнаў рублёў, калі за апошнія 10 гадоў мы толькі на нафце зарабілі 176 мільярдаў долараў, калі здабыча золата ў нас — 250—350 тон у год (паводле замежных крыніц). Староннi назіральнік скажа: «Таварышы, вы ж як сыр у масле павінны плаваць!» А ў нас ні сыру, ні масла.

М. С. Гарбачоў гаворыць аб тым, што мы знаходзімся ў перадкрызісным стане. З гэтым я згодны. Але мы знаходзімся яшчэ акрамя ўсяго ў найглыбейшым ідэалагічным крызісе. Мы з яго не выберамся да таго часу, пакуль не адкінем усе догмы, на якія молімся.

У першую чаргу, мы ніяк не можам вызначыць, дзе мы знаходзімся. Адны кажуць, што сацыялізм яшчэ не пабудаваны, другія — не, пабудаваны, толькі з дэфармацыямі. Гэта ўсё гульня ў дэфініцыі. Таму мы павінны ўбачыць тое, што бачыць усё большая і большая колькасць нашых калег у сацыялістычных краінах: мы маем змешаную эканоміку, жывём у змешаным грамадстве. І хоць цяпер прыняты шэраг законаў і аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці, і аб кааперацыі, і аб дзяржпрадпрыемстве, усё роўна прадаўжае захоўвацца манапалізм дзяржаўнай уласнасці. Да гэтага пірага не дапускаецца ні кааператыўная ўласнасць, ні індывідульная праца. Гэты манапалізм і з'яўляецца той базай, на якой адбываецца ўзвінчванне цэн, вымыванне танных прадуктаў. Таму да таго часу, пакуль мы не даб'ёмся, што ўсе сектары будуць раўнапраўныя, пакуль усе сектары не стануць побач да прылаўкаў, каб на ўмовах конкурсу атрымліваць і маттэхзабеспячэнне, і працоўныя рэсурсы, і капіталаўкладанні, датуль нас будзе знішчаць, таптаць дзяржаўны манапаліст.

Мы павінны карэнным чынам пераглядзець свае адносіны да сялянства. Сталінізм разглядаў яго як патэнцыяльную Вандэю. Гэтае пагардлівае, насцярожанае, варожае стаўленне да галоўнага класа захоўваецца дасюль. Мы гаворым пра арэнду, пра сямейны падрад, пра сямейныя фермы— гэта ж усё несур'ёзна! Таму што ўсё гэта імкнуцца прывіць на базе манапольнага становішча дзяржаўных гаспадарак. Сёння дырэктар саўгаса, старшыня калгаса дыктуе адны ўмовы, заўтра — другія.

Наша паняцце індустрыялізацыі мае патрэбу таксама, на мой погляд, у карэнным пераглядзе, таму што індустрыялізацыя разумеецца як комін, з якога валіць дым, і вось лічыцца, што гэтых комінаў трэба паставіць як мага больш.

...Свет адзіны. Свет адзіны не *толькі ў ваенных, а і ў эканамічных* адносінах. Разгарэўся першы энергетычны крызіс у 70-я гады, потым другі энергетычны крызіс — мы тады радаваліся: у іх крызіс — ура, у іх пажар — гэта цудоўна! Але ж агонь перакідваецца і на нас! Не ведаю, як у замкнёнай краіне пабудаваць сацыялізм. Хіба толькі такі, які пабудаваў Сталін. Замкнёнасць не нараджае нічога добрага, гэта база для тыраніі, бюракратызму, валюнтарызму.

### З выступлення А. СІДАРЭВІЧА:

**— Афіцыйная прапаганда шмат гаворыць пра небывалы ўздым беларускай культуры. Але мы дажыліся да таго, што ў нас цяпер меней тэатраў, чым было іх да вайны, не выраслі, як гэта сцвярджаецца, тыражы кніг, ва ўсякім разе, на кожнага жыхара рэспублікі іх прыпадае сёння не больш, чым пяцьдзесят гадоў назад. Няма, па сутнасці, нацыянальнага кінематографа. Я не кажу ўжо пра заняпад, у якім апынулася наша мова. А хто адкажа за закрыццё школ, газет, тэатраў нацыянальных меншасцяў, якія жывуць у нашай рэспубліцы?**

**У краіне створаны «імідж» Беларусі як рэспублікі, дзе гарманічна развіваюцца і эканоміка, і культура, і наогул усе сацыяльныя інстытуты, дзе няма нават сур'ёзных экалагічных праблем. Гэты вобраз, намаляваны ружовымі фарбамі, наскрозь фальшывы. У нас не менш нявырашаных маральных і сацыяльных праблем, чым у іншых рэспубліках.**

### З выступлення А. НІКАЛАЙЧАНКІ:
(газета «Вячэрні Мінск»):

— Сябры зараз часта пытаюцца ў мяне: «Як ты можаш працаваць у нашай «Вячорцы»? Так, мне горка за многае, што друкуе мая газета. У яе выпрацавалася тэндэнцыя лаяць усё, што не ўкладваецца ў звычныя схемы і рамкі. Мы ператварыліся ў пудзіла для маладзёжных аб'яднанняў, якія рупяцца аб нацыянальнай культуры, ды не толькі для іх, — для інтэлігенцыі таксама. Мы вядзём сябе несумленна ў адносінах да свайго чытача, бо ўзялі за правіла друкаваць толькі лісты, дзе падтрымліваецца пазіцыя газеты, астатнія ідуць у архіў.

А. Нікалайчанка гаварыў таксама аб тым, што работнікі гаркома партыі дыктуюць газеце, што можна друкаваць, а што нельга.

### З выступлення А. ДЗМІТРЭНКІ
(г. Кіеў):

**— Уважліва сачу за беларускай публіцыстыкай, якая даўно выйшла на ўсесаюзную арэну. Яна ўражвае сваёй баявітасцю, смеласцю, прынцыповасцю. *Менавіта беларускія публіцысты* адкрылі свету трагедыю Курапатаў, куды мы ўчора з'ездзілі, каб схіліць галовы перад памяццю тысяч ахвяр сталінскага тэрору. У нас, на Украіне, на пачатку трыццатых гадоў загінула ад голаду, арганізаванага сталінскай клікай, некалькі мільёнаў чалавек.**

**Яшчэ адна наша бяда — хворая экалогія. Я даследаваў Днепр ад яго вытокаў да вусця, у некаторых месцах забруджанасць ракі ў 18 разоў перавышала норму. Мы з вамі блізкія суседзі, усё ў нас узаемазвязана. Калі на вашым Палессі асушаюць балоты — баліць нам: перасыхаюць калодзежы, выветрываецца глеба. Калі неразумная меліярацыя праводзіцца на ўкраінскім Палессі, зніжаюцца ўраджаі і ў вас.**

### З выступлення А. КАЗЛОВІЧА:

— Я, як публіцыст, часта пазбаўлены права пісаць пра тое, што кладзецца на душу. Хацеў бы я, напрыклад, расказаць на старонках газеты, як на Мінскім заводзе халадзільнікаў мне хлусіла заводскае начальства, калі я пацікавіўся ў яго сацыяльнай палітыкай прадпрыемства. Хто гэта надрукуе? Хто надрукуе аб праліках у сельскагаспадарчай вытворчасці рэспублікі? У 1987 годзе Беларусь абвясціла на ўсю краіну, што ёю атрыманы небывалы ўраджай збожжавых— 35 цэнтнераў з гектара на круг. Аказалася, лічба гэта завышаная, што пацвердзіў народны кантроль рэспублікі. Яшчэ факты. Есць у нас некалькі старшынь калгасаў, дырэктараў саўгасаў, крытыка якіх не дазваляецца, на яе накладзена табу.

**(Працяг на стар. 6—7).**

некаторыя «раёнкі» ў гэтых абласцях?

Яшчэ раз хацелася б вярнуцца да пытання напісання па-беларуску назваў населеных пунктаў. Сітуацыя амаль не мяняецца. Ад Мінска да Жыткавіч раней можна было ўбачыць на роднай мове толькі адну назву — Старобін. А гэта ж цалкам прэрагатыва мясцовых улад! Бачу тое на прыкладзе свайго раёна. Сёлета памянялі на беларускую назву пры ўездзе ў Жыткавічы.

Летась у лісце ў «ЛіМ» я ўжо гаварыў пра няправільнае напісанне назвы маёй роднай вёскі. Раённая газета «Светлае жыццё» як пісала «Мілашавічы», так і піша. Хоць абласная «Гомельская праўда» не дапускае іншага варыянту, акрамя правільнага — Мілашэвічы.

А што робіцца з назвамі вёсак на аўтастанцыях! Скажам, у аўтакасе Турава можна знайсці: М. Малешев, Малишев і Малышев; Симоновичи і Симоничи; Симоноцкий Млынок і Симноничский Млынок; вёска Рычоў наогул перайначана ў Рычер... На аўтастанцыі ў Жыткавічах: Мылышев і Малишев; Пласток і Плосток; Червоное і Чирвоное; Залютичи і Золютичи; Грибок і Грыбок; Полостевичи і Полостьсвичи. У г. п. Лельчыцы: Симоничи і Симоновичи; Син. Полье і Син. Поле; Малешево і Малишево. Як бачым, дапускаецца не толькі інварыянтнасць, але і звычайная непісьменнасць. Тым самым выказваецца не толькі непавага да пасажыраў, але і да духоўнай спадчыны народа.

Вакол нас усё роднае, святое і непаўторнае. Трэба не толькі вучыцца любіць, шанаваць, але і берагаць яго. Дзеля таго, каб стаць духоўна багацейшымі, мець права паважаць сябе. Сапраўды выхаваны чалавек ніколі не быў і не стане спажыўцом і эгаістам.

На жаль, эгаістаў і спажыўцоў сярод нас вельмі многа. Якімі толькі вышэйшымі інтарэсамі народа яны ні імкнуцца вытлумачыць сваю абыякавасць, свае непаважлівыя адносіны да нацыянальных скарбаў, да нашай роднай мовы! Як хочацца звярнуцца да іх словамі незабыўнага Міхася Стральцова: «КАЛІ ДУША МАЎЧЫЦЬ, НЕ ГАВАРЫЦЕ ЛЕПШ».

**Алесь ЛІСІЦКІ.**

## З выступлення Ю. ЧАРНІЧЭНКІ

(г. Масква):

— Гэта ж трэба так пагадаць — выпусціць такі нумар «Политического собеседника» акурат да нашага прыезду. Прачытаў у ім артыкул, дзе трэціруюцца Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч і захацелася мне яго схаваць на памяць. Ведаеце, нядаўна я заплаціў немалыя грошы за стэнаграфічную справаздачу аб сумнаславутай сесіі УАСГНІЛ у 1946 годзе, на якой правіў баль Лысенка. А «Собеседник» каштуе ўсяго 35 капеек, хто не чытаў — ідзіце купіце і захавайце «на памяць».

Хачу сказаць, што мы былі вельмі ўзрушаны тымі падзеямі, што адбыліся ў апошні час у вашым краі. Так, нялёгкі перад намі ляжыць шлях перабудовы.

Лічу, што выязное наша пасяджэнне прайшло плённа. Мы нават не чакалі такой вострай дыскусіі, такога зацікаўленага абмену думкамі. Гэта добра, што сярод яе ўдзельнікаў не было абыякавых людзей. Публіцыстыцы абыякавасць супрацьпаказана.

●

*** На пасяджэнні савета выступілі таксама К. Шэрман і І. Васілеўскі.**

**...На заканчэнне сустрэчы прысутным былі паказаны фільмы беларускіх дакументалістаў «Алесь Адамовіч» і «30 кастрычніка 1988 г.».**

**М. ЗАМСКІ.**

*Падзеі і даты*



# Слова, незалежнае ад славы

**Да 75-годдзя з дня нараджэння Аркадзя КУЛЯШОВА**

Настаўніцкае, на ўсё жыццё памятнае ўражанне: першы ўрок па паэме Аркадзя Куляшова «Сцяг брыгады». Пасля ўступнай гутаркі пачынаю чытаць. Вайна, развітанне героя з родным горадам. І ледзьве я даходжу да маналога лялькі, як голас мой перастае мяне слухацца.

**Дзецям ногі баляць, іх дарога**
**цяжкая стамляе.**
**Я ж слухмяна пайду за табою,**
**бо я нежывая.**
**Дзеці просяць то есці, то піць,**
**Пыл сухі ім раты забівае,**
**Я ж не буду прасіць,**
**Бо я лялька, бо я нежывая.**

І каб не расчуліцца зусім ужо прыкметна, звяртаюся да аднаго з лепшых вучняў: «Пачытай, калі ласка, ты». Так здаралася заўсёды — у кожным новым дзесятым класе. Да гэтай мясціны **нельга было прывыкнуць.**

«Суровая і гераічная, мужная і стрыманая...» Здаецца, што не крытык (В. Бечык) піша пра паэму Куляшова, — паэт, адсюль і экспрэсіўнасць эпітэтаў, і ўзвышанасць тону. Але тут няма нічога ад экзальтаванасці. «Звышправоднасць» пачуцця, здольнасць паэтычнага слова адгукацца ў чытацкіх сэрцах — гэта найпершая і асноўная якасць сапраўднай паэзіі.

Школьныя падручнікі звыкла прадстаўляюць нам творчасць Куляшова як суцэльны поспех, як шлях па ўзыходзячай — ад першага зборніка да «Сцяга брыгады» і далей. Рэзкіх скачкоў, нядавочных няўдач сапраўды не было, але да паэта даволі рана прыйшло адчуванне, што ён здольны на большае. Вось як ацэньваецца ім, напрыклад, цыкл «Сонечнае заўтра», прысвечаны калектывізацыі (з кнігі Р. Бярозкіна «Звенні»): «Цьмяна адчуваю, што атрымліваюцца нататкі, дарожныя нарысы, а не вершы». І далей: «...напісанае не задавальняе мяне... (...) Нарэшце як адкрыццё, як прасвятленне — «Краіна Муравія» Аляксандра Твардоўскага. Я нікольі не перабольшу, калі скажу, што, як паэт, сваім нараджэннем я абавязаны менавіта гэтаму твору».

Нагадаю, што пісалася гэта ва ўзросце 22 гадоў — калі ў Куляшова было ўжо пяць паэтычных кніг!

Не ў лепшую пару прыходзіў ён у літаратуру. Ужо рэарганізаваны ў БелАПП «Маладняк» падзялілі пісьменнікаў на буржуазных, «папутнікаў», сялянскіх і пралетарскіх, ужо «на ролю першай асобы ў крытыцы прэтэндаваў», па словах Б. Сачанкі, Бэндэ. Пракацілася першая хваля звальненняў з пасад і арыштаў, каяліся ў «нацдэмаўскай заразе» Колас і Купала...

З успамінаў Валянціны Куляшовай, дачкі паэта («ЛіМ», 30.01.1987): у 37-ым Куляшова паклічуць у СП і прапануюць разысціся з жонкай — сваячкай «ворага народа» Платона Галавача. Летам 38-га ў вёсцы, дзе адпачывала сям'я, тры дні насупраць хаты стаялі, змяняючыся, чужыя людзі. (Дажыві Аркадзь Аляксандравіч да перабудовы, ён добра зразумеў бы героя «Маскоўскай вуліцы» Б. Ямпольскага.) Больш таго: К. П. Панамарэнку з ведамства Яжова прынеслі ордэр на арышт беларускіх пісьменнікаў, і там апошнім, 13-м па ліку, у спісе стаяла імя Куляшова. Падмахні Панамарэнка страшную паперу...

Я невыпадкова прыводжу менавіта гэтыя факты з біяграфіі паэта. Апошнім часам, звяртаючыся да трагічных падзей 30-ых гадоў, той-сёй кідае папрок у адрас літаратараў — за званні, пасады, творы, прысвечаныя Сталіну... Папракнулі б яшчэ за тое, што засталіся жывымі. На жаль, не ўсе разумеюць, як мала значыла жыццё чалавечае ва ўмовах аўтарытарнасці, якой пясчынкай ляжала яно пад капытамі бізуном разагнанай гісторыі...

Працяглы час — ён прыпадае на 50-ыя гады — Аркадзь Куляшоў амаль не пісаў, што, вядома ж, было заўважана і калегамі, і чытачамі. Унутраная вычарпанасць («спісаўся») ці перыяд назапашвання энергіі, пераасэнсавання яшчэ нядаўна непарушных ісцін? Адказам на пытанне стала «Новая кніга» (1964). Яна адкрыла нам новага Куляшова — і падняла беларускую паэзію на яшчэ адну прыступку ў мастацкім адлюстраванні рэчаіснасці.

Застаючыся верным жанру паэмы («Цунамі», «Далёка да акіяна»), паэт усё ж у апошняе дзесяцігоддзе сваёй творчасці аддае перавагу лірыцы. «Сасна і бяроза», «Мая Бесядзь», «Хуткасць» — не проста зборнікі,—кнігі вершаў, пазначаныя цэласнасцю, канцэптуальнасцю паэтычнага бачання, дасканаласцю формы. Падкрэсліваць апошняе ў дачыненні да Куляшова, можа, і лішне. Не таму, што гэта як бы само па сабе зразумела. Проста форма ніколі не станавілася для яго самамэтай. Яна была толькі сродкам для выяўлення **галоўнага** — зместу. Сочыш не за метафарамі, не за кідкімі слоўцамі — за найтанчэйшымі пераходамі думкі. Найвышэйшае майстэрства — калі майстэрства не заўважаеш, як не заўважаеш звычайна свайго здаровага сэрца. Вось кароценькі верш для прыкладу.

**Людское сумленне за грошы**
**Купілі — прыстойны тавар.**
**Цяпер яно беднасці можа**
**З пагардаю глянуць у твар,**
**Зрабіцца паважным,**
**вяльможным,**
**Пашану і славу здабыць...**
**Адно яно толькі не можа —**
**Сумленнем някупленым быць.**

«Хуткасць», як кожную апошнюю прыжыццёвую кнігу, чытала з асаблівай засяроджанасцю — нібыта шукала нейкага сведчання, нейкага знака. Кніга гэта сапраўды выніковая — па задуменнасці тону, сталай выверанасці радка, па спакойнай гатоўнасці — падсумаваць, азірнуўшыся на пройдзены шлях, набыткі.

**Хто ты, мой год? Завеі лютай**
**брат**
**Ці ручая, санавіком**
**раскутага? —**

пытаецца паэт напярэдадні свайго шасцідзесяцігоддзя. Пытаецца, нібы зазірае ў вочы будучыні і таксама шукае — **сведчання, знака.** А паколькі «Ужо не абрусамі, а ўспамінамі сталы засланы...» — успамінае, разважае, падсумоўвае. Гартае старую запісную кніжку (*цыкл з пяці вершаў так і называецца:* «Запісная кніжка»). У густа спісаных старонках — цэлае жыццё з яго нязменнымі сяганнямі ад шчасця да адчаю.

**Ты, кніжка запісная, — дом,**
**дзе свішча**
**Скразняк гадоў, віхор няспелых**
**дум,**
**Кладоўка для зярнят**
**і папялішча**
**Пачуццяў марных, пушчаных**
**на глум.**

**Ты — клінапіс з неразгаданай**
**вяззю,**
**На турмы не падобная турма,**
**Дзе вобразам маім, забытым**
**вязням,**
**Прызначанага тэрміну няма.**

Радок, як бачыце, па-ранейшаму энергічны, пругкі, думка разняволеная, халадка душэўнага ні знаку... І толькі ледзь прыкметная, палыновая нотка горычы — міжвольная, магчыма: «Галоўнае ўжо сказана». Прадчуваў?

Акрамя вершаў, у «Хуткасці» змешчаны драматычная паэма «Хамуціус» пра Кастуся Каліноўскага (яе ў свой час грунтоўна прааналізаваў В. Каваленка) і паэма «Варшаўскі шлях»—як доказ таго, што *паэт «усе апошнія гады пасляваеннага* ўзвышаўся над жыццёвай эмпірыкай» (В. Бечык). Назва паэмы не звязана напрамую з сюжэтам, і Куляшоў нам не пакінуў «ключыка». Зноў звернемся да біяграфіі: Варшаўскай шашой ішоў малады *паэт пехатой у Оршу, калі* пачалася вайна (яму не хапіла месца ў аўтобусе, якім ад'язджалі ў эвакуацыю іншыя пісьменнікі). Варшаўскай шашой наступаючы, вызваляючы ад фашыстаў нашу зямлю, ішлі савецкія войскі. І, відаць, мае рацыю Р. Бярозкін, калі знаходзіць «падказку» ў паэме Твардоўскага «Васіль Цёркін», у такой вось страфе:

**Как дойдем до той границы**
**По Варшавскому шоссе,**
**Вот тогда, как говорится,**
**Отдохнем, И то не все.**

А. Т. Твардоўскаму і прысвечана паэма — не эпіграфам, усім зместам.

Іх чалавечыя і творчыя сувязі не зводзіліся да ўзаемаперакладу, як гэта падчас здараецца паміж прадстаўнікамі братніх літаратур. Сяброўства, змацаванае франтавымі буднямі, трывалае духоўнае радства — вось што звязвала іх на працягу доўгіх гадоў. Ёсць многа сведчанняў іх узаемнай павагі (згадаем прызнанне маладога Куляшова наконт «Краіны Муравіі» і водгук Твардоўскага на «Сцяг брыгады»), так што з'яўленне твора — з'ява ў нечым заканамерная.

Напісаны «Варшаўскі шлях» праз два гады пасля смерці буйнога рускага паэта. Куляшоў у гутарцы з карэспандэнтам «ЛГ» назваў паэму незвычайнай для сябе рэччу ў сэнсе таго эмацыянальнага напалу, які ў яе ўкладзены. Ці толькі памяць і смутак вадзілі пяром паэта? «Пагутарым аб часе, аб Твардоўскім...» — так проста, давяральна запрашае ён чытача да размовы. Звярніце ўвагу: найперш **аб часе.** Куляшоў не маладзён, яму скора 60, на яго вачах, развітаўшыся з культам, краіна тварыла новы кульцік і спаўзала ў багну хлусні і абыякавасці. Адчуванне **«хворага часу»** — вось што, акрамя астатняга, змушала зноў і зноў вяртацца думкамі ў часіну, калі прысутнасць Твардоўскага яскрава адчувалася ў літаратуры — і не толькі ў ёй.

**Мне горка ад таго, што не**
**хапае**
**Не нас яму сягоння, нам —**
**яго.**

Асмелюся сцвярджаць, што Твардоўскага нам не хапае і зараз, бо сярод сучасных рускіх пісьменнікаў не часта сустрэнеш **яго** пашану да беларускай літаратуры, **яго** здольнасць ацаніць і падтрымаць.

У «Хуткасці» ёсць верш, на які спачатку не звярнула ўвагі, —гэта «Слова невядомага салдата». Няхітры як быццам па задуме, просты па выкананні, ён тым не менш нясе ў сабе важкую і нават нечаканую думку.

***Не проста салдату падняцца***
**З апошніх пазіцый сваіх...**
**А толькі са мной не згаджацца**
**Ёсць права такое ў жывых.**

Апошнія радкі праходзяць у вершы рэфрэнам, тройчы, і дэманструюць тое, што мы сёння назвалі б новым мысленнем. Дык вось Вы які, Аркадзь Аляксандравіч... Вы нарадзіліся вундэркіндам і кніжнікам, а сталі выказнікам дум народных, нацыянальным класікам. Вы зведалі славу — і лічылі яе «туманом летуцення пустога». Вы мелі верных сяброў, але жылі ў літаратурным вакууме. Сваё запаветнае жаданне выказалі Вы ў наступных радках:

**Хачу, каб так і слова —**
**не жалезнае,**
**Знаёмае з пакутай і слязьмі, —**
**Ад славы і імёнаў незалежнае,**
**Трымала сувязь з часам і**
**людзьмі.**

Што ж, жаданне Ваша збылося...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

## У СТАРАЖЫТНЫХ ЯГЕЛОНАХ

**Ягелонскі (Кракаўскі) універсітэт у ПНР — адзін з найбольш старажытных у славянскім свеце, быў заснаваны ў 1364 годзе. Студэнтамі яго ўжо ў тыя далёкія часы станавіліся выхадцы з розных краін Еўропы, у тым ліку і з нашых зямель. У 1504—1506 гг. тут вучыўся Францішак Скарына, які закончыў філасофскі факультэт і атрымаў вучоную ступень бакалаўра.**

**У 1990 годзе наша рэспубліка будзе адзначаць 500-годдзе з дня нараджэння Ф. Скарыны. У гонар слаўнага юбілею, які значыцца ў праграме ЮНЕСКА, у розных краінах адбудуцца навуковыя канферэнцыі і чытанні, выйдуць факсімільныя выданні паасобных старадрукаў беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара і асветніка, з'явяцца новыя помнікі, музеі. Аднак, на вялікі жаль, гэтыя ўрачыстасці пакуль што не закранулі вучоных і грамадскасць Ягелонскага універсітэта. У час нядаўняй камандзіроўкі ў Кракаў мне давялося гутарыць з рэктарам Ягелонскага універсітэта прафесарам Аляксандрам Коя, які быў ці не здзіўлены шырынёй юбілейных мерапрыемстваў, прысвечаных аднаму з выхаванцаў Ягелонаў. У час гутаркі была выказана і прынята прапанова аб устанаўленні Ф. Скарыне мемарыяльнай дошкі ў тагачасным будынку Ягелонскага універсітэта. Мяркую, што Беларускаму фонду культуры сумесна з Беларускім дзяржаўным універсітэтам імя У. І. Леніна, які мае дагавор аб супрацоўніцтве з Ягелонскім універсітэтам, варта зрабіць пэўныя захады, каб дапамагчы польскім таварышам падрыхтаваць і адкрыць памятную дошку ў гонар Францішка Скарыны ў Кракаве.**

**М. ПРЫГОДЗІЧ,**
**дацэнт БДУ імя У. І. Леніна.**

## Проза

Уладзімір ЯГОЎДЗІК





# Звярынец палкоўніка Чачэнскага

Апавяданне

Адзвіравалі восеньскія кірмашы. Апусцелі, разбітыя ўшчэнт капытамі і коламі, вуліцы, завулкі. Жыццё ў горадзе ўваходзіла ў сваю спрадвечную каляіну, пакрысе замірала. Напэўна, замерла б зусім — да самай вясны, да вялікай вады, — каб не Літоўскі уланскі полк, раскватараваны на зіму ў Замосці. Там, каля агароджы касцёла св. Андрэя, стаяў збудаваны яшчэ пры жыцці вялікага гетмана Агінскага, аднапавярховы, каменны шпіталь. Яго і займаў са сваімі эскадронамі палкоўнік Чачэнскі. Стайні, зляпленыя з дошак, былі непадалёку, на беразе ракі Шчары. А ўбаку ад іх, пад страхою-навесам на пахілых старых слупах, мясціўся звярынец. Самы сапраўдны звярынец. Праўда, невялікі, усяго на чатыры жалезныя клеткі, у якіх уланскі камандзір, зацяты паляўнічы, трымаў лісаў, пару ваўкоў, рысь і нават мядзведзя, злоўленага летась на яму дзесьці ў Парэцкай пушчы. Некалькі месяцаў запар каля звярынца збіраўся натоўп, хоць без пачастунка блізка вартавы нікога не падпускаў. Дый цяпер яшчэ, глухім перадзім'ем, сюды не забыліся дарогу вучні тутэйшай шасцікласнай павятовай школы. Цікавіў іх і звярынец і, асабліва, уланская служба. Хіба параўнаеш яе са штодзённаю кніжнаю муштраю? Верхавыя паходы, прыгожа расшыты мундзір, а галоўнае — зброя, зброя!.. Шмат хто са шкаляроў хоць сёння гатоў бы ўзяць у руку шаблю ці піку, каб толькі не вяртацца ў цёмныя абрыдлыя класы.

Аднак не ўсім слонімцам звярынец прыйшоўся па нутру. Удзень і ўночы даймаў звяглівы сабачы брэх, а найгорш — глухое, працяглае ваўчынае выццё, ад якога аж зябка станавілася пад цёплаю коўдраю. Палкоўніку — не загадаеш, не падкажаш, што на Татарскай вуліцы ёсць неблагія гарбары. Заставалася маўчаць і паціху радавацца, як вялікаму шчасцю, праўдзівым чуткам, што на мінулым тыдні адна ліса спруцянела, а на другой палезла поўсць, пэўна, прычапілася нейкая пошасць, і яе таксама давялося застрэліць. А яшчэ заставалася з самымі блізкімі знаёмымі, дзе-небудзь у цёмным куту, перамываць плёткамі палкоўніцкія косці.

Паходзіў Чачэнскі з Каўказа. Пад час вайны з горцамі яго, тады яшчэ малога хлапчука, узялі ў няволю і прывезлі ў Расію. Прозвішча свайго ён не помніў, не ведаў. Назвалі Чачэнскім, падгадавалі і выправілі да вайсковай службы. Не памыліліся, бо чачэнец адразу выявіў не абы-якую адвагу. І найперш у сутычках на сваім родным Каўказе, у вайне супраць былых сародзічаў. Потым пачалася напалеонаўская кампанія, выслужыўся да палкоўніка. І пэўна выбіўся б, дапяў бы да генеральскіх эпалетаў, каб пад ягонае камандаванне не трапіла... панна Аляксандрава. У час вайны з французамі, як пляткарылі, яна ў бойцы пакідала за плячыма нават самога камандзіра. Чачэнскі ад злосці аж учарнеў, зусім змізарнеў ростам, гатоў быў турнуць панну куды-небудзь далёка-далёка, хоць бы і на Каўказ. Ды вось бяда: прозвішча мела — Аляксандрава... Яе ў твар, як сцвярджалі палкавыя афіцэры, ведаў сам імператар Аляксандр, якому аднойчы на нейкім марш-парадзе прыглянулася гэтая чартоўка. Чаму б і не зрабіць такую прыгажуню першым героем у палку? На ёй так ладна, так хораша сядзеў мундзір... Прозвішча — лепшае не прыдумаеш...

Дайшоў Чачэнскі аж да Парыжа, без ніводнай драпіны вярнуўся назад. Але і без генеральскіх эпалетаў. Зусім не пераносіў жанчын, на ўсё жыццё расхацеў жаніцца. І пакуль доўгімі нуднымі вечарамі баляваў з камандзірамі эскадронаў у былой гетманскай альтанцы, перарobленай пад рэстарацыю, слонімскі люд не асабліва вытыркаўся на вуліцы — можна ненарокам трапіць пад капыты.

А неўзабаве ад вуліцы да вуліцы, ад завулка да завулка, са Слоніма ў Замосце і далей, па ўсім павеце, папаўзлі такія навіны, што стала не да Чачэнскага і ягонага звярынца.

Чуткі хадзілі самыя розныя, нярэдка супярэчылі адна адной. Яднала, звязвала іх у адзін, пакуль неразблытаны вузел хіба тое, што абавязкова ўпаміналася Царства Польскае, а перадусім Варшава, дзе нібыта тыдзень назад, у канцы лістапада, пралілася кроў... Гаспадары крамаў і корчмаў баязліва адмоўчваліся, хоць і спраўней, як звычайна, завіхаліся каля кожнага, хто б ні зайшоў. Нават на апратку не глядзелі.

Няпэўнасць і няведанне хутка рассеяліся. Аднаго дня, калі ўжо цвёрда ўсталявалася зіма, прыхопленыя марозам вуліцы і завулкі зацерусіў, прыхарошыў снег, пачуўся глухі барабанны бумкат, прарэзлівы голас труб. Усе гараджане ад малога да старога высыпалі з хат. Праз нейкія паўгадзіны на Замкавай вуліцы, што злучала Замосце з горадам, паказаліся першыя коннікі. Яны прагрымелі па вузкіх драўляных мастах, перакінутых праз Шчару і гетманскі канал, і няспешна пачалі падымацца пад горку, на кірмашовую плошчу, дзе каля гандлёвых радоў сабраўся людскі натоўп. Напярэдзе гледачоў стаялі апранутыя ў аднолькавыя, цёмна-сінія сурдуты з белымі металічнымі гузікамі ў адзін рад, вучні павятовай школы, што мясцілася блізка ад плошчы, на пляцы касцёла канонікаў лютэранскіх. Усхваляваныя хлапечыя галасы зліваліся ў адну крыклівую гаману. У шкаляроў якраз выпаў перапынак паміж заняткамі, яны нецярпліва чакалі коннікаў, спрачаліся паміж сабою.

— Ты на іхнія мундзіры не глядзі! Яны цяпер ва ўсіх уланаў аднолькавыя — зялёныя, з чырвонымі адваротамі і каўнярамі...

— Не ва ўсіх! — стаяў на сваім худзенькі, з дробным камарыным тварыкам хлапчук. — Некаторыя палкі яшчэ не паспелі пераабмундзіравацца...

— Ат, што ты петрыш! Ільдэфонс праўду сказаў! — гсрача падтрымаў свайго не па гадах высокага, плячыстага сябрука танклявы, з вялікімі блакітна-сумнымі, нібы пакрыўджанымі вачамі, хлопец. — Лепей на коні падзівіся! Бачыш, гнядыя... Значыць, не Татарскі, а Польскі, са Слуцка...

— Во куды хапіў! — не здаваўся меншы споршчык. — Дзе Наваградак, а дзе Слуцак!..

— А ты адкуль ведаеш, якому палку загадана першаму прыйсці? — насмешліва, зверху ўніз, паглядзеў на малога той, каго назвалі Ільдэфонсам. — Можа, вы ад'ютантам пры камандзіры корпуса генерале Розене служыце?

Дружны смех не даў зноў вытыркнуцца ўпартаму нязгодніку. Ён спрабаваў штосьці ўставіць сваё, але яго ніхто не хацеў слухаць. І ў першую чаргу абсдва сябрукі. Яны з цяжкасцю працерабіліся праз натоўп трохі наперад, павялі гаворку паміж сабою.

— Скажы, старыя мундзіры былі намнога прыгажэйшыя! — са шкадаваннем вымавіў блакітнавокі.

— Вядома! — згодна кіўнуў галавою Ільдэфонс. — Кожны меў свой твар — здалёку пазнаеш. Валынскі, што стаіць у Наваградку, насіў мундзіры і шапкі сінія, сядзеў і цяпер пэўна сядзіць на вараных конях. Добра — коні, хоць і скубуць траву, зялёныя не бываюць... Праўда, Казюк?

Танклявы памаўчаў мо з хвіліну, потым бліснуў вачыма, прамовіў зусім сур'ёзна:

— Даравалі зялёныя мундзіры, спатрэбіцца — знойдуцца і зялёныя коні...

Тым часам першыя уланы — барабаншчыкі і трубачы — падняліся на плошчу. На іхніх высокіх шапках, моцна насунутых на лоб, бліснуў прышпілены знак «Пагоні» — герба былога Вялікага Княства. Вось і ўсё, што захавалася ад розніцы ў амуніцыі паміж Літоўскім корпусам цэсарэвіча Канстанціна Паўлавіча і астатнім расійскім войскам. Наперад натоўпу раптам высунуліся два пажылыя мужчыны — хтосьці з кагала і павятовы маршалак Фэлікс Броньскі. Апошні трымаў перад сабою на белым ручніку вялікі бохан хлеба. Трубачы і барабаншчыкі спыніліся, дружна, па камандзе, пачалі раз'язджацца ў бакі...

І ў гэтую самую ўрачыстую хвіліну, як назнарок, з-за касцельнай агароджы настойліва задзынкаў школьны званок. Потым у браме з'явіўся і сам вартаўнік Антон са званком у руцэ. Праз дзве хвіліны пачыналіся заняткі. Малодшыя шкаляры пудліва, хоць і са шкадаваннем на тварыках, пашыліся праз натоўп. Яны паспелі спазнаць на ўласнай скуры: пан прэфект Пшэслаўскі, былы ротмістр войск польскіх, памятлівы, абыходзіцца без падказкі і паперкі. Таму, каго праз хвіліну не застане ў класе, суботняй экзекуцыі не мінаваць. Парадак у вучэльні быў заведзены вайсковы, і яго пакуль ніхто не адмяняў. Дый у вартаўніка Антсна рука не скупая, цяжкая на лупцаванне...

Казімір запытальна паглядзеў на сябра:

«Што будзем рабіць? Застаемся?..»

Ільдэфонс грэбліва зморшчыўся, як усё роўна каўтнуў штосьці горкае, несмач, моўчкі пасунуўся следам за малодшымі вучнямі.

Калі хлопцы апынуліся за высокаю касцельнаю агароджаю, моцна раўнулі трубы, цяжка забухалі барабаны. Камандзір Польскага уланскага палка барон Глазенап прыняў ад дабрачынных слонімскіх мяшчан хлеб-соль. Ніхто ж не ведаў, ці надоўга стануць на пастой учарашнія случчакі і які ў іх нораў... Засведчыць гасціннасць — ніколі не лішне.

...Ішоў снежань 1830 года, другі тыдзень паўстання, што выбухнула ў Варшаве 29 лістапада.

Да ціхага Слоніма, які знаходзіўся на галоўным тракце з Імперыі ў Царства, пацягнуліся з усіх бакоў рэгулярныя і рэзервныя войскі. Следам за Польскім, раскватараваным на Жыровіцкай вуліцы, праз дзень-другі падышлі з Нясвіжа Татарскі і з Наваградка Валынскі уланскія палкі. Іх таксама размясцілі на пастой да мяшчан — на Панасоўскай і Ражанскай вуліцах. У штабе Літоўскага корпуса цярпліва чакалі з губернскай Гародні ад фельдмаршала Дзібіча кур'ера з дэпешай-загадам, калі і куды выступіць супраць мяцежнікаў. А між тым усе гэтыя дні горад жыў нібы ў дзіўным вайсковым карнавале, падобным для ваяк на разгульнае свята, а для большасці гаспадароў-паслугачоў — на жахлівую яву-сон. Паўсюды стала цесна ад уланскіх коней, саней фуражыраў, якіх прыгналі з далёкай і з блізкай акругі, а найбольш не давалі праходу вясёлыя кампаніі... Рэстарацыі, нават самыя далёкія ад цэнтра корчмы, не зачыняліся, гулі да раніцы. Цэны на гарачае пітво ў адзін дзень падскочылі да пецярбургскіх варункаў: за пляшку гарэлкі ад рубля да паўтара, а за бутэль шампанскага плацілі і ўсе дзесяць рублёў. І ніякіх скаргаў, крыўдаў, непаразуменняў. Не разлічыўся сёння — заплаціш заўтра. Неабавязкова грашыма... Хто не верыць слову гонару — афіцэрскаму, дваранскаму слову?! Нават славуты на ўвесь корпус барон Гадард з Польскага палка абыходзіўся без эксцэсаў. А ён ці не пятнаццаць разоў выходзіў на дуэлі, нямала адправіў да продкаў афіцэраў, і за кожны двубой вялікі князь Канстанцін садзіў яго на некалькі месяцаў у астрог.

Каменная будыніна пансіёна шляхетных паненак на Замкавай была як ніколі прыгожа ілюмінавана. У вялікай парадпай зале ад шчодра запаленых на люстрах свечак увечары было святлей як удзень. На рэдутах — панны старэйшых класаў і маладыя афіцэры з усяго корпуса. Капэла яўрэяў-музыкаў не ведала спачыну. Ніхто з выхаванак павятовага пансіёна не адседжваўся — калі надарацца яшчэ такія шматлюдныя, урачыстыя рэдуты? За папулярным у заходніх губернях паланезам напльваў вальс, яго змяняў англез, за англезам віхурыла французская або руская кадрыля... Не забываўся, зразумела, і кракавяк. На здзіўленне былым сталічным франтам тутэйшыя паненкі не цураліся, наадварот, нібы выхваляліся адна перад адной самымі складанымі фігурамі і крокамі — pas de Zephyr, entre-chat, jette battu. Шмат каму з прысутных запомніліся на ўсё жыццё тыя снежаньскія рэдуты 1830 года.

А напярэдадні выхаду Літоўскага корпуса на марш, калючаю марознаю раніцаю, у Замосці ўсчалася частая, перапалоханая страляніна. Яна ўмомант падняла ўвесь горад на ногі, прымусіла пільна прыслухоўвацца. У цемень за гетманскі канал і Шчару паляцела мо па эскадрону ад кожнага палка. Вучні павятовай школы якраз вярталіся з ранішніх пацераў на сняданак. Адзін з іх — Казімір Кастравіцкі, — той самы танклявы, блакітнавокі хлапчына, што браў удзел у шкалярскай спрэчцы пра уланскае абмундзіраванне на гандлёвай плошчы, ішоў у невялікай купцы сваіх аднаверцаў са Спаскай уніяцкай царквы. Са ста трыццаці выхаванцаў школы — уніятаў было найменш, чалавек пятнаццаць, і яны трымаліся адно аднаго. Жылі ўсе на Студэнцкай вуліцы. Уланы, што выхапіліся па трывозе ў Замосце, прымусілі хлопцаў на хвіліну запыніцца каля альтанкі-рэстарацыі. Кастравіцкі паспеў налічыць дзевятнаццаць коннікаў. Пры першых жа стрэлах у яго адпала ахвота есці, пацягнула скочыць за абодва масты, паведацца пра ўсё самому. Не адважыўся. Страшнавата ўсё-ткі аднаму. А Ільдэфонс Анцыпа сёння чамусьці да царквы не прыйшоў. Што ў яго там здарылася?

Трапіўшы, нарэшце, на Студэнцкую, Казімір мінуў сваю кватэру і падаўся да хаты Іванаўскай, у якой жыў Ільдэфонс.

Дзверы адчыніла сама гаспадыня. Адчыніла адразу, як усё роўна стаяла ў сенцах з трапятлівай свечкаю ў руцэ і чакала, што з хвіліны на хвіліну хтосьці павінен пагрукаць. Мусіць, таксама ўслухоўвалася да страляніны ў Замосці. Але там, як быццам, ужо сціхла.

— А...гэта вы панічык... — нібы трошкі расчаравана прамовіла кабета і паспешліва саступіла ўбок, даючы дарогу ранняму госцю. — Бяда ў нас, каб вы ведалі, панічык... З кватарантам нашым гарачка прыключылася, — і жанчына спалохалася, што загалосна гаворыць, зацiснула сабе далоняю рот, перайшла на паспешлівы шэпт: — Ляжыць у сваім пакойчыку, валасы на лобе ад поту злямчаныя, мо са жбан адвару з малінніку выкаўтаў... І яшчэ патрабуе. Я ўжо да павятовага доктара пана Пучкоўскага злётала, наказала яму прыйсці. Абяцаў, чакаем во...

«Вясёлая навіна!—падумаў, пераступаючы парог у чыстую хату, разгублены Кастравіцкі.—Учора ўвечары пабег ад мяне здаровым чалавекам, сілком вырваўшы з рук «Пана старасту»,* а раніцою з пасцелі не можа падняцца. Зусім на Анцыпу непадобна...»

Ільдэфонс не ляжаў, а сядзеў на ложку, які займаў ледзь не палавіну маленькага катушка-пакойчыка. Няйнакш, пачуў — хтосьці завітаў. Чакаў, напэўна, пана Пучкоўскага — найлепшага лекара мо па ўсёй губерні. Так не адны толькі слонімцы сцвярджалі. Бровы ў хворага ад здзіўлення падскочылі ўгору:

— А ты ад каго ў такую рань дачуўся?

— Ні ад кога...—паціснуў плячыма Казімір. — На пацеры ты не явіўся — вось і забег.

— Пра грэшную маю душу клапоцішся? — слаба ўсміхнуўся бледнымі губамі Анцыпа і адкінуўся на высока ўзбітыя падушкі. — Хіба не чуў: ад шчырай малітвы нядсўга і лоб расквасіць...

— Ведаю я тваю душу!.. Грахоў на ёй — як на сабаку блох. І чым далей жыцьмеш — тым больш іх будзе, — убачыўшы, што сябар не памірае, аджартаваўся Казімір.

— Не бойся, тваіх не забяру... Што там на дварэ чуваць? Мароз цісне?

— Ты папраўдзе нічагутка не чуў? — няпэўна махнуў рукою на акно Кастравіцкі.

— Пра што ты? — пазяхнуў абыякава Ільдэфонс.

— Страляніна ў Замосці нядаўна была, вось што! — з крыўдлівым абурэннем на гэтую несхаваную абыякавасць выдыхнуў Казімір. — Уланы з усіх канцоў горада туды падаліся...

— А-а-а... — зноў на ўвесь рот пазяхнуў хворы. — Падумаеш, пукнулі на п'яную галаву некалькі разоў... Ці, можа, ты падумаў, што варшавяне падышлі?

— Нічога я не падумаў. Дыму без агню не бывае. Нездарма туды уланы паляцелі.

— Ага, хапае ў нас дымароў, — насмешліва азваўся, гледзячы ў нізкую цёмную столь са сполахамі водсвету ад свечкі, Ільдэфонс. — Такога дыму напусцяць — аж у галаве ўсё перакруціцца, з мазгоў яечню зробяць...

— Укусі сябе за палец, калі табе з раніцы свярбіць з кім-небудзь пасварыцца, — падхапіўся са старога хісткага крэсла Кастравіцкі. — Кнігу, глядзі, нікому не аддавай. Хлопцы казалі — ротмістр пранюхаў. Адбярэ — брат галаву мне адкруціць. З самой Вільні, з кнігарні Завадскіх выпісваў.

— Ведаю, Казюк, суровы ён у цябе, — ужо ў спіну Кастравіцкаму кінуў насмешліва Анцыпа. — Нездарма ў земства забралі. Там не проста зубы — клыкі трэба мець, каб сваё вырваць. У майго братаві пашчэнкі слабыя аказаліся, дык у адвакаты падаўся. І то са спіны не злазіць, гатоў затуркаць мяне з-за гэтых кніг...

Даўнс дружбакуючы з мілаваньскім фальваркоўцам, Казімір не пакрыўдзіўся на Ільдэфонсаў выбрык. Нездарма дзед Юстын, у якога Анцыпаў бацька калісьці адкупіў Мілаванне з дзесяццю ці нават меней мужчынскімі душамі, нязлосна пасміхваецца: «У шарачкоўца такая муха ўжо ў носе — з голаю сракаю ды з шабляю!» Далася ў знакі хвароба небараку — сам на сябе стаў непадобны. Чапляецца да кожнага слова, кепікамі падкусвае. А ўвогуле ён не ўрэдны, гэты здаравяк Анцыпа, кожны імкнецца з ім сябраваць. Няма ў школе спраўнейшага прыдумшчыка і хвата. Нават Антонавых лупцовак не баіцца. Ачуняе — перапросіць. Не словамі дык вачыма ці яшчэ як-небудзь...

На заняткі ісці было рана. Першая лекцыя пачыналася роўна ў дзевяць. Сядзець цэлую гадзіну ў хаце, як у глухой яміне, сёння не схацелася. Казімір праглынуў на хаду кавалак зваранай курыцы, падаўся маўклівымі бэзавымі прыцемкамі да школы. Спадзяваўся — прыйдзе першы, а калі ўскочыў у калідор, то ўбачыў перад дзвярыма замкнутых класаў грамадкі вучняў. Усе горача абмяркоўвалі ранішняе здарэнне, выказвалі розныя здагадкі, пацíху дапытваліся ў старэйшых хлопцаў, ці ёсць якія весткі з Варшавы. Не, здаецца, ніхто нічога не чуў, бо кожны адмоўна круціў галавою.

У шостым класе, дзе навучаўся Кастравіцкі, дзень пачынаўся з геаграфіі, і ўжо адно гэта падняло хлопцаў настрой. Яму падабалася навука пра зямлю, як яе выкладаў прафесар Баневіч. Тым часам вартаўнік няспешна паадчыняў класы, даў першы званок. Вучні разышліся па сваіх пакоях. З другім званком, як заўсёды, у клас уплыў пашарпаны глобус, а за ім ужо і сам пан прафесар — марудлівы, таўсманы, са шкельцамі акуляраў на носе. Шмат хто з вучняў, не вельмі і хаваючыся, пырхалі смехам. Але злоснай насмешкі ў гэтым пырханні не чулася. Кожны ведаў пра дабрыню пана Баневіча — нікому яшчэ ягоны прадмет не памагала вучыць лазіна.

Прафесар асцярожна і адначасна ўрачыста, як вялікую каштоўнасць, паставіў глобус на стол, вучні дружна падняліся з лаваў да школьнай малітвы. Казімір, як бадай ніякую, заўсёды тварыў яе ў ахвоту, адчуваючы шчымлівае хваляванне ў грудзях:

«Божа ўсемагутны! Пашлі нам дар Духа Твайго Святога для прасвятлення розуму нашага і ўзмацнення сілы душы нашай, каб мы карысталіся з навук, што выкладаюць нам, раслі Табе, Творца, на славу, родзічам і цэламу краю на дапамогу. Амінь...»

Далей ціхім голасам, часта лыпаючы праз мутныя шкельцы акуляраў вачыма, гаварыў пан Баневіч. У яго былі свае геаграфічныя святцы, без упамінання якіх не абыходзілася ніводная лекцыя па геаграфіі. То былі сапраўдныя оды прозаю ў гонар славутых падарожнікаў, пачынаючы ад Хрыстафора Калумба. І адкуль толькі бралася красамоўства ў гэтага мядзведзяватага марудыl Пра падарожжы Гумбальта і Стэрна, Адашсана і знакамітай пані Тралоп ён апавядаў з такімі запамінальнымі падрабязнасцямі, як быццам сам удзельнічаў у экспедыцыях. Ды ў школе кожны ведаў: пасля заканчэння Віленскага універсітэта ўсе падарожжы шаноўнага прафесара пачынаюцца ад парога набытай пад старасць хаты і канчаюцца школьным парогам. І ўсё роўна — у класным пакоі панавала цішыня. Ніхто не кашляў, не перашэптваўся, не варушыўся. Казімір, як шмат хто з вучняў, мог на памяць пераказаць геаграфічныя оды пана Баневіча, але прафесар заўсёды згадвае штосьці новае, неверагоднае, што прымушае сцішыцца, затаіць дыханне і слухаць, слухаць...

— Непасрэдная тэма нашай сённяшняй лекцыі — паўночныя моры... — лёгка крануты прафесаравай рукою глобус пачынае нячутна круціцца, і перад вучнямі, нібыта ў дзівосным сне, плывуць акіяны, часткі свету, нікім не разгаданыя таямніцы. — Апошні, хто адважыўся пакарыць царства вечных ільдоў і дасягнуць таямнічага Паўночнага полюса, быў англійскі мараход Вільям-Эдуард Пары. Тры гады назад ён выйшаў з астравоў Шпіцбергена на двух невялікіх караблях і ўзяў курс...

Куды ўзяў курс Пары, усе ўжо ведалі. Але ў гэтую самую хвіліну шырока, насцеж, адчыніліся дзверы і ў праёме вырасла цёмная постаць прэфекта Пшэслаўскага.

— Даруйце, пане прафесар, што вымушаны, не дачакаўшыся званка, перапыніць вашу лекцыю, — сказаў, не заходзячы ў клас, глухім голасам прэфект. — Папрашу на хвіліну вашай увагі, пане Баневіч...

Прафесар геаграфіі і гісторыі замітусіўся, пачаў збіраць са стала свае кнігі, урэшце пакінуў іх, пасунуўся, угнуўшы голаў, на калідор. Назад у клас не вярнуўся. Заместа яго цвёрдым вайсковым крокам увайшоў сам Пшэслаўскі.

— Усім загадваю апранцца і выйсці з будынка да касцельнай агароджы, — вытрымаў паўзу, дадаў: — Зараз жа, не марудзячы...

Казімір адчуў, як у ягоных грудзях раптам пахаладзела, замерла ад нечаканай здагадкі сэрца: «Нездарма мусіць усчаўся раніцою ў Замосці перапалох!..» Калі апынуўся ў раздзявальні, бачыў: шмат хто з калегаў, асабліва малодшых, ад страху не могуць патрапіць у рукавы сваіх верхніх апратак.

Непадалёку ад школы на гладкім каштанавым жарэбчыку нерухома сядзеў палкоўнік Чачэнскі. Малы, гарбаносы, падобны, як падалося Кастравіцкаму, на чорную дзюбатую птаху. Трохі воддаль, за спіною уланскага камандзіра, таксама на кані, злосна зіркаў вачыма павятовы спраўнік Драфяноўскі.

Нарэшце ўсе шэсць класаў сталі ўздоўж касцельнай сцяны. У шарэнгу па тры чалавекі. Проста насупраць нечаканых візіцёраў. Прафесары стоўпіліся каля школьнага ганка. Усе як адзін перапалоханыя, можа, нават больш перапалоханыя, чым іхнія выхаванцы. Казімір са шкадаваннем пазіраў на сівога старэнькага прэлата касцёла канонікаў лютэранскіх Таўса, які ад хвалявання аж сашчапіў рукі на грудзях. Ён, як і ўсе астатнія выкладчыкі, ніяк не мог уцяміць: што адбылося?

— Прамаўляйце, ротмістр Пшэслаўскі! — загадаў прэфекту земскі спраўнік.

— Вучні старэйшых класаў! Найперш я звяртаюся да вашага сумлення! — паспешліва, з хваляваннем у голасе загаварыў пан прэфект. — Хтосьці з вас няўдала, бяздумна пажартаваў. І нарабіў бяды. Уначы, калі ўсе спалі, ён непрыкметна ад вартавога паадчыняў у звярынцы клеткі. Ваўкі і рысь уцяклі, а мядзведзь, шукаючы сабе спажыву, уварваўся ў стайню. Яго і некалькі пакалечаных коней давялося застрэліць... Няхай той, хто вінаваты, прылюдным прызнаннем здыме з душы сваёй грэх. І яму, калі суніме д'ябальскую гардыню, шчыра пакаецца, даруюць...

З папяловага, прапахлага дымам неба церусіўся дробны сняжок. Усе як бы анямелі, баяліся варухнуцца. І вучні, і прафесары. Толькі пад укамянелым палкоўнікам Чачэнскім нецярпліва перабіраў нагамі, пудка фыркаў храпаю жарэбчык. Час нібы спыніўся. І тут Казімір адчуў, як грудзі пачынае распіраць гарачая шалёная хваля: «А Чачэнскі таму не злазіць з каня, што ростам з кулак! А той — ні яго не пабаяўся, ні вартавога, ні звяр'я... Малайчына! Няхай цяпер шукаюць ветра ў полі...» Непрыкметна павёў вачыма налева, направа ад сябе і ўпэўніўся: хлопцы думаюць тое самае, вунь як непакорліва бліскаюць спадылба вачыма!

Здоўжанае, цяжкое маўчанне перарваў спраўнік:

— Злачынец усё роўна будзе выяўлены. Мы знайшлі яго сляды, на іх ёсць метка... Але судзіць яго тады будзе вайсковы суд згодна Палявому крымінальнаму статуту...

— Так, няхай успомніць той, хто запляміў добрую славу нашай школы, — зноў пагрозліва забубніў прэфект: — Няма нічога тайнага, што заўтра не стане яўным. Калі зламыснік не назавецца, на свята Божага нараджэння ніхто дамоў не паедзе. Я дадзенай мне ўладаю адмяняю вакацыі. А абяцаю вам, ваша правасхадзіцельства...

Палкоўнік Чачэнскі, які так і не адазваўся ніводным словам, не пажадаў слухаць былога ротмістра Пшэслаўскага. Уздыбіў каня і, ледзь не збіўшы капытамі разгубленага прэфекта, знік за касцельнаю брамаю. Вучні малодшых класаў ад страху аж закрычалі, а старшакласнікі ўтупіліся вачыма ў заснежаную зямлю, нібыта нічога не бачылі.

— Усім вучням — па класах. Шаноўных прафесараў папрашу зайсці перад званком да мяне ў канцылярыю...—знайшоў у сабе яшчэ сілы вымавіць спалатнелы пан прэфект і згорблена падаўся да ганка.

Неўзабаве заняткі аднавіліся. Ішлі яны вяла, нудна. Усе чакалі палудня, каб уволю выгаварыцца пра здарэнне, бо на перапынках збірацца ў купы баяліся. Радасць і страх перамяшаліся, на хлапечых тварах было нібы напісана: «Хто такі адважны? Няўжо ён папраўдзе тут, сярод нас? А калі адшукаюць, выявяць?..»

Адразу пасля апошняга званка ніхто не спяшаўся апранацца. Усе марудзілі, чакалі: зараз выйдзе на калідор пан прэфект і пачнецца праверка абутку. Казаў жа спраўнік пра нейкую метку... Пан Пшэслаўскі так і не выйшаў. Школа паступова апусцела.

Назаўтра, калі гадзіннік на драўлянай вежы пры кляштары бернардзінцаў адбомкаў поўдзень, Літоўскі уланскі корпус падняўся на марш.

Дзень выдаўся, як па заказу, — ціхі, сонечны. Цісну ў куслівы марозік, малады, падсыпаны ўначы сняжок, радасна парыпваў. Дрэвы былі ўвабраны ў святочную пульхную шэрань. Уланы, перш чым павярнуць на Брэст-Літоўскі тракт, заязджалі на галоўную гарадскую плошчу — на гандлёвую. Тут штабныя афіцэры прымалі парад. А з другога боку, уздоўж гандлёвых радоў, стаялі слонімскія мяшчане. Яны не хавалі сваёй радасці, махалі рукамі, штосьці крычалі на развітанне бравым коннікам. Бухалі барабаны, грымелі трубы, гігаталі коні, са шкадаваннем глядзелі ўслед сваім нядаўнім кавалерам выхаванкі шляхетнага пансіёна.

Прэфект Пшэслаўскі, усцешаны, што справа са звярынцам, як быццам, уладзілася, і дачуўшыся, што вучні яўрэйскіх класаў са Школьнага двара на вуліцы, загадаў таксама спыніць заняткі і ўсім апранцца. У апошні момант ён папрасіў нават прафесара нямецкай мовы і малюнка Ацешку напісаць па-расійску транспарант, але той, пакуль думаў над тэкстам, нацягваў на раму палатно, безнадзейна спазніўся.

Казімір стаяў у гурце сваіх школьных таварышаў, кпліва пасміхваўся, непрыкметна абсвістваў парад. Адно цешыла вока — зайздросныя кавалерыйскія коні. Не стомленыя яшчэ пераходамі, яны гарцавалі пад жаўнерамі, далёка, прыгожа выкідвалі тонкія пярэднія ногі, траслі смалянымі хвастамі і грывамі. Душу праняло шкадаванне: парад хутка скончыцца, а што вас, гнедыя і вараныя, чакае наперадзе? Хто б праўдзіва расказаў пра падзеі ў Варшаве?.. Пакуль усё і ўсе навокал заціхлі, як перад бураю. І брат Павел як вады ў рот набраў. Учора ні слова з яго не выціснуў.

Апошні з горада выходзіў Літоўскі полк. Яго зачакаліся. Пэўна, шмат каму з уланаў і іхніх камандзіраў не хацелася пакідаць абжытае Замосце, цёплы шпіталь. Ды служба ёсць служба. Будынкі пуставаць не будуць — ужо на падыходзе рэзервныя брыгады. Мяшчане ведалі коннікаў у твар, і развітваліся з імі, як з добрымі знаёмцамі. Праўда, у вачах саміх уланаў была несхаваная халодная адчужанасць, заклапочанасць, яны не адказвалі на вітанні.

— Можа, выконваюць загад Чачэнскага? — выказаў хтосьці з хлопцаў здагадку. — Вачэй з яго не спускаю... *Сам палкоўнік ані разу не ўсміхнуўся, глядзіць — як нікога не бачыць...*

Кастравіцкі пагадзіўся з калегам, голасна, насмешліва, каб пачулі, кінуў:

— Пакрыўдзіўся, бедненькі...

А нехта тут жа плаксівым галаском усхліпнуў:

— Пакараў нас, нядобрых...

Хлопцы, якія стаялі паблізу, на ўвесь рот зарагаталі. Аж прэфект Пшэслаўскі выцягнуў шыю, пачаў усіх есці вачыма: хоць бы яшчэ што не ўтварылі!

Апошні эскадрон тым часам паварочваў на Ржанскую, за войскам доўгім хвастом пацягнуліся сані інтэнданцкай і правіянтнай службаў, абоз фуражыраў. Глядзець не было на што — люд пакрысе разыходзіўся. Акрамя хіба вучняў — яны не спяшаліся ў класы. Дарэмна пільны Антон ляматаваў званком. Сліпучае сонца, высокі блакіт неба, жоўтая ад расплюснутых конскіх яблык плошча нібы ў кірмашовы дзень — не адпускалі... Паспеецца з вучобай!

І раптам спалоханы вокліч:

— Туды гляньце, хлопцы!

— Куды туды? — перапытаў зацікаўлены голас. Да яго далучылася яшчэ некалькі: — Што ты выгледзеў? Дзе?

Казімір — б а ч ы ў!

На *сялянскіх санях*, якія трушком цягнуў нізкаросла калматы конік, стаяла тры клеткі. Дзве пустыя, а ў трэцяй, найбольшай па памерах, сядзеў чалавек. У зялёным уланскім мундзіры, ашчаперыўшы рукамі непакрытую галаву. Конік лёгка патузваў па ўзгрудзелых калдобінах сані, іх вадзіла ў бакі, і чалавек цяжка пахістваўся. Здавалася, яшчэ імгненне — і ён зваліцца з каленяў. Ажно здарылася зусім не тое. Зняволены разамкнуў на галаве рукі, учапіўся за жалезныя пруты. Потым марудна падняў свой твар... Увесь у крывяных запёках, счарнелы на вугаль, апухлы — вачэй не было відаць. Хвіліну-другую стаяў нерухома, тварам да сонца, а потым штосілы, раз'юшана, пачаў тузаць за тоўстыя краты. На заціхлай, нібы вымерлай плошчы, стала цесна ад хрыплага спакутаванага крыку:

— Ага!.. Пасмейцеся... Парадуйцеся... Смейцеся, сукіны дзеці! — і улан, адкінуўшы назад галаву, па-вар'яцку зайшоўся рогатам. Замоўк — гэтак жа нечакана, як і зарагатаў. Тыцнуў пальцам на пустыя клеткі, выскаліўся: — А гэта для вас, паночкі, для вас пакоі! Для вас! Слаўны будзе звярынец... Павесялімся тады!

Казімір раптам адчуў, што няма чым дыхаць, цямнее ўваччу. Марудна, як не сваімі нагамі павярнуўся і, ні на кога не зважаючы, пацíснуўся з натоўпу.

* Лепшая польская аповесць 1830 года. Аўтар — Федэрык Скарбек.

# КАЛІ НЯМА ПЕСНІ...

**Згадваючы экспазіцыю рэспубліканскай выстаўкі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва**

МЕЖЫ ПАМІЖ рознымі відамі выяўленчага мастацтва часам акрэсліць вельмі цяжка. Кожны час прапаноўвае свае крытэрыі. Таму, каб не заблытацца ў эстэтычных канцэпцыях, звычайна разважаюць проста. Тое, што можна лёгка пераносіць, пераводзіць з аднаго месца на другое — мастацтва станковае. А тое, што не паддаецца пераносу,— манументальнае. Тое, што між імі, — дэкаратыўна-ўжытковае. Яно «належыць» сцяне, інтэр'еру, але такое ж транспартабельнае, як жывапісная карціна ці графічны аркуш.

Такая неакрэсленасць становішча дае мастакам-прыкладнікам пэўныя перавагі перад іхнімі калегамі з іншых цэхаў, але і нараджае неіснуючыя ў другіх праблемы. Мабыць, нідзе ў выяўленчым мастацтве няма такога, як тут, дыктату моды, такой залежнасці ад густаў спажыўца. Твор дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва абавязкова павінен быць прыгожым у самым прамым сэнсе (нават у тых выпадках, калі вырашаецца тэма балючая, трагічная), што неабавязкова ў жывапісе, графіцы, скульптуры. У той жа час разуменне «тэмы» ў дэкаратыўным мастацтве зусім іншае, чым у станковым і манументальным. А, значыць, у прыкладнікоў больш магчымасцяў для самавыяўлення, для эксперыменту ў форме і тэхніцы. Іх дзейнасць, быццам генетычна запраграмаваная менавіта на формаўтварэнне ў «чыстым выглядзе», упарта супраціўляецца гвалтоўнай палітызацыі. Іншая справа, калі мастак-прыкладнік свядома бярэцца за сацыяльную тэму. (На выстаўцы ёсць — праўда, не вельмі ўдалыя — работы, дзе прачытваецца тэма сталіншчыны, Чарнобыля). Не раз і не два дэкаратыўна-ўжытковы раздзел выратоўваў рэспубліканскія выстаўкі ў вачах гледачоў: ткацтва, кераміка, шкло прыгадваюцца як глыток чыстага паветра сярод «застойнага» афіцыёзу.

ЧАМУ Ж ТАК СУМНА было на рэспубліканскай выстаўцы дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва зараз? Адказ, як ні дзіўна, просты: гледачы сёння ўжо іншыя, а мастакі ў сваёй большасці — яшчэ тыя. Людзі навучыліся думаць і не баяцца гаварыць. Значыць, пасіўнага непрымання афіцыёзу недастаткова, каб сабраць аўдыторыю. Трэба актыўная пазіцыя мастака. Тым больш, што фармальны эксперымент, які быў ці не манаполіяй прыкладнікоў, пашырыўся на жывапіс, графіку, скульптуру (асабліва ў асяроддзі нефармалаў).

Да якога б цэху ні належаў мастак, ён сёння не можа сцвярджаць, што Чарнобыль, Курапаты, падзеі 30 кастрычніка і спадчына афганскай вайны яго не датычаць, бо ён, маўляў, заняты колерам, формай, адным словам — творчасцю. Я не прапаную ўсім кінуцца ў новую тэматыку. Аднак жа ўсё, што мы адкрываем у нашай даўняй і блізкай гісторыі, вымушае мастака задумацца над сэнсам сваёй працы, адказаць самому сабе на простыя пытанні: «Што я хачу сказаць?» і «Каму гэта патрэбна?»

Крызісная сітуацыя, якая сёння склалася ў дэкаратыўна-ўжытковым мастацтве, найбольш выразна выявілася, мне здаецца, у ткацтве. Не таму, што занятыя ім мастакі чымсьці горшыя за керамістаў, металістаў ці разьбяроў. Беларускі габелен канца 70-х — пачатку 80-х дасягнуў высокага ўзроўню, на фоне якога зараз асабліва відочны яго спад. Іншыя віды дэкаратыўнага мастацтва развіваюцца ў нас больш-менш роўна, аднак праблемы аднолькавыя, бадай, ва ўсіх яго галінах.

У аснове гэтых праблем — адарванасць прафесійнага мастацтва ад нацыянальных, у першую чаргу ад народных традыцый. (Параўнанне народнага мастацтва з песняй, што бярэ пачатак у глыбіні душы, ніколі не будзе банальным). Адсюль — прага запазычанняў, бо мастацтву трэба чымсьці жывіцца. У жывапісе гэта выдатна рабіў М. Савіцкі: заходнееўрапейскі экспрэсіянізм, адаптаваны на беларускай глебе, добра падыходзіў да ваеннай тэмы. Але калі мастак паспрабаваў падысці з тымі ж меркамі да асэнсавання купалаўскай спадчыны (цыкл карцін для купалаўскага музея ў Мінску), яго чакала творчая няўдача. Высокі ўздым у мастацтве габелена на Беларусі — не ў малой ступені заслуга мастака-манументаліста А. Кішчанкі, які, зноў жа, адаптаваў для нашых умоў і часу еўрапейскі вопыт. Габеленам «Чалавек адкрывае свет» А. Кішчанка распачаў новы для Беларусі і краіны стылістычны кірунак і габеленамі опернага тэатра сам жа давёў яго да лагічнага завяршэння. Прыклад двух выдатных майстроў сведчыць, што распачатыя імі кірункі на іх жа і замыкаюцца.

Сёння, гэта відавочна, патрэбны іншы пластычны ход, іншая канцэпцыя. Адкуль яны возьмуцца — «ад роднае зямлі» ці зноў чакаць ветру з Захаду?

КАЛІ МЕРКАВАЦЬ па рэспубліканскай выстаўцы, што праходзіла ў снежні-студзені, дык сярод большасці майстроў ткацтва пануе разгубленасць, боязь рызыкі. Эксплуатуюцца апрабаваныя яшчэ ў 60-я гады прыёмы і канструкцыі. Аднак тое, што дваццаць гадоў назад пад час вызвалення ад вульгарнага станкавізму было даволі рэвалюцыйна, сёння безнадзейна састарэла.

Мяркуйце самі. «Веснавыя рытмы» Г. Юзеевай і А. Салохінай габеленам нават і назваць цяжка. Гэта тканае пано не ў лепшых традыцыях афарміцельства. Аўтары не давяраюць сімволіцы колеру, геаметрычнай выразнасці кампазіцыі і таму ўводзяць прасторавыя інсінуацыі. У выніку — эклектыка.

«Веснавыя рытмы» перагукваюцца з «Веснавымі матывамі» (аўтар Н. Валынец). Зноў рэтра-матывы 60-х. Пазачасовая ідылія, неакрэсленыя раслінныя матывы (ці то беларуская папараць, ці то афрыканскія ліяны), адсутнасць кампазіцыйнай пабудовы.

«Імкненне», «Парыў ветру» і шматлікія «вёсны», «восені», «леты» — такі ў асноўным тэматычны дыяпазон ткацтва. Іншы раз без пільнай патрэбы мастакі ўводзяць у ткацтва стылістыку іншых відаў мастацтва. Так, чорна-белы габелен В. Грыдзінай «Інтэр'ер» — фактычна варыяцыя на тэмы графікі А. Паслядовіч. Усяго толькі псеўда-паэтычныя метафары — у «Спеўным дрэве» Г. Гаркунова, перапевы Чурлёніса — у «Маёй зямлі» Т. Чуглазавай. На фоне восеньска-вясенняй трасянкі нават падабенства да тэмы (хай сабе і дробнай), набліжэнне да яе глядзіцца выйгрышна. Напрыклад, габелен А. Дваранiна «Падарожжа да мора».

Нейкім запозненым па часе выглядае вялізны габелен (дакладней, габеленавы цыкл) В. Крывашэевай «Помнікі Беларусі». Ён не выконвае нават асветніцкай функцыі, бо помнікі дойлідства скампанаваны на ім без усялякай сістэмы. І зноў жа — усё гэта выклікае асацыяцыі не з дэкаратыўным мастацтвам, а з афарміцельствам.

Асэнсаваны пошук новых сродкаў выразнасці адчуваецца ў трыпціху Л. Густавай (ён, дарэчы, так і называецца — «Пошук»). Варыянты перапляцення каляровых ліній у гэтым выпадку — як адлюстраванне тэхналагічнага боку ткацтва. Але ж у ім бачыцца і сцвярджэнне каштоўнасці імправізацыі ў мастацтве. А яна магчымая толькі тады, калі мастак сам рыхтуе і кардон, і сам працуе на ткацкім станку.

Плённым уяўляецца мне шлях, якім ідзе Л. Русава ў габеленавым трыпціху «Супрэматычная каса». У супрэматызме, калі аддзяліць яго выяўленчую сутнасць ад складанай тэарэтычнай надбудовы, са здзіўленнем знаходзіш (у класічным авангардзе!) шмат агульнага з народнай эстэтыкай Беларусі, з народным разуменнем гармоніі і дысанансу. Мастацтва Казіміра Малевіча магло ўзнікнуць толькі на беларускай глебе, толькі на гэтай зямлі. Адкрытым зваротам да супрэматычнай кампазіцыі і колеравай гамы Л. Русава дасягае пластычнай выразнасці, якой так не хапае ў большасці выстаўленых работ, прымушае само выставачнае асяроддзе «працаваць» на гэты габелен.

Яшчэ далей ідзе В. Маркавец-Бартлава ў габелене «Адраджэнне». Тут мастацкая форма нясе ў сабе яшчэ і сацыяльны змест. Амаль усё поле габелена займае традыцыйны беларускі арнамент, толькі выкананы ў нязвыклых прыглушаных (нават прыгнечаных) колерах — фіялетавым, чорным. Праз гэта поле праходзіць прамень святла. Святло вяртае арнаменту яго гістарычнае аблічча — чырвонае па белым полі. Тут народная класіка ў спалучэнні з класікай супрэматызму. Адно ўзаемна дапаўняе другое.

Вартая ўвагі гледача і другая кампазіцыя В. Маркавец-Бартлавай — дыпціх «Набат», прысвечаны паўстанню 1863—1864 гг. Тут гісторыя без стылізацыі «пад мінулае», гісторыя як частка сучаснасці.

КЕРАМІКА мае на Беларусі такія ж глыбокія традыцыі, як і ткацтва, і сённяшнія праблемы абодвух відаў мастацтва шмат у чым агульныя. Экспазіцыя керамістаў увогуле глядзіцца даволі прадстаўніча, але адсутнасць цэласнай канцэпцыі, эклектычнасць мыслення адчуваецца досыць выразна. Ёсць спробы асэнсаваць у сучаснай тэхніцы мастацкую спадчыну мінулых стагоддзяў, падысці да рашэння экалагічнай тэмы ці гістарычнай, аднак гэта ўспрымаецца не творчай неабходнасцю, а данінай новай кан'юнк-

А. МАСІЕНКА. «Легенда аб крылах».

Фота В. ШУБЫ.

**Мінула ўжо трыццаць гадоў з таго часу, як у Маладзечне расчыніліся дзверы музычнага вучылішча. Многія пакаленні яго выпускнікоў паспяхова працуюць на ніве мастацтва не толькі ў нашай рэспубліцы, але і ў многіх кутках краіны. Сярод іх—оперныя спевакі, педагогі, кіраўнікі навучальных устаноў і мастацкіх калектываў. І ўсе яны з удзячнасцю ўспамінаюць** alma mater, **дзе ўпершыню далучыліся да цудоўнага свету музыкі.**

# Маладзечанскае музычнае

Усе, хто дасведчаны ў дзейнасці Маладзечанскага музычнага вучылішча, могуць упэўнена сказаць: цяпер гэта адна з самых прафесійна грунтоўных творчых навучальных устаноў рэспублікі. Невыпадкова калектыў адзначаны Граматай ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР і ВЦСПС. Гэтая ж узнагарода была ўручана шаснаццаці выкладчыкам — пераможцам сацыялістычнага спаборніцтва. Ёсць у калектыву і ганаровыя творчыя ўзнагароды.

Ядро педагагічных кадраў вучылішча — пераважна яго былыя вучні. Сярод іх — Б. Аўдзеенка, Г. Сарока, А. Камінскі, Л. Камінская, А. Доніна, В. Хоціна, І. Цыркунова, З. Русель, Т. Грэкава, А. Шут, Н. Шут, С. Шпадарук і інш. Большасць з іх атрымалі вышэйшую адукацыю ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі; некаторыя ўдасканальвалі сваё майстэрства ў музычных ВНУ Масквы, Ленінграда, Кішынёва, Астрахані.

Які ж рэальны ўклад вучылішча ў справу прапаганды мастацтва, музычнага выхавання і, калі глядзець шырэй, — у справу выхавання новага чалавека?

Музычнае вучылішча ў Маладзечне па праву называюць культурным цэнтрам. У яго вялікай канцэртнай зале праходзілі выступленні выдатных выканаўцаў: С. Рыхтэра, А. Вядзернікава, Г. Гаспаран, А. Абразцовай, В. Траццякова, М. Плятнёва і інш. Можа ганарыцца вучылішча і ўласнымі выканаўчымі калектывамі: сімфанічным аркестрам (кіраўнік Г. Сарока), аркестрам рускіх народных інструментаў (кіраўнік Т. Бялькова), аркестрам баянаў (кіраўнік В. Стасевіч), змешаным хорам (кіраўнік А. Шут), духавым аркестрам (кіраўнік Ю. Дзмітрэнка). Усе яны вядуць вялікую работу па прапагандзе класічнай і народнай музыкі ў горадзе і за яго межамі.

Камерны аркестр выкладчыкаў — ці не самы папулярны ў слухацкім асяроддзі горада і раёна калектыў. Арганізаваны ён у 1975 годзе; яго арганізатар і мастацкі кіраўнік Г. Сарока. Цяпер аркестр працуе на базе Маладзечанскага гарадскога Дома культуры, у 1982 годзе калектыву нададзена званне «народны». У яго рэпертуары больш за 100 разнастайных твораў, значная частка — музыка беларускіх аўтараў і п'есы, створаныя на фальклорнай аснове. Аркестр выступае і за межамі Маладзечна: скажам, былі цікавыя сустрэчы са слухачамі Мінска, Гомеля, Брэста, Віцебска, Мядзела, Валожына, Барысава, Салігорска; у Паневяжысе, у Елгаве. Аркестр пабываў з канцэртамі ў Венгерскай Народнай Рэспубліцы і ў ФРГ.

Адзін з найбольш своеасаблівых калектываў вучылішча — фальклорна-этнаграфічны ансамбль. Ён арганізаваны ў 1982 годзе па ініцыятыве выкладчыка музычна-тэарэтычнага аддзялення З. Русель. Удзельнікі ансамбля — навучэнцы ўсіх аддзяленняў і выкладчыкі. Шмат намаганняў аддалі рабоце ў ансамблі выкладчыкі Л. Алейнік, Т. Бялькова, навучэнцы Н. Граковіч, С. Якубель, В. Дзегцяроў, С. Шаблыка. Пастаўленыя калектывам спектаклі «Калядкі», «Загуканне вясны», «Валачобныя песні», «Купалле», «Дажынкі» ведаюць і любяць слухачы горада і раёна. Пры падборы песеннага матэрыялу для спектакляў выкарыстоўваецца мясцовы фальклор, а таксама запісы вядомых беларускіх фалькларыстаў Г. Цітовіча, Р. Шырмы, З. Мажэйкі.

Ці не галоўнай задачай усёй нашай педагагічнай сістэмы з'яўляецца ідэалагічнае, патрыятычнае выхаванне маладога пакалення. Якім будзе выпускнік, якія яго погляды, светапогляд, якая яго каштоўнасць для грамадства — усё гэта ў многім залежыць ад навучальнай установы, дзе адбываецца станаўленне асобы навучэнца. У Маладзечанскім музычным вучылішчы нямала робіцца для таго, каб будучы педагог выхоўваўся ў духу лепшых традыцый нашага грамадства. Думаю, надоўга запомняцца вучням, выкладчыкам і гасцям вучылішча вечары «Пераможная і легендарная», «Франтавікі, надзеньце ордэны», «Салдацкія мацяркі», «Калі б камяні маглі гаварыць». Музей баявой і працоўнай славы ў вучылішчы існуе ўжо семнаццаты год. Тут сабраны звесткі аб працоўнай і прафесійнай дзейнасці калектыву ад пачатку існавання навучальнай установы. Шматлікія стэнды расказваюць пра творчыя конкурсы, Зорныя паходы, працоўныя семестры. Асноўная частка экспазіцыі прысвечана падзеям Вялікай Айчыннай вайны. У музеі захоўваюцца матэрыялы і дакументы, якія расказваюць пра баявыя дзеянні партызанскай брыгады імя Фрунзе, асабістыя рэчы і пісьмы герояў вайны, газетныя матэрыялы і фотадакументы,

туры. Фактычна кожны як думае, так і робіць («што бачу, пра тое і пяю»). Вось толькі культура мыслення не заўсёды паспявае за працаздольнасцю. У выніку — бутафорыя замест жывой формы і банальнасць замест сталай думкі. Менавіта так успрымаюцца работы В. Прышкіна «Вяртанне» і «На краі зямлі» і прэтэнцыёзная кампазіцыя Т. Сакаловай «Храм трымаючыя». Цяжка сказаць, якім мэтам служыць імітацыя ў тэхніцы керамікі фактуры паперы ці металу. Мусіць, не кожны лабараторны эксперымент трэба цягнуць у выставачную залу.

Дзіўнае ўражанне пакідае работа М. Байрачнага пад назвай «Без назвы». Здаецца, што ў жаданні далучыцца да «сучаснасці» мастак забыўся пра густ і нават пра сэнс. Назвы не мае партрэт маладога чалавека з цыгарэтай у зубах, у цёмных акулярах. Герой М. Байрачнага стрыжаны «пад нуль», як рокер; на патыліцы ў яго коска як у панка; упрыгожаны жалезкамі, як належыць прыхільніку «хэвіметалу». Да таго ж, ён, пэўна, яшчэ і «нацыяналіст», бо на яго капелюшы ажно тры вялікія значкі з Пагоняй. Відаць, аўтар, робячы «абагульнены вобраз» гэткага «нефармала», натхняўся літаратурнымі творамі, накшталт «Чаго хочуць талакоўцы?», «Пена на хвалі перабудовы», «Эвалюцыя палітычнага невуцтва». Крыўдна за мастака, далёка небяздарнага.

Шкло на выстаўцы не зрабіла на мяне ўражання. Добра знаёмыя імёны (У. Мурахвер, Л. Мягкова, М. Пюке) і такія ж знаёмыя творы. На пальцах адной рукі можна пералічыць узоры мастацкай апрацоўкі металу (Б. Скрамблевіч, Г. Асташонак, А. Бажай). Разьба па дрэве ўвогуле прадстаўлена адным майстрам — П. Гапаком. Даволі выпадковыя творы на вітрыне медальернага мастацтва.

ПЕРШАЕ УРАЖАННЕ ад выстаўкі: разбягаюцца вочы ад мноства форм, фактур, тэхнік. Праз нейкі час заўважаеш, што экспанатаў, на якіх варта засяроджваць увагу, няшмат. Іншыя ўдалыя творы, як і на папярэдняй, жывапіснай выстаўцы, «губляліся» з-за няўдалага размяшчэння. Часам здавалася, што ты не ў Палацы мастацтваў, а ў салоне Мастацкага фонду БССР ці ў краме «Крышталь». Так, у нас да экспазіцыі яшчэ не навучыліся ставіцца, як да твора мастацтва. А яна, дарэчы, можа ўзмацніць уражанне ад твора, як мікрафон узмацніць гук. Іншая справа, што калі няма песні, дык мікрафон не дапаможа.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

---

**шэсць кінафільмаў, альбомы. Усе гэтыя экспанаты сабраны некалькімі пакаленнямі вучняў. Пра адзін з паходаў па мясцінах баявых дзеянняў брыгады імя Фрунзе расказвае аматарскі фільм «Дарогамі бацькоў-герояў», адзначаны дыпломам на ВДНГ СССР. Ініцыятар і стваральнік фільма — камуніст С. Валькові́ч, арганізатар і ўдзельнік многіх паходаў, адзін са стваральнікаў музея.**

**Ёсць у вучылішча і свае праблемы, і свае цяжкасці. І ёсць свая мара —ператварыць навучальную ўстанову музыкі ў вучылішча мастацтваў, у якім былі б, напрыклад, аддзяленні жывапісу, харэаграфіі. Культурнае жыццё горада стала б яшчэ больш разнастайным і багацейшым, а колькі з'явілася б новых магчымасцей для пашырэння творчых кантактаў з навучальнымі ўстановамі і аматарамі мастацтва іншых гарадоў, рэспублік, краёў... І са сваёю мараю мы не развітваемся.**

**Людміла ЛЯШЧЭВІЧ,**
**выкладчыца аддзялення тэорыі музыкі Маладзечанскага музвучылішча.**

---

**Хацеў бы, каб на старонках «ЛіМа» прагучаў і мой голас у абарону роднай мовы. Не мая ў тым віна, што зусім нядаўна пачаў вывучаць яе. Хоць раней і працаваў у раённых і рэспубліканскіх газетах Беларусі, але ўсё ў рускамоўных. Загадваў аддзелам партыйнага жыцця ў «Связисте Белоруссии», пакуль яе, як і другія шматтыражкі, не «упразднили». Пасля працаваў у Вільнюсе ў трохмоўнай — рускай, літоўскай, польскай — газеце «Дружба». Там таксама быў загадчыкам аддзела партыйнага жыцця. Потым шэсць гадоў вучыўся ў Варшаўскім універсітэце. Цяпер — уласны карэспандэнт вільнюскага «Чырвонага штандара» па Гродзенскай вобласці. Нараджэння 1939 года, са Свіслаччыны, а дакладней, з вёскі Грынкі.**

**Супрацоўнічаю з часопісам «Бярозка», які друкаваў мае нататкі пад рубрыкай «Беларускія Калумбы».**

**АЎТАР.**

*На жыццёвых скрыжаваннях*

**Уладзімір МАЛАШКЕВІЧ**

# КАБ СТРУМЕНІЛІ КРЫНІЦЫ

**НАТАТКІ НЕ ПАБОЧНАГА**

Старая цагельня з майго дзяцінства — чаму прыгадалася ты мне менавіта сёння?

Калі занемагла мая бабка, запрасілі да яе доктара. Той паглядзеў, паслухаў, падумаў і, развёўшы рукамі, сказаў:

— На старасць лекаў няма.

Тады бабуля паслала мяне ў старую цагельню. Ад той фабрыкі цэглы засталіся глыбокія ямы. У іх стаяла цёмная вада. Стромыя берагі пазарасталі лазою.

У адным месцы з гары сачылася-цякла вада. Добрыя, руплівыя людзі, гаспадары зямлі, на дарозе ручаіны выкапалі невялічкую студню. Нават у самы спякотны дзень вада ў ёй халодная-халодная. І была яна блакітнай, як беларускае неба над Нарачча.

І хоць да старой цагельні было няблізка, многія хадзілі туды па ваду. Бо вада тая была смачная, бы верасовы мёд.

Папіўшы крынічнай вады, мая бабуля папраўілася. І яшчэ не раз хадзіла ў старую цагельню. Назад вярталася не толькі з карцом вады. Часта прыносіла грыбы, маліны, ажыны, арэхі, лекавыя зёлкі. Гэтымі зёлкамі ў цяжкія пасляваенныя гады вылечыла не аднаго вяскоўца. А зёлкі тыя раслі ля самай крынічкі...

А прыгадаў я аб гэтым вось чаму. Нядаўна прыслаў мне пісьмо сябар. Жыве ён далёка ад Белай Русі. І вельмі ўдзячны, што дасылаю яму нашы, беларускія, часопісы, газеты, кніжкі... І вось што ён піша: «Ведаеш, пражыў пяцьдзесят — ніколі нікому не зайздросціў. А тут — на табе — зайздрошчу кожнаму, хто жыве там, дзе я нарадзіўся. Здаецца, каб сабака беларускі ўкусіў мяне, то я купіў бы яму за гэта кіло каўбасы... Калі чытаю беларускія часопісы і кніжкі, прысланыя табою, ажываю, як твая бабуля, калі напілася крынічнай вады...»

Вось пасля гэтага я надумаў паехаць да крынічкі дзяцінства. І змарнаваў два дні. Бо крынічкі даўно ўжо няма. Старэйшыя людзі памерлі. А моладзь, хто астаўся ў вёсцы, паляніліся крынічку прачышчаць. Яшчэ гаварылі, што трактарыст крынічку бульдозерам заваліў.

Хто крыніцу закапаў, той і мора не пашкадуе.

●

Юная чытачка часопіса «Бярозка» прыслала ў рэдакцыю журботнае пісьмо. У ім дзяўчынка піша: «Па радыё, тэлебачанні гучыць мілагучная, сакавітая беларуская мова, выходзяць беларускія газеты і часопісы, у тэатрах ставяцца п'есы. А выйдзеш на вуліцу, і роднай мовы не чуваць. Можа, я чагосьці не разумею? Балюча за людзей, якія саромеюцца яе. Ці можна не паважаць бацькоў? Чаму ж можна не паважаць мову?»

З вялікай павагаю я адношуся да часопіса «Бярозка». Гэта адзіны часопіс у рэспубліцы, які выхоўвае вучняў сярэдняга ўзросту. А ў ім усяго трыццаць старонак. На такой плошчы, каб і хацеў, не вельмі разгорнешся.

Але на адказ дзяўчынцы месца трэба было знайсці. Растлумачыць, чаму ў нас не паважаюць мову бацькоў і хто ў гэтым вінаваты. Тут была магчымасць запрасіць да важнай размовы чытачоў. Тым больш, што колькасць іх у гэтым годзе павялічылася. Каб іх не стала, не трэба, як той страус, у пясок галаву хаваць. Сёння ад праўды нікуды не схаваешся, хоць сёй-той яшчэ хоча яе прыхаваць. А камусьці гэта нават удаецца. Толькі мы павінны вучыць дзяцей праўдзе. Такой будзе наша радзіма, якімі выхаваем мы сваіх дзяцей.

Нядаўна на адной гродзенскай школе-інтэрнаце я прачытаў вялікі лозунг: «Зробім дзяцей **свету** шчаслівымі!»

Вось якімі дэмагагічнымі словамі прыкрываюцца тыя, ад каго залежыць шчасце **нашых** дзяцей.

●

Спадабалася мне адна вёсачка. Машталерамі называецца. Стаіць на левым беразе рэчкі Пыранкі, калісьці багатай на ўсялякую рыбу. Нават і сёння можна вывудзіць тлустага ліня ці добрую плотку. Здараюцца і пражорлівыя шчупакі. Але ўсё радзей, радзей...

Вельмі люблю ездзіць у Машталеры. Толькі злез з аўтобуса і вось яно! Бярозкі прыветна махаюць зялёнымі косамі. Таропка шапаціць асіна. Люстэрка чыстай вадзічкі з кавалачка блакітнага неба. А над усім гэтым такое паветра! Удыхнеш і жыць захочацца.

Па палудні, выгнаўшы ў поле кароў, сабраліся пад белай і духмянай чаромхай. На смарагдавай траве-мураве разасланы льняную настольніцу. Замужнія дочкі Толіка Карпачова пераставілі талеркі з квашанінай, яблыкамі з бочак, белым, як рэпа, сырам, жоўтым, як сонца, маслам... Былі тут паляндвіца, кумпяк, яешня. Адным словам, усё тое, што патрэбна для добрай маёўкі.

Калі разгасціліся, з лужка прыкандыбаў стрыножаны конік. Яго пачаставалі хлебам.

— Шкада мне коней, — прачула сказаў Уладзімір Восіпавіч Даўгашэй, а па-вясковаму проста Валодзька. Ён больш за жыццё любіў жывёліну.

— А што іх шкадаваць, — адгукнуўся ўнук, трактарыст калгаса. — Вунь якая тэхніка замяніла іх.

— Паміраюць не толькі коні, — задуменна працягваў Валодзька. — Разам з імі паміраюць і словы.

— Якія яшчэ словы? — унук утаропіўся на дзеда. А белымі зубамі хрумстаў зялёны шчыпер.

— Палазы, хамут, гужы, аглоблі, вупраж, воз, пуга, гнаяркі, сані, лейцы... Ці ты чуеш, колькі ў гэтых словах хараства?

Алесь пацісну ў шырачэзнымі плячамі, маўляў, якое яшчэ хараство! Яму няма чаму дзівіцца. Бо нарадзіўся і вырас у эпоху навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. У слове «матацыкл» ён чуе музыкі больш, чым, скажам, у слове «палазы». Хоць неабвержна тое, што ў апошнім слове музыкі больш, чым у «матацыкле». Прыгадайце ўсё, што звязана з гэтымі тэрмінамі, і вы зразумееце мяне. Хіба толькі што ніколі не ездзілі на санях.

— Дзеду, — раптам зарагатаў Алесь, — а дзе іх пахаваюць?

— Каго? — не зразумеў Валодзька.

— Ну, словы. Ты ж гаворыш, што яны памруць. Дык іх пахаваць трэба.

— Калі памруць усе словы, хлопча, памрэ і народ...

●

Унук Уладзіміра Восіпавіча пасля васьмігодкі скончыў вучылішча сельскай гаспадаркі. Бацькі яго жывуць у горадзе. А вось Алесь, атрымаўшы прафесію механізатара, пераехаў да дзеда і бабы. Жыве і працуе ў вёсцы. Тут яму падабаецца лепей, чым у горадзе.

Вось я і пытаю ў Алеся:

— Скажы, ты ведаеш, хто такія Скарына, Каліноўскі, Тураўскі, Будны, Цяпінскі, Філіповіч, Лышчынскі?

— Гэта людзі не з маёй кампаніі, — пажартаваў Алесь.

Але я не паддаўся на яго жартаўлівы тон. І зноў вельмі сур'ёзна запытаў яго:

— А ці чуў ты пра Статус Вялікага княства Літоўскага?

— А ці не можна лягчэйшага пытання? — аджартоўваўся Алесь.

Ці ёсць віна хлопца ў тым, што ён не ведае гісторыі роднага краю?

Калі ж мы загаварылі пра англійскіх, французскіх каралёў, тут Алесь быў у роднай стыхіі. Затое не ведаў нічога пра ўдзел беларусаў у Кастрычніцкай рэвалюцыі. Быў упэўнены, што Кулікоўская бітва абышлася без удзелу беларусаў.

Цяпер Алесь ужо другі год служыць у арміі. З далёкага Омска ідуць да мяне яго лісты. Просіць салдат прыслаць яму падручнікі па гісторыі роднай Беларусі. Бо саслужыўцы просяць расказаць пра рэспубліку. Пайшоў я ў кніжныя крамы. Знайшоў сёе-тое, пачытаў, падумаў і не стаў пасылаць хлопцу такія шэрыя нецікавыя падручнікі.

●

Здарылася гэта ў той час, які цяпер называюць застойным. Зайшоў я ў рэдакцыю часопіса «Маладосць». І спаткаў там паэтэсу Марыю Хамчук. Некалі мы вучыліся з ёю ў адной школе. Вучыліся ў розных класах, таму ведалі адзін аднаго мала. І цяпер я нават падумаць не мог, што вось гэтая прыгожая жанчына і ёсць Марыя Хамчук. Ды і яна не магла пазнаць мяне: вельмі ж многа год прайшло з той пары, калі мы сядзелі за партамі. Але, як ні дзіўна, варта было мне сказаць колькі слоў, як Марыя ўпэўнена заявіла:

— А вы — з Вялікай Свянціцы.

Я зніякавеў: адкуль яна пазнала?

— Бо так гавораць толькі ў вашай вёсцы.

Так завязалася гаворка аб жыцці-быцці. Калі прыйшоў чарод да мяне, я расказаў, што вучыўся і працаваў у ПНР. Супрацоўнікі часопіса, прагныя да інфармацыі, як гаворыцца, з першых рук, акружылі мяне цесным кальцом. Распачалася цікавая размова.

І тут чорт пацягнуў мяне за язык. Я прыгадаў, як ЦК КПБ накіроўваў мяне працаваць у беларускамоўную газету. Але я вымушаны быў падзякаваць: не ведаў, як гэта ні сорамна, роднай мовы. Супрацоўнік пачаў мяне дакараць за гэта. Але другі заступіўся за мяне. Прыгадаў выпадак, калі амерыканская дэлегацыя асветы папрасіла паказаць у Мінску нацыянальную школу. Які ўзняўся перапалох!

У сувязі з тым, што беларуская мова ў рэспубліцы не з'яўляецца афіцыйнай мовай, я запытаў супрацоўнікаў часопіса пра будучыню «Маладосці». Яны ўсе раптам успомнілі пра нейкія пільныя справы і разбегліся па сваіх кабінетах.

— Што гэта з імі?— здзівіўся тады я.

Толькі праз некалькі год атрымаў я адказ на сваё пытанне. І адказаў на яго пісьменнік, якога я паважаю за яго гістарычныя раманы.

— Мы баяліся нарвацца на правакатара,— сказаў мне Леанід Дайнека.

Вось якія часы былі яшчэ зусім нядаўна.

Але што датычыць часопіса «Маладосць», то змянілася не так многа. Пытанне пра яго будучыню застаецца адкрытым.

Нехта з вялікіх сказаў, што кожны народ заслугоўвае свой лёс. Вось і думаю, ці сапраўды гэта так.

...Я працаваў супрацоўнікам Свіслацкай раённай газеты. Да нас прыехаў дырэктар Гродзенскага абласнога архіва А. Плешаваня. Прывёз ён здымак, знойдзены ў паперах архіва. Дарэчы, ён захаваўся ў мяне да сённяшняга дня. На ім дванаццаць беларусаў. Мы з А. Плешавенем паехалі па вёсках шукаць сфатаграфаваных людзей, калі хто застаўся з іх жывы. Нам пашэнціла, бо ў Гарнастаевічах адразу натрапілі на аднаго са здымка. І тут здарылася неверагоднае. Чалавек нізашто не хацеў прызнацца, што гэта ён на здымку. Як мы ні спрабавалі высветліць, чаму ён не хоча прызнацца, — нічога не выйшла.

Калі мы сядалі ў машыну, каб ад'ехаць, той чалавек сам падбег да нас. І выціснуў з сябе: «Так, гэта я...» Потым высветлілася: яго катавалі ў дэфензіве... Яму нават страшна ўспамінаць пра той час.

А вось яшчэ адзін выпадак. Доўгі час я перапісваўся з вядомым беларускім пісьменнікам. Не ведаю, што цікавага ён знаходзіў у маіх лістах, але заўсёды адказваў рэгулярна. Пісаў спора і прасіў не цягнуць з адказам. Так мы пасябравалі. А з кім, як не з сябрам пагаварыць аб тым, што табе баліць. Вось я і запытаў, што думае ён пра будучыню свайго народа.

З таго часу наша перапіска спынілася. Не адгукнуўся больш пісьменнік на мае лісты. Спачатку я здзіўляўся яго паводзінам. Але вось прыйшлі часы перабудовы. І з «ЛіМа» я даведаўся, што мой знаёмец шмат гадоў сваёй крывёй карміў сібірскіх камароў. І перажыў куды больш, чым гарнастаевіцкі дзядзька ў засценках дэфензівы. І ці трэба здзіўляцца таму, што чалавек і сёння жыве пад страхам? Упэўнены, што не. Бо пісьменнік штодня ходзіць у Мінску па вуліцах, якія названы прозвішчамі людзей, што саслалі яго і многіх другіх у Сібір. І саслалі толькі за тое, што хацелі беларусамі звацца. За тое, што карысталіся матчынай мовай. І гэтай мове вучылі сваіх дзяцей. Больш таго, як піша Генрых Далідовіч, «хто дабіваўся дзяржаўнасці для беларускага народа, адраджэння яго мовы і культуры, не толькі пазней паплаціліся жыццём, але ўсё яшчэ зганьбаваныя».

**(Працяг на стар. 12).**

# КАБ СТРУМЕНІЛІ КРЫНІЦЫ

(Пачатак на стар. 11).

Хацеў бы я ведаць, за што мы, беларусы, заслужылі такі цяжкі лёс?

●

У народных паданнях, у
далёкіх былінах,
У любві да бацькоў і да
роднага сына,
У інстынкце гарачым, таемным,
адвечным,
Якi нас вядзе да святыні
сардэчнай.
А святыняй мы лічым
бацькоўскае поле.
Толькі ў працы на ім — наша
шчасце і воля,
З зямлёй роднай расстацца
нас ніхто не прымусіць,
Наша шчасце — у шчасці ўсёй
Беларусі!

Гэтыя радкі ўзяты з новай кніжкі Алеся Барскага «Лірычны пульс». Сам аўтар нарадзіўся і жыве ў Польшчы, па нацыянальнасці — беларус. Ужо многа год ён працуе ў Варшаўскім універсітэце. Цяпер загадвае кафедрай беларускай філалогіі. Быў і я яго студэнтам, слухаць ягоныя лекцыі па беларускай літаратуры прыходзілі студэнты з другіх факультэтаў. І здаралася, што пад уплывам лекцыі Аляксандра Баршчэўскага некаторыя пераходзілі на беларускую філалогію.

Алесь Барскі — гэта псеўданім Аляксандра Баршчэўскага. Ён з'яўляецца членам Саюза польскіх пісьменнікаў. Яго кніжкі на беларускай мове выйшлі не толькі ў Польшчы, але і ў нашых мінскіх выдавецтвах. Дарэчы, «Лірычны пульс» нядаўна выдала «Мастацкая літаратура».

Паэт любіць Беларусь, часта сюды прыязджае. Калі да сяброў, а калі і па службовых справах. Аднаго разу ён з перакладчыкам Мікалаем Татурам сядзелі ў гасцініцы «Мінск». Да іх гутаркі прыслухоўваўся нейкі чужынец. А потым падышоў і запытаў:

— На каком это вы языке разговариваете?

— На сваёй роднай беларускай мове, — ветліва адказаў Баршчэўскі.

— Если бы на таком языке разговаривал мой ребенок, я выбросил бы его в окошко с девятого этажа, — сказаў, як адрэзаў, незнаёмец.

Мікалай Татур разгубіўся. Бо і было ад чаго.

— А калі б вы не жылі на дзевятым паверсе? — стрымліваючы свае пачуцці, запытаў паэт.

— Тогда разорвал бы своего ребенка на две части!

Не мінуць бы Баршчэўскаму суда, каб не ўратаваў яго статус замежнага госця. Бо ён моўчкі, без слоў, даў адказ шавіністу...

Я не староннік таго, каб гаварыць кулаком з тым, хто гэтага заслугоўвае. Але ўсё ж хацеў бы запытаць у бацькі, які задушыў бы ўласнае дзіця, чаму гэта, — як піша П. Панчанка, — калі гаворыш па-руску — інтэрнацыяналіст, а калі гаворыш па-беларуску — нацыяналіст? Ды, відавочна, ёсць людзі, у якіх аб гэтым пытаць — дарэмна траціць час.

●

А можа, самі беларусы цураюцца сваёй мовы? Не думаю. Мае суседзі з вёскі прыехалі ў горад. Атрымалі тут кватэру. Муж працуе вадзіцелем гарадскога аўтобуса і зарабляе амаль трыста рублёў. Жонка яго скончыла тэхнікум. Часова не працуе па спецыяльнасці, бо глядзіць малое дзіця. Старэйшы сын бегае ў чацвёрты клас. У гэтай сям'і размаўляюць толькі па-беларуску. Маюць багатую ўласную бібліятэку. У ёй пераважна беларуская літаратура.

Вось у іх я і запытаў, што трэба, каб беларускі народ вярнуў сваю мову.

— Вельмі многа і вельмі мала, — першай адгукнулася на гэта гаспадыня. — Па-першае, каб бацькі сваім дзецям прывілі любоў да матчынага слова. Але дзе ж! Колькі разоў бачыла ў кніжным магазіне: дзіця цягнецца да прыгожай кніжкі, а маці ці бацька як крыкнуць на яго: «Гэта беларуская кніжка!» Дык ты ж і тваё дзіця — беларусы! Па-другое, трэба ў школах, як гэта робяць нашы суседзі літоўцы, вучыць дзяцей роднай мове. Але гэта ўжо не залежыць ад нас...

— А ад каго? Толькі ад нас! Захочам мы — будуць школы на роднай мове, прамаўчым — памрэ беларуская мова...

— Яно мо й так, — сказаў гаспадар. — Але вось я чытаў у газеце пра пленум праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. На ім выступаў і наш Ніл Гілевіч. Дарэчы, я яго вельмі паважаю. Ён многа робіць, каб у нашай мовы было як найбольш прыхільнікаў. Дык вось, Ніл Гілевіч прапанаваў у пастанову пленума ўнесці наступны параграф: пленум звяртаецца ў Вярхоўны Савет СССР з просьбай прыняць закон аб тым, што ў кожнай рэспубліцы дзяржаўнай мовай з'яўляецца мова народа, які даў назву рэспубліцы, гэта значыць, вярнуцца да таго, як было пры Леніне...

●

Мой знаёмы Сяргей Карбоўскі ўжо чвэрць веку жыве ў Вільнюсе. Ён любіць вельмі часта мяняць месца працы. Але з кожным годам яму ўсё цяжэй і цяжэй знайсці новую работу.

Аднаго разу мы спаткаліся з Сяргеем у той самы час, калі ён пакінуў адну ўстанову, але яшчэ не знайшоў другую.

— Скажы, Сяргей, — пытаю знаёмага, — а каб ты загаварыў у аддзеле кадраў па-літоўску?

— Вядома, хутчэй для мяне знайшлася б адпаведная праца.

— Дык у чым справа? Няўжо за столькі год ты не вывучыў літоўскую мову?

— І сваёй дачцэ забараніў яе вучыць, — сказаў, як адрэзаў, Карбоўскі.

Што датычыць яго дачкі Святланы, то тут трэба сёе-тое растлумачыць. Школу яна скончыла ў Вільнюсе. Вучылася разам з літоўскімі дзецьмі. Вывучала літоўскую мову і вельмі добра паслугоўваецца ёю. А бацьку не хваліць за тое, што ён ганьбуе мову людзей, сярод якіх жыве. Тым больш, што сам па спецыяльнасці філолаг. Дый чалавечая павага падказвае нам паважаць народ, чый хлеб ясі!

Неяк карэспандэнт «Пионерской правды» па Беларусі Вячаслаў Марозаў апавядаў мне, што ўсе карэспандэнты цэнтральных выданняў найахвотней едуць у Беларусь.

— У іншых рэспубліках нашы карэспандэнты адчуваюць сябе гасцямі. А тут мы як дома.

Наша гасціннасць вядома далёка па-за межамі рэспублікі. І ў гэтым няма нічога кепскага. Толькі празмерная хлебасольнасць псуе гасцей. І яны пачынаюць адчуваць сябе ўжо не на правах гасцей, а на правах гаспадароў. А ў нас не хапае адвагі паставіць іх на месца, словамі Барыса Бур'яна сказаць: «Калі ты ясі беларускі хлеб і п'еш беларускую ваду, які ж з цябе чалавек, калі ты не ўдзячны ёй за гэта, Беларусі?»

●

З раўчука пачынаецца рэчка.

Беларускае тэлебачанне раз у месяц паказвае трыццацімінутную перадачу. Называецца яна «Роднае слова». Кідаю ўсе справы і саджуся ля тэлевізара. Бо «Роднае слова» робіць добрую справу. Калі матэрыял па беларускім фальклоры ў школьнай праграме надалей застаецца мізэрным, то перадача часта закранае і паказвае скарбніцу народнай мудрасці. Рэгулярна інфармуе сваіх гледачоў аб навінках беларускіх лінгвістаў. А плён іх у апошнія гады вельмі цешыць. Карацей кажучы, «Роднае слова» вядзе вялікую работу па адраджэнні мовы. А добрага ніколі не бывае занадта. Таму даўно наспела патрэба павялічыць не толькі колькасць разоў перадачы ў месяц, але і час гучання ў эфіры. Паведамленне аб двухразовым выхадзе ў эфір паўтарагадзіннай перадачы «Роднае слова» зацікаўленыя тэлегледачы прынялі б за сваё свята.

«Роднае слова» многа робіць, каб гучала наша мова. Але аднаму «Роднаму слову» змяніць становішча не па сіле. Трэба намаганні ўсёй грамадскасці, усіх дзяржаўных устаноў.

Але найперш кожны павінен пачаць з сябе, са сваіх блізкіх. Так дзейнічаць параіў мне рэдактар «Роднага слова» Уладзімір Содаль. І ён меў рацыю. Гэта важная справа. Адразу адчуў гэта, як пачаў на гэтую тэму размову са сваімі знаёмымі, нават са сваякамі. Стрыечны брат па матчынай лініі мае вышэйшую адукацыю, скончыў Гродзенскі інстытут сельскай гаспадаркі. Працуе старшым аграномам у адным з калгасаў Бераставіцкага раёна. Як жа ён мяне здзівіў, калі на маё пытанне, хто ты па нацыянальнасці, адказаў: рускі. Падобнае адбылося ў такіх жа абставінах з малодшым братам па лініі бацькі. Ягоныя прадзеды, дзяды, бацькі сваімі каранямі выходзяць з беларускай зямлі.

Вельмі ў гэтых людзей укараніліся пэўныя стэрэатыпы. Вельмі доўга ім у галаву ўбівалі, што калі гаворыш па-руску, то ты інтэрнацыяналіст... Але ўсё ж вельмі хочацца ведаць, як гэта робіцца, што чалавек з вышэйшай адукацыяй амаль нічога не ведае пра гісторыю роднага краю?

●

Шукаючы адказаў на свае балючыя пытанні, я звяртаюся да мудрых і кампетэнтных людзей.

Кузьма Чорны гаворыць: «Вялікая беларуская моўная стыхія не толькі не загінула за час шматвяковага нацыянальнага падняволення Беларусі, не толькі не была праглынута моцнымі культурамі суседніх народаў, а захавала сваю чыстату, скрышталявалася ў надзвычайнае багацце арыгінальных формаў, служачы нават багатым матэрыялам для суседніх моўных культур. Беларуская мова — мова беларускіх казак і песень, фразеалогія народнае гутаркі, — гэта найглыбейшая самабытнасць і хараство».

Беларусь доўгія вякі збірала і ахоўвала сваю мову. А тут за лічаныя дзесяцігоддзі забыла яе. Якія ж гістарычныя перуны, які град, якія маланкі прайшліся па нашых моўных загонах, знішчылі ўсё тое, што выстаяла ў вялікую засуху? Ці зазелянеюць зноў нашы моўныя палеткі?

Васіль Аляксандравіч Сухамлінскі, вялікі настаўнік і грамадзянін зямлі савецкай, сказаў: «Лічу, што кожная з нашых славянскіх моў нясе сваю непаўторную духоўную стыхію, і як бы — не дай бог — хоць адна з нашых моў памерла, страту, ні з чым не параўнаную, панеслі б мы ўсе...»

Калі мы застанёмся без роднай мовы, кожная наша вёска стане Хатынню.

## Паэзія

**Мікола ПРАКАПОВІЧ**



## ...І нараджалася слова

Уладзіміру Андрэевічу
КАЛЕСНІКУ

Пасля трохгадовай працы выкладчыкам берасцейскай брацкай школы Лаўрэнцій Зізаній друкуе ў Вільні першую на Беларусі і Украіне «Граматыку» і буквар.

●

Бадзёра на ўсходзе днее.
Вязе па зямлі вазак
Няспраўджаныя надзеі...

Гані, каб з вачэй сляза!
Над хатай старой буслянка
Ўзмахне маладым крылом.
Матулінай калыханкай
Прымроіцца родны дом.
Паехаў у свет па долю—
Радзіму ў душы знайшоў.
Ды адгукнецца болем:
Зерне не ўсё ўзыйшло.
Пагоняй гады ляцелі,
З-пад капытоў—жарства.
Княства былая веліч
Згадкай асвеціць твар.
Уладары—без улады...
Цяпер—за верай чарга...
Якое тут дацьмеш рады—
Ні гаспадар, ні слуга?
На вечны наш стыд балючы
Гэтак і будзем тлець:
Дзяцей сваёй мовай вучым
Адно прачытаць ледзь-ледзь...
Няўжо табе не ўваскрэсці,
Радзіма,—з глухой нематы?

...Яшчэ ў парубежным Берасці
СЛОВА бароніш ты.

### Брацкая школа

Калядны вэрхал за вокнамі
сціх,
Падлога ўсеяна жытам...
Гадзіннік на ратушы абвясціў:
Яшчэ адзін год пражыты.

Як рукі, уверх узняла крыжы
Царква святога Міколы.
Якому богу табе служыць?
...Вучыцца брацкая школа:
Думку сваю перадаць
найлепш,
Разумнае чуць у прамовах,
Поле размераць,
Спяваць,
а найперш
Вучыцца словам і мовам.
У іх—да пазнання таемны
ключ,
Шлях да мудрых казанняў.

Веру сваю шанаваць і зямлю
Вучыць Лаўрэн Зізаній.

### Братчыкі

Не адзін— і ў тым душы
падтрымка.
Побач—вучні, недзе ў Вільні—
брат.
Кнігі, кнігі—мудрасці іскрынкі.
Цяжкі шлях. Ты сам яго абраў.
За тваёй спіной—Скарына,
Будны,
І Радзіма—за тваёй спіной.
Верым мы, што дзень
пазначыць судны
Праўду—праўдай,
А ману — маной.
Так было.
І так заўсёды будзе.
Не здрабнеў русінскі наш
народ!
Ёсць яшчэ ў Вялікім княстве
людзі,
Што не толькі дбаюць
пра жывот.
Што не пнуцца з віскам
да карыта,
Гонар свой прадаўшы і зямлю,
Не збаяцца паглядзець
адкрыта
Ў вочы і сябрам, і каралю.
Веры не сцураюцца і мовы,
Хоць сплаціў за гэта
не адзін.

...Берасцейскі радца
Хведаровіч
Сёння ў школу сына пасадзіў.
Дагавор заключаны па чыну[1],
Самы час заняткі пачынаць...
— Тут вось кнігі доктара
Скарыны,—
Школе іх хачу ахвяраваць.
Хай чытаюць хлопцы-
берасцейцы,
Родным словам востраць зрок
і слых.
Хай душой дачыняцца
і сэрцам:
«Пчолы... бароняць вулляў
сваіх»!
А то, бачыш, Скарга[2]
заяўляе,—
Гладка чэша, ды не ў добры
час,—
Што нічога мы свайго
не маем,
Што культурай ані пахне ў нас.

Так карцела пану езуіту
З хеўрай гэткіх мондрых,
як і сам,
Даказаць, што цёмным
і забітым
Жыў мой продак без яго
ў лясах.
Што гісторыя майго народу
Толькі й пачынаецца цяпер...
І ласкава так—пра лад
ды згоду
«Бескарыслівую», напавер.
Разыйшоўся вунь як, не
на жарты,
Хоць яго да раны прылажы.
Кажа: з мовай нашай, жалю
вартай,
Не ўзрастуць вучоныя мужы.
Ні граматыкі,
ні красамоўства,—
Не прыдатна да навук яна...

І кальнула ў сэрца стрэмкай
вострай:
Мова, як матуля, ў нас—адна.
Дык няўжо ты станеш людзям
лішняй,
І нашчадкі, нібы жабракі,
Разнясуць цябе па мовах
іншых,
У чужыя, лепшыя куткі?
Кім жа назавешся ты,
мой сыне,
Як Радзіму назавеш сваю?

«... людзі,
дзе зрадзіліся і ўскормлены
суць па бозе,
к таму месцу
вялікую ласку маюць».

Ціха-ціха ў школе.
Па Скарыне
Берасцейцы мудрасць
пазнаюць.

●

Ёсць яна, веры аснова,
Не сыйдзе ўсё ў прах і дым!
...І нараджалася
СЛОВА
У змучаным сэрцы тваім.
Ты нёс яго праз пагарду,
Праз здраду, дзяржаўны
сверб.
Моц незямнога гарту—
Юначых вачэй давер.
Магчыма, не велькі гонар—
Выкладчык тутэйшых школ.
Ды неўміручым звонам
СЛОВА
гучыць вакол.
Яно разгайдае троны,
І задрыжаць яшчэ
І царствы ўсе і кароны
Ад гэтых святых вачэй.
Узыйдзе аднойчы ранкам
На полі тваёй сяўбы
Матуліна калыханка—
Песняю барацьбы!
Імчыце, коні!
Як вера,
Як найвялікшы скарб—
У спісаных стосах паперы
ГРАМАТЫКА
і
БУКВАР.

---

[1] Чын — статут брацкай школы.

[2] Пётр Скарга — царкоўна-рэлігійны і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай.

# ТУТ МОЖНА ЖЫЦЬ

(Пачатак на стар. 2—3).

абарону грамадзянскіх правоў, свабод і годнасці перыферыя сустракае з надзеяй, чакае ад іх цуду. Вядома ж, нават сумленныя пераказы не могуць замяніць арыгінальных тэкстаў і спатоліць смагу самастойнага асэнсавання.

Не ўсталёўваецца ў рэспубліцы атмасфера адкрытасці. Не відаць і не чуваць, калі настане час партнёрскага дыялогу. Бюракратыя не кідае свае даўнішнія звычкі глушыць галасы грамадскасці і нефармальных аб'яднанняў, а апошнія ў сваю чаргу, пазбаўленыя падтрымкі і зычлівай крытыкі, кідаюцца ў крайнасці. Максімалісцкія перытрымкі, неабачлівыя выказванні маладых разносяцца на языках, абрастаюць зламыснымі падтэкстамі, не дзіва, што ў гэтай атмасферы нефармальныя арганізацыі слаба растуць —як у сталіцы, так і на перыферыі.

Экстрэмальныя патрабаванні насцярожваюць, адцягваюць увагу ад праблем адраджэння беларускай мовы, культуры, карбаў народнай душы. Несумненна, вымушаная неабходнасць апранаць у мундзіры калектыўных адозваў, дэкларацый, зваротаў, праграм яшчэ неўсталяваныя думкі, якія натуральна павінны б жыць спачатку ў канкрэтных галовах, выказвацца індывідуальна, публікавацца, абмяркоўвацца на розных узроўнях перш, чым стаць параграфамі пастаноў і праграм, заўчасная вымушаная фармалізацыя ідэй, супрацьпаказаная нефармальным арганізацыям, таксама злосны парадокс правінцыялізму на рэспубліканскім узроўні.

Тут не месца пералічваць усё трапнае і вытыкаць пахібкі ў «Звароце ініцыятыўнай групы Канфедэрацыі беларускіх суполак». Ёсць там рэчы, якія шакіруюць, хоць яны і перакрываюцца станоўчымі ініцыятывамі, у ліку якіх дамаганне свабоднага доступу грамадскасці да сродкаў масавай інфармацыі, ахова беларускай мовы, нацыянальнай культуры, грамадзянскіх і аўтарскіх правоў. Скажу толькі, што не на карысць будучай Канфедэрацыі суполак ідзе ўзроставы партыкулярызм, дамаганне для моладзі прыярытэту ў сацыяльным забеспячэнні, прывілеяў для маладых сем'яў. Ва ўсіх грамадствах прыярытэтам на сацыяльную апеку карыстаюцца дзеці, і ўсе, а не толькі маладыя маці малых дзяцей, інваліды і састарэлыя, няздольныя да працы, а ў нас— маладажоны. Нельга вызваляць моладзь ад гуманістычнай адказнасці за ўсё грамадства, ад клопату за самапачуццё ўсіх узроставых і сацыяльных пластоў. Юнацкім партыкулярызмам аддаюць прапановы «Звароту» ўвесці нацыянальныя адзінкі арміі, абмежаваць праходжанне вайсковай службы межамі сваёй рэспублікі. Чытаючы гэтыя параграфы, думаеш, няўжо арміі сталі служыць у сучасным свеце толькі для парадаў і нам можна пераапрануць Савецкую Армію ў нацыянальныя вышыванкі, узброіць балалайкамі, бандурамі ды цымбаламі? Перабудоўваць армію трэба, як усе састаўныя часткі дзяржавы. Ёсць, на мой погляд, сэнс у павелічэнні ролі прафесійнага складу вайскоўцаў, што прапануецца ў памянёным «Звароце». Аднак уводзіць перагародкі ў структуру, калі другі бок набіраецца сілы — несур'ёзна. Займацца перабудовай арміі павінны кампетэнтныя і адказныя спецыялісты, а грамадскасці разумна абмежаваць свае намаганні ў гэтай справе патрабаваннем парытэту, раўнавагі сілы нашай і сілы працаўніка.

САМАЮ КІДКАЮ РЫСАЙ правінцыялізму ў літаратурным жыцці рэспублікі з'яўляецца, на маю думку, абсалютная няздольнасць беларускай пісьменніцкай сябрыны рассяляцца. Адных трымае і палохае субардынацыйная залежнасць перыферыі ад цэнтра, другім лесціць становішча сталічных шышак. Як на маё асабістае адчуванне, дык у гэтай палахлівасці ёсць крыху прытворства і часам хітрыкаў, якімі прырода кампенсуе, як вядома, нястачу ў чалавека характару, творчай самастойнасці і шмат чаго яшчэ. Не адчуваў В. Быкаў, А. Пысін, жывучы на перыферыі, якойсьці непаўнацэннасці, не адчувае Н. Мацяш, А. Карпюк, Д. Бічэль-Загнетава. Ёсць сярод сталічных таварышаў аматары глянуць зверху на правінцыяла, паставіць на адну рыску ніжэй сталічнага калегі, але не менш бывае і зычлівасці, бескарыснага клопату з боку тых работнікаў друку, якія прафесійны падыход да аўтараў ставяць вышэй асабістых сімпатый і нават установак, спушчаных зверху. Мне падабаецца наша літаратурнае асяроддзе, бо ў ім ва ўсе часы, як я памятаю, хапала ўнутранай свабоды, часам смеласці, на горшы ж канец гумару, каб, дапускаючы кампрамісы, ведаць, што гэта паскудная справа.

За гады застою літаратурнае асяроддзе сталіцы абрасло службістамі і знаўцамі культавых абрадаў, майстрамі этыкету, умелымі нейтралізатарамі жывога, вострага падтэксту ў рукапісах, адным словам, функцыянерамі, фармалізатарамі літаратурнага працэсу. Творчая сябрына пачала ператварацца ў вытворчы цэх. Неяк на адным з нашых з'ездаў маскоўскія госці, слухаючы парады ідэалагізаваных рамеснікаў пяра, далі нашай арганізацыі мянушку — «рота палітрукоў». Думаю, што гэта была трапная гіпербала. Можна было б і вастрэй назваць нашага брата, гратэскавым, хадавым у вайскоўцаў слоўкам «паліттуркі», за прабачэннем Назыма Хікмета. Цяпер пачынаецца ачышчэнне, вяртанне назад да сябрыны, да першаасновы. Пісьменнікам з перыферыйных асяродкаў гэта па душы, бо там сяброўскія нефармальныя паводзіны не зводзіліся. Тут стараемся трымацца гуртам, хоць і сварымся, бывае, але даражым пачуццём дружнай сям'і. Здаралася, і абараняцца мусім гуртам. А як жа інакш? Вось перад Кастрычніцкім святам пазваніла Ніна Мацяш, пасля абмену віншаваннямі я заўважыў нешта не святочнае ў голасе. І сапраўды, яна стала аб'ектам нагавораў і нападак за тое, што ўзялася стварыць пры Доме культуры ў Белаазёрску асветніцкую сябрыну «Агмень». Напярэдадні арганізацыйнага сходу ў пасёлак прыехаў раённы ідэолаг, убачыў з мясцовым калегам аб'яву, прачыталі і абурыліся: як гэта, ствараць арганізацыю самавольна? Заняліся прафілактыкай. Учыталіся ў заяву, вылучылі слова **сход** і ўзялі ініцыятыўнікаў на бюракратычны кручок: на сход трэба дазвол райвыканкома. Без дазволу можна праводзіць толькі пасяджэнні, значыць: зняць аб'явы, вучняў і настаўнікаў на сход не пускаць! Дырэктар першай Белаазёрскай школы Г. Залеўскі ў прафілактычным запале дайшоў да таго, што прыйшоў у клуб і прымушаў сваіх настаўнікаў пакінуць незаконную зборню. Адным словам, «Пінская шляхта» ў перабудовачным выданні. «Я да гэтага часу, — піша ў пісьме да мяне Н. Мацяш, — не магу апамятацца... »

Кожны год, калі чытаю студэнтам курс беларускага фальклору, чую недзе на тэме калядных песень сакраментальнае пытанне: «Вы хваліце народныя абрады і песні за іх маральна-выхаваўчую каштоўнасць, а ў нас старшыня сельсавета штрафуе бацькоў, чые дзеці хадзілі шчадраваць!» У вачах слухачоў я, выкладчык, аказваюся тым салдатам, які мае смеласць хадзіць не ў нагу, бо не падпарадкаваны старшыні сельсавета.

Сёлета пачуў ад першакурсніц пра новыя, больш рафінаваныя прыёмы змагання з народнымі абрадамі пад покрывам атэістычнага выхавання. Адзін старшыня сельсавета прымяніў «класавы» падыход: паштрафаваў на выбар дзяцей калгасных спецыялістаў і растлумачыў: «Начальніцкія дзеткі разнахабіліся — няхай ведаюць, у каго ўлада: у рабочых ды сялян ці ў гнілой інтэлігенцыі». Дырэктар нейкай дзесяцігодкі правёў цераз бацькоўскі савет рашэнне падстрыгчы пад нулёўку ўсіх хлопцаў, што хадзілі шчадраваць. Абіндзюжыў усіх, як авечак на вясну. Народная мудрасць кажа: «Не дай бог свінні рог, а мужыку пана».

Колішні дырэктар (царскі, польскі) не дазволіў бы сабе такі глум, бо ведаў, што глумленне паніжае не толькі таго, над кім глумяцца, але і таго, хто глуміцца.

Вядома ж, ёсць разумная альтэрнатыва апісанай практыкі, жывуць на месцах і светлыя кіраўнікі, што ведаюць цану чалавечаму фактару, жывуць і сапраўдныя ініцыятары, энтузіясты. У Ляхавіцкім, Столінскім, Пружанскім і іншых раёнах здаўна свабодна святкуюцца народныя святы, калядуюць, шчадруюць, гукаюць вясну, паляць купалькія агні... Дырэктар саўгаса «Іскра» Аркадзь Скакун выдзяляе сродкі на ўборы ўдзельнікам масавых відовішчаў, раённая газета публікуе рэпартажы і здымкі. Усе ведаюць, што добры грамадскі клімат —такая ж каштоўнасць, як і зарплата ці кватэра. Цяпло збліжае людзей, трымае на месцах, а сіберны холад разганяе. Калісь у Пажэжыне Маларыцкага раёна была вялікая сярэдняя школа, тады мясцовыя культурнікі, у іх ліку настаўнікі, пераапраналіся і хадзілі шчодрым вечарам па вёсцы — толькі не шчадраваць, а лавіць вучняў-шчадроўнікаў, каб заўтра ўшчуваць іх, а бацькоў палохаць штрафам. Сёння лавіць няма каго: закрылася ў вёсцы і пачатковая школа.

ХТО Ж УВАСАБЛЯЎ камандную правінцыяльшчыну ў часы застою? Мясцовыя тузы, часта самадуры. Прыязджае, бывала, адказны таварыш у школу, якую афармляе мастак, бачыць партрэт Горкага, а пад ім надпіс: «Чалавек — гэта гучыць горда!» Чытае, круціць галавою: «Што за надпіс? Няправільна. Напішыце: «Савецкі чалавек — гэта гучыць горда». Мастакі перарабляюць. Праз дзень прыязджае іншы, ніжэйшага крэсла, але больш адукаваны, чытае і дзівіцца: «То ж скажоны горкаўскі афарызм, патрэбна дакладнасць». Мастакі тлумачаць сітуацыю. Ніжэйстаячы змаўкае. Але пакінуць такога ляпу не можа. Школу ж прыедзе прымаць камісія, высветліцца, што і ён глядзеў, і ён недабачыў. Шукае кампрамісу: піша на картцы: «Трудом своим славен человек» і перадае праз дырэктара школы мастакам. Тройчы наклейвалі літары, двойчы збівалі і паскардзіцца не было каму — правінцыя!

На правінцыі здараюцца яшчэ больш пацешныя сітуацыі, у якіх не ведаеш, што рабіць: смяяцца ці заплакаць ды апусціць рукі.

Вось задумала кіраўніцтва багатага калгаса зрабіць уласны комплекс адпачынку з вярхавой яздой, даўнімі забытымі брычкамі, панскімі фаэтонамі, «лінейкамі», адным словам, рэлакс з пераносам у мінулыя стагоддзі. Здорава! Нават замежных турыстаў зацікавіць. Прыгадалася, што ў калгас гэты ўваходзіць вёска Лышчыцы, сядзіба вядомага грамадскага дзеяча на Брэстчыне, педагога, адваката, філосафа-атэіста, аднаго з першых вестуноў утапічнага сацыялізму ў Беларусі, чалавека, які марыў пра «свет без улады, гарады без начальнікаў, народ без гаспадароў». За бязбожніцтва мысліцель быў спалены на кастры ў Варшаве пастановаю сеймавага суда. Нашчадкі вырашылі зрабіць у апусцелым будынку царквы музей славутаму земляку — духоўны цэнтр культурнага комплексу. Ідэя захапіла мастака Сымона Свістуновіча, ён зрабіў макет, а паколькі экспанатаў, звязаных з Лышчынскім, было няшмат, вырашыў запрасіць вядомых мінскіх мастакоў. Чутка пра самадзейнасць дайшла да раённага начальства і тое спалохалася нестандартнасці задумы. Сабрала журы з раённых і абласных музейнікаў, нашкаленых ідэалагічнаю службай. Запрасілі мінскіх мастакоў. І вось знаёмства. Ідэалагічная функцыянерка стала апытваць: «А хто вы?» — «Мастак Уладзімір Савіч». — «Я вас не ведаю!»

Чалавек атрымаў медаль Івана Фёдарава за кніжныя гравюры, афармляў зборнікі беларускіх казак па заказе японцаў і кніжнікаў з ФРГ. Там яго ведаюць, а ў Брэсце можна не ведаць ні Савіча, ні Лышчынскага. Апошні ў свядомасці ідэолага быў польскім шляхціцам, чужаком, ды і толькі. Адсюль дырэктыўны загад: зрабіць не асабісты музей Лышчынскаму, а музей калгаса. Не важна, што ўзбуйненаму калгасу ўсяго два гады... Падобныя маўзалеі мясцовага значэння на Брэстчыне ў модзе.

Прыгадваю, што ў часе абмеркавання праспекта афіцыйнай кнігі «Брэсцкая вобласць» адзін з ідэолагаў абласнога значэння назваў польскім рэакцыйным шляхціцам К. Каліноўскага. Я запярэчыў, што Каліноўскі ненавідзеў рэакцыйную шляхту, загадаў караць смерцю тых, што марудзілі з вызваленнем сялян ад прыгону. У адказ убачыў хітраватую ўхмылачку: «Ведаем, мы не лыкам шыты». Значыць, берасцейская пазіцыя. Яе прапаведнік называе сябе філосафам. Ядро яго вучэння — дактрына, што культура ў прынцыпе можа развівацца без роднай мовы. Аб'ектам ідэалагічнай апрацоўкі па праграме бязмоўя ўжо год з'яўляюцца брэсцкія паэты. Пакуль што, на шчасце, ніхто не перайшоў у без'языкую веру. Але ідэя носіцца ў паветры. Нядаўна мне на сустрэчы з выкладчыкамі педінстытута была падкінута гэтая дактрына ў разгорнутым выглядзе: у ЗША няма нацыянальнага пытання, усе нацыі гавораць на на адной мове і ніякіх праблем, жывуць багата... Навошта ж нам?..

Падобных казусаў магло б і не быць, каб ідэалагічная служба папаўнялася актыўней светлымі галовамі. Не так даўно адбылася павальная фемінізацыя кіруючых ідэалагічных кадраў. Увогуле ад гэтага мерапрыемства крыху пасвяжэла ідэалагічная атмасфера: жанчыны больш чулыя да этычных праблем, не мірацца са знячуленасцю, яны лепш разумеюць і складанасці асабістага жыцця людзей, чым задубелыя, пажыццёва палітызаваныя «мужы». Аднак і сярод жаночага папаўнення нямала абцяжараных той жа артадоксіяй, праўда, у эстэтычнай упакоўцы. На мой погляд, ідэолагі абавязаны рэгулярна выступаць у сродках масавай інфармацыі, удзельнічаць у дыскусіях, набірацца прафесійных ведаў і ўменняў. Рабочая загрузка павінна быць сур'ёзнай, а не дыпламатычна - прадстаўнічай, тады і на пасадах не захочацца векаваць і вярнуцца на асноўную работу — не брыдка.

У СУВЯЗІ з рэарганізацыяй і скарачэннем партыйнага апарату і дзяржаўнай адміністрацыі ёсць шанц рашуча падняць прафесійны ўзровень і гуманітарныя вартасці як ідэалагічнай службы, так і органаў упраўлення культурай, асветай. Сучасная ідэалагічная служба партыі павінна вызваліцца ад людзей, абцяжараных спадчынай сектанцкай нецярпімасці, бюракратычнай казуістыкі і дыктатарскіх замашак. Партыі сёння патрэбны работнікі інтэлігентныя, гуманізаваныя, здольныя акумуліраваць ідэі, што ідуць як ад самой партыі, з пярвічных арганізацый, перадавых прадпрыемстваў, навуковых устаноў, вышэйшых школ, творчых саюзаў, маладзёжных калектываў, так і ад ініцыятыўных самадзейных аб'яднанняў розных профіляў. Адным словам, партыйны апарат абавязаны факусіраваць усе здаровыя імпульсы, што ідуць ад асяродкаў, якія з'яўляюцца вогнішчамі нараджэння новых вытворчых і грамадскіх ідэй, ініцыятыў, умець прагназіраваць і стымуляваць грамадскія працэсы, узбагачаць сістэмы этычных, патрыятычных і эстэтычных ідэалаў. Ініцыятыўныя арганізацыі пры ўсіх магчлівых пахібках, што могуць дапускаць іх члены ці нават кіраўнікі, павінны прызнавацца партнёрамі, а не шкоднікамі: шкоды ад іх тысячу разоў менш у параўнанні з тою, што нанеслі партыі бюракраты, артадоксы і дэмагогі, культавыя страхапуды і застойнікі. Нават непрымальныя ідэі, калі іх выказваюць думаючыя людзі, павінны спажыткоўвацца як стымулятары пошуку контраргументаў і самаўзбагачэння, набыцця дыскусійнай формы. Адным словам, партыі сёння патрэбны ў апараце работнікі, здольныя шырока і свабодна размаўляць з камуністамі і беспартыйнымі, веруючымі і няверуючымі — па-людску. Тут, можа, адзін з ключоў да перабудовы свядомасці.

Апарат кіравання асветай і культурай, які існаваў да гэтага часу, у маім адчуванні — гэта плод усесаюзнага бюракратычнага правінцыялізму. У нашай беларускай культурна-асветнай сітуацыі недарэчнасць гэтага ўтварэння пераўзыходзіць фарсавыя межы, бо культурай часта ўпраўляюць людзі, якія не толькі не ўмеюць ствараць каштоўнасці культуры і не ведаюць ім цаны, але часта не хочуць ведаць нават мовы, на якой тыя каштоўнасці стварыліся. Працэс тварэння духоўнай культуры сацыялістычнай краіны павінен быць толькі і абсалютна самакіраўнічым працэсам. У механізме самакіравання з часам галоўнае месца зоймуць майстры культуры, яе творцы і носьбіты. Невялікі адміністрацыйны апарат будзе іграць службовую і абслугоўваючую ролю, як выканаўца калектыўнай думкі і волі самога самадзейна арганізаванага архіпелагу творчых калектываў і асобных незалежных буйных мастакоў, стваральнікаў школ, кірункаў, стылёвых плыняў. Так я сабе ўяўляю будучае — і не толькі ў сферах духоўнай вытворчасці.

г. Брэст.

## Нашы публікацыі

**У апошнія гады імя Ларысы Геніюш і яе вершы ўсё часцей з'яўляюцца на старонках рэспубліканскага друку. Аднаго дня ў рэдакцыю прынеслі заказны ліст са Слоніма ад Васіля Рыгоравіча Супруна — апантанага краязнаўца-археолага, пра што сведчаць хоць бы шматлікія спасылкі на яго прозвішча стваральнікаў энцыклапедычнай серыі «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі». У лісце ў рэдакцыю В. Супрун пісаў: «Вы робіце цудоўную і вялікую справу па прапагандзе роднага слова, нашай культуры і гістарычнай спадчыны. А калісьці, 40 гадоў назад, за патрыятычнае жаданне папулярызаваць родную мову, культуру і гісторыю мяне абвінавацілі ў антысаветызме і Цанава зрабіў «здраднікам». Допытамі, турмамі і лагерамі імкнуліся выціснуць з мяне нейкага «злачынцу і ворага». Адгрымеў ланцугамі з 1947 па 1956 год, да зняцця абвінавачвання. На Поўначы завочна пазнаёміўся з Ларысай Геніюш, якая пакінула ў маёй памяці глыбокі след. Хацелася б менавіта ў вашай газеце змясціць кароценькі ўспамін з тых дзён, нізку яе і сваіх вершаў з нашай лагернай перапіскі».**

**Думаецца, што гэтая публікацыя сапраўды варта ўвагі нашых чытачоў — як наздвычай шчыры, балючы дакумент часу.**

# ВЕРНЫЯ «КСІВЫ»

Была вясна пяцьдзесят трэцяга, звычайная лагерная вясна на далёкай Поўначы. Проста пацяплела, ды і на сэрцы крыху заадліжала — нарэшце не стала «бацькі народаў». А колькі незвычайных навін! Але лагер жыў па-ранейшаму, наш гарызонт зусім не прасвечваўся.

...Вечарэла. Зайшоўшы ў штабны шахтбудаўскі барак, я зірнуў у кут, на ніжнія нары, дзе было месца Г. Кочура— вядомага ўкраінскага літаратара, прафесара. Ён сядзеў з паперкай у руках, відаць, толькі вярнуўся з вячэры. У гомане мітуслівага бушлатнага натоўпу, які вяртаўся з працы, я непрыкметна прашмыгнуў да яго.

— А, прывітанне братам!— як заўсёды ветліва і цёпла сустрэў мяне прафесар.

Да Г. Кочура я забягаў нячаста, калі супадалі змены і хапала сілы. Прыемна было ў гэтых страшэнных умовах нікчэмнага існавання сустрэцца з чалавекам, які валодаў не толькі вялікім багажом ведаў, талентам, але і дзіўнай інтэлігентнасцю. Да беларусаў ён адносіўся шчыра, па-сяброўску. Цікавіўся і быў знаёмы з нашай літаратурай, асабліва цаніў творчасць Максіма Багдановіча і раннія творы Максіма Танка. Там зрабіў некалькі цудоўных перакладаў.

Вярнуўшыся з працы з-за зоны, брыгадзір непрыкметна перадаў яму «ксіву». Прачытаўшы, ён растлумачыў мне, што гэта запіска з Абезі, з жаночага лагера, які размяшчаўся недзе за 70 кіламетраў ад нашага Інцінскага спецлага № 2. Я здзівіўся. Ніяк не верылася, што ў гэтых асобарэжымных умовах, дзе наогул пісаць забаранялася, а на лісты дамоў даводзіліся нікчэмныя ліміты (адзін у год, а пасля—некалькі), мелася нейкая магчымасць сувязі нават з іншымі лагерамі, тым больш з аддаленай Абеззю. Аказалася, што ўкраінцы праз сваіх землякоў на волі наладзілі такую рызыкоўную таемную пошту. Ведаючы, што ўсё гэта надзвычай небяспечна і складана, я ўсё ж адважыўся папрасіць Г. Кочура перадаць па сваім канале ў жаночы лагер і маю запісачку з просьбай паведаміць, ці ёсць там беларускі і хто. У лагерах на Поўначы беларусаў аказалася менш, чым украінцаў і літоўцаў, і мы імкнуліся трымацца па магчымасці дружней, і наогул хацелася ведаць аб зямлячках-нявольніцах.

Кочур ветліва згадзіўся дапамагчы. Скручаная маленькай папяросай мая паперка неўзабаве дасягнула Абезі. Праз нейкі час прыйшоў адказ ад невядомай мне Ю. Ліпскай, інтэлігентнай украінкі, якая, чула зразумеўшы просьбу, паведамляла, што ёсць і нашы зямлячкі. Пры гэтым абяцала з часам пазнаёміць з адной з іх, сваёй сяброўкай па прозвішчу Геніюш, якая працуе ў кар'еры за зонай і з якой бачыцца прыходзіцца рэдка. Мяне ўразіла вядомае з юнацтва прозвішча. Тым больш, Ліпская характарызавала сяброўку, як вельмі цікавую асобу, аднак не ведала, ці згодзіцца тая на такое знаёмства. Мне не верылася, што гаворка магла ісці пра аўтарку цудоўнага зборніка вершаў «Ад родных ніў», які глыбока запаў у душу калісьці ў ваенныя гады. Ведаў, што таленавітая паэтэса жыве недзе за мяжой і не магла трапіць сюды, на далёкую Поўнач, за калючы дрот, тым больш працаваць у кар'еры. Але час быў такі люты і гвалтоўны, што чакаць можна было ўсяго. Хацелася як мага хутчэй даведацца, аб кім жа згадвае Ю. Ліпская.

Мяне інтрыгавала і цікавіла толькі Геніюш, але магчымасць сувязі была ў руках украінцаў. Давялося згаджацца з усім, прасіць самога брыгадзіра і тую ж Ліпскую аб сувязі з незнаёмай. А час ішоў. Магчымасць перадачы «ксіў» была абмежавана і ў любы момант магла абарвацца назаўсёды. Адзін неасцярожны крок, ці проста выпадак — і ўсё страчана з вялікімі непрыемнасцямі цэламу ланцугу асоб. Вобыскі («шмоны») праводзіліся па любым даносе і падазрэнні, да таго ж кожны дзень пры прыёме зэкаў канвоем і лагернай аховай рабіліся старанныя вобыскі ўсёй вопраткі вязня, прамацваліся ўсе рубцы, звярталася ўвага на псіхалагічны стан і паводзіны допытнага. Часта наладжваліся налётныя «шмоны» па бараках, ператрасалася ўсё да драбніц, перачытваўся кожны запіс, нават друкаваны. І ўсё ж людзі рызыкавалі, ведаючы, што кожная такая паперынка, кожная вестачка несла ў цемру лагернага жыцця іскрынку цяпла і святу, звычайнага чалавечага цяпла, па якім тут некаторыя смуткавалі па дзесятку гадоў, а то і больш.

Чакаў адказу не вельмі доўга. Чарговая мая пісулінка са шчырай просьбай перадаць яе Геніюш пайшла цераз прахадную з чарговым разводам шахтбудаўцаў на аб'екты за зонай. Усё абышлося. Пачыналіся дні хвалюючага чакання. Чакалі і бліжэйшыя сябры, якія ведалі пра ўсё і хваляваліся таксама.

У сваёй запісцы да Геніюш я прасіў адказаць, хто яна, ці не паэтэса, якой мы ганарымся? Прасіў хоць у некалькіх словах даць адказ і паведаміць пра зямлячак. Дні цягнуліся, як ніколі, марудна. Нарэшце «ксіва» ад Ю. Ліпскай, а ў ёй... чаканая вестка. Тонкая паперка, дробна спісаная размашыстым невыразным почыркам, чыталася з нясказанай цікавасцю, хоць і марудна. Так, гэта была Ларыса Геніюш. Яна пісала коратка, шчыра, удумліва і алегарычна. У кожным слове — глыбокі сэнс, нейкая душэўная цеплыня і няскораная гордасць. Пыталася, хто адважыўся ў гэтым праклятым людзьмі краі, «дзе дрэмлюць львы і пануюць гіены», успомніць яе, назваць яе імя? Пісала, што вельмі рада вестцы ад беларусаў, але памятае і аб правакацыях, крыху згадвала аб сабе, працы, зямлячках. Вестка была развважліва-стрыманай, пяшчотна-хвалюючай і патрыятычнай. Чулася, што піша шчырая беларуска, страшэнна змучаная ярмом і кайданамі, але не пастаўленая на калені.

О, як многа значылі там яе весткі, яе вершаваныя радкі! Мы перачытвалі іх па многа разоў, завучвалі, цешыліся яе талентам і сумавалі. Хацелася цягнуцца да яе вышынь і гэта прыбаўляла сіл. Весткі прыходзілі рэдка, але паступова ткалі адносіны знаёмства, цікавага, хоць і нядоўгага завочнага знаёмства і блізкага сяброўства з гэтым дзіўным Чалавекам.

Яе весткі — гэта крык душы, цяпло і пяшчота рук, голас роднай зямлі, гэта сонца і вецер над Нёманам, гэта балючы стогн і смутак, гэта горды вокліч. Прыходзілі ў лагер такія малюсенькія скручаныя кавалачкі спісанай паперы звычайна вечарам, калі вярталіся з працы з-за зоны будаўнікі. Таму вечар для нас быў не толькі часам адпачынку пасля цяжкай нявольніцкай працы, але і часам вельмі чаканых сустрэч праз весткі. Імі жылі мы, у іх адводзілі душу, марылі, тварылі, падтрымлівалі адзін аднаго, верылі і чакалі.

Ды толькі крыху больш года працягвалася гэтае знаёмства. Нада мной зноў нечакана грымнуў гром: раптоўны адзіночны этап...

У лагерах на Інце засталіся з'яднаныя лёсам і пакутамі сябры і памяць аб кароткім, праз верныя «ксівы», завочным знаёмстве з Ларысай Геніюш. Удалося пранесці праз этапы і зберагчы асобныя яе паэтычныя экспромты, якія ўквечвалі весткі. Гэта часцінкі яе болю, яе мужнага сэрца. Чалавечы крык. Вось яны — сляды тых страшных дзён няволі.

**В. СУПРУН.**

г. Слонім.

## Ларыса ГЕНІЮШ



●

Вы і я — гэта словы і словы
сярод тундры, як белая смерць.
Яны іскрацца ў сцюжы суровай,
ды не могуць як след абагрэць.

Толькі блудзяць па лагеры цені.
Думы казку сустрэчы прадуць.
О! не кліч маладых летуценняў,
у марозную ноч не прыйду.

Не прыцісну распаленых вуснаў
ў забыцці да блядога чала,
бо сваёй дарагой Беларусі
ўсё, што ў сэрцы, даўно аддала.

Ці ж магчыма палярнаю ноччу,
сярод гэтых бязмерных снягоў,
ўсё аддаць аднаму васілёчку,
калі столькі ў бядзе васількоў?

●

Не чакай у трывожным бяссонні
на ціхуткі жаночы прыход.
Не жадай у суровае сёння
дурману палымяных пяшчот.

Калі змрок зліжа скалы Уралу
і заціхне ўсялякая дзіч,—
не прасі, каб я песні спявала,
ў свае мужныя рукі не кліч.

Не палонь, адвярні крыху вочы,
не кранай, як уласнік, рукі,
дарагі, як жыццё, васілёчак,—
не мілейшы за ўсе васількі.

●

Востры сум пранізаў наваколле.
Горш за звера — сляпы чалавек.
Толькі б мець больш цярпення і волю,
магутнейшую волю за здзек.

Не падходзь — я сягоння малюся,—
бо мне сілы Ягонае брак.

Не пытай, бо з заціснутых вуснаў
нават слова не ўпадзе няўзнак.

Неспакой у вачах маіх бачыш?
А здаецца табе, што адчай.
Я прывыкла змагацца іначай,
сёння ж сілай патрэбна маўчаць.

Глянь!— ўздымаюцца брудныя хвалі,—
неспакойны варожы бярлог,
ўжо няраз яны пенай апалі
ля маіх заняволеных ног.

Не трывожся няроўнасцю бою,
што адна супроць цемры стаю,
што мне душу атрутаю пояць.
Я жа знаю, за што яе п'ю.

●

Калі ноччу дарогай заснежанай
пойдзеш шчасце Радзіме шукаць
з грамадою адважных начлежнікаў,—
я не буду цябе трымаць.

І слязьмі на грудзях не зальюся,
хаця гора заслоніць мне свет...
Толькі вусны прыпаўшы да вуснаў,
гарачэйшы пакінуць мо' след.

Мо' цябе пацалунак не ўзрушыць,
але верыць ты будзеш усё ж,
што маю палымяную душу
ў бой крывавы з сабою бярэш.

Не зальюся тугой неабмежнай
у адчаі трывожных гадзін,—
калі ў вечар паклічуць начлежнікі,
я скажу табе толькі:
«Ідзі».

●

Трапечацца сэрца у путах.
Падвойныя путы.
Як жыць?
Адны даны ворагам лютым,
другія мне мілы ўзлажыў.

Адныя з крывёю і ломам
ападуць, як ржавы абруч,
другіх жа парваць немагчыма.
— Мой мілы! здымі іх, не муч.

●

Помню Прагу, вясняныя святы.
Адхіляючы цюль ад вакна,
з поўнай чарай да сонца паднятай,
я стаю у задуме адна.

І пад шум дарагіх лімузінаў,
галаву адкланіўшы назад,
п'ю за нівы, лясы і даліны,
п'ю за шчасце пакінутых хат.

Задрыжэла крышталыная чара,
сэрца болем туга заліла.
Беларусь дарагая, не дарам
я Табе свае дні аддала.

## Васіль СУПРУН



Малюнак з архіва аўтара. На адвароце напісана: «Інта. Спецлаг № 2. 4.II.1953. З/к Супрун В. Р. Малюнак з/к Грыцэнкі».

●

Часамі бывае нясказана цяжка,
На сэрцы — бы кошкі скрабуць.
Хоць слова, сяброўка, скажы, калі ласка,
Хачу тваё сэрца пачуць.

Я знаю, што тут пра пачуцці дарэмна,
Зусім ні к чаму гаварыць.
Усё ж хочацца — верыш? — і ў цемры турэмнай
Пяшчоту камусьці дарыць.

Душа агрубела, пакусаны губы
Ад болю, цярпення і мук,
А ўсё ж усміхнуцца так хочацца любай,
Успомніць цяпло яе рук.

Ды жаль, так кароткім было маё лета
Ні ласкі, ні радасці той,
Што ўсімі паэтамі шчыра апета,
Што кажуць, бывае святой.

Прайшло мімаходам юнацтва ў гарэнні,
Мігнула і згасла ў зубах
Крывавага ката.
Кайданы, цярпенні,
Пакуты, этапы і жах...

Відаць, адзвінела надзеяю вера
Ў святую вясну барацьбы.
А ўсё ж яшчэ рана нам яміну мераць.
Нявольнікі мы — не рабы!

●

Ад цябе ні слова не прынёс мне вечар,
вестка не кранула стомленых надзей.
А чакаў паперкі, як самой сустрэчы,
цісучы ўспаміны да худых грудзей.

Знай, што твае весткі — гэта водар Краю,
васільковых ніваў, песня салаўя.
І кажнюткі вечар толькі іх чакаю
І жыву тут імі, родная мая.

●

Кажаш — дарэмна чакаю сустрэчы,
Мроі аб волі сную?
Пэўна, такі ўжо закон чалавечы:
Мусіш чакаць, хвалявацца аб нечым,
Верыць ва ўдачу сваю.

**Паводле дагавора аб культурным супрацоўніцтве мінскі Тэатр-студыя кінаакцёра быў запрошаны на гастролі ў Польшчу Драматычным тэатрам з горада Гдыні. Калектыў правёў у Гдыні дзесяць дзён, паказаўшы два спектаклі — «Камедыю пра Лісістрату» і «Фантазіі паводле Гогаля». Уражаннямі ад вандроўкі дзеліцца на старонках «ЛіМа» загадчык літаратурнай часткі Тэатра-студыі Маргарыта Пушкіна.**

# Лісістрата ў Гдыні

**ЗГАДКА ПРА ГАСТРОЛІ**

МЫ ДАБРАЛІСЯ да Гдыні апоўначы. Ліў дождж, і невялікі будынак Драматычнага тэатра, дзе меліся быць выступленні, цьмяна пабліскваў агнямі рэкламных вітрын — там ужо былі выстаўлены фотаздымкі і афішы нашых спектакляў. Знаёмыя твары акцёраў глядзелі скрозь дажджавыя струмені ў даверлівым чаканні. Што ж будзе?

Пасля доўгай аўтобуснай паездкі практычна праз усю Польшчу, пасля хвалявання пераезду цераз граніцу (для многіх першага ў жыцці), гамонак і жартаў, маленькіх кур'ёзаў і забаўных прыгод — зноўку пачыналіся жыццёвыя клопаты.

Цяпер, калі ўсё ўжо ззаду, у памяці засталіся самыя яркія і выразныя падзеі. Таму ўсё, што здавалася дужа значным тады — усялякія арганізацыйныя турботы і нелады, спрэчкі і ўзаемныя прэтэнзіі, адышло і згубілася ў чарадзе эпізодаў знаходжання ў дружалюбнай Польшчы. Візіт туды шмат у чым быў візітам ветлівасці, не адно паказ спектакляў быў мэтай паездкі. Палякі прадаставілі нам магчымасць пазнаёміцца з краінай, наладзіць сяброўскія кантакты, бліжэй паглядзець адзін на аднаго. Калі вясной тэатр з Гдыні прыедзе ў Мінск, мы будзем старацца, каб гэтая падзея стала заўважнай у жыцці рэспублікі.

ТРЭБА АДЗНАЧЫЦЬ, што наш тэатр апынуўся ў адным з самых жывапісных паўночных раёнаў, дзе гарады Гдыня, Сопат, Гданьск выцягнуліся ўздоўж марскога берага ажыўленай чарадой вулак і вулачак, утульных асабнякоў, старадаўніх пабудоў, цудоўных касцёлаў, прыгожых рознакаляровых дамкоў і шматлікіх паркаў. Гданьск — чароўны ў сваёй антыкварнай прыгажосці горад, адзін са старэйшых у Еўропе, любоўна аднаўлены пасля вайны і клапатліва дагледжаны. Войны, паходы, пажары і разбурэнні не мінулі гэтых месцаў, пакінуўшы палякам незагойныя раны памяці...

У музеях, касцёлах рупліва зберагаецца ўсё, што звязана з даўняй і нядаўняй гісторыяй Польшчы. У гэтай палітычна актыўнай краіне шануюць успаміны пра даўніну, але імкнуцца да развіцця новых адносін паміж людзьмі на грунце даверу і ўзаемаразумення. Памятаючы пра памылкі і ўзаемныя ўскладненні, агульны боль мінулага, цяпер палякі, наследуючы логіцы новага часу, з асаблівай цікавасцю ставяцца да нашай краіны. Гэтую атмасферу сяброўства і добразычлівасці, актыўнай зацікаўленасці мы адчулі на сабе. Усім — ад дырэктара тэатра Збігнева Батуры і галоўнага рэжысёра Багдана Парэмбы да рабочых сцэны — хацелася, каб мы адчувалі сябе, як дома. Работнікі тэатра ў Гдыні з вялікім энтузіязмам паставіліся да арганізацыі гастроляў: будавалі дэкарацыі, устанаўлівалі святло, памагалі разбіраць і збіраць рэчы, касцюмы, рэквізіт, праводзілі экскурсіі, клапаціліся пра абеды, запрашалі ў госці, наладжвалі адпачынак... Анджэй Рыхтэр, Барбара Дамулевіч, Кшыштаф Вуйчыцкі і многія-многія іншыя ўклалі шмат сіл і асабістага ўдзелу ў тое, каб беларусам было прыемна.

Для нашага тэатра выезд на гастролі за мяжу — сапраўды сур'ёзнае выпрабаванне на трываласць, як у творчым, так і ў арганізацыйным сэнсе. Як, мабыць, і ў іншых тэатрах, асабліва для тых, хто выязджае на гастролі ўпершыню. І ўсё ж наш тэатр асаблівы, ён ствараўся і развіваецца цяпер як тэатр «пры кіно» — калектыў, дзе працуюць кінаакцёры, якія пастаянна параўноўваюць тэатр і кіно, да канца не вырашыўшы для сябе, што ж больш важна. Ды гэта пакуль і немагчыма. І хоць тэатр заявіў аб сабе шэрагам цікавых пастановак, апошняя з якіх — «Гамлет», усё ж прычын для «браджэння» яшчэ даволі шмат...

«КАМЕДЫЯ ПРА ЛІСІСТРАТУ» і «Фантазіі паводле Гогаля» — спектаклі са сваёй маральнай пазіцыяй ачышчэння, маральнага вяртання да сапраўды чалавечых адносін, нягледзячы на людскія слабасці, памылкі. Яны прасякнуты верай ў чалавека і яго духоўную сілу. З польскімі таварышамі на сустрэчах мы разважалі пра тое, што нават жывы і арганічны стыль спектакля пра Лісістрату, настрой, які ўзнікае ў зале, служыць асаблівым камертонам і ў нашых адносінах, дае магчымасць вызваліцца ад традыцыйна афіцыйных адносін паміж людзьмі розных краін. Абодва спектаклі — вясёлыя, палкія, усхваляваныя — давалі нагоду натуральна і проста пераходзіць да гаворкі пра тыя пытанні, якія хвалююць людзей ва ўсім свеце і ва ўсе часы.

Нельга сказаць, што ўсе жыхары Гдыні рваліся на нашы спектаклі, але тыя, што прыйшлі, думаецца, былі прыемна ўражаны высокім і своеасаблівым узроўнем іх мастацкага выяўлення і той заразлівасцю, энергіяй, якая зыходзіла ад акцёраў і перадавалася ў глядзельную залу. Мы меркавалі пра гэта па доўгіх апладысментах, рэакцыі залы, крыках «брава», кветках, якімі адорвалі акцёраў, па ўдзячных водгуках і словах, якімі ўзнагароджвалі акцёраў гасцінныя палякі. Усё гэта можна было ўспрымаць як простую ветлівасць, але шчырасць інтанацый пераконвала нас у адваротным, развейвала сумненні. Вядома, усе мы былі настроены на тое, каб улавіць у агульным гуле ўхвалення сапраўднае стаўленне менавіта да ўзроўню выканання. На адкрыцці гастроляў галоўны рэжысёр Б. І. Луцэнка якраз і гаварыў аб тым, што «мы хвалюемся, бо выступаем перад польскім гледачом, досыць вопытным і адукаваным. Польскі тэатр, кіно, літаратура, культура аказвалі і аказваюць вялікі ўплыў на сусветную аўдыторыю».

Драматычны тэатр у Гдыні існуе больш за чвэрць стагоддзя, у ім працавалі многія вядомыя майстры, дастаткова сказаць, што «Гамлет» у рэжысуры А. Вайды з З. Цыбульскім выконваўся на гэтай сцэне. У тэатры былі ажыццёўлены вядомыя пастаноўкі сусветнай драматургіі ад Сафокла да Мрожэка. Нават «Лісістрата» некалі ішла на сцэне гэтага тэатра. Многія акцёры працавалі ў розных польскіх тэатрах, вучыліся ў Ежы Гратоўскага, пастаянна сочаць за навінкамі свету тэатра. Побач працуе наватарскі, своеасаблівы тэатр у Выбжэжы. Узровень тэатральнай культуры досыць высокі, і таму цёплы прыём, аказаны Тэатру-студыі кінаакцёра, быў асабліва прыемны. Былі ўсе падставы паверыць у сапраўдны поспех гастроляў.

МЯНЕ, ЯК ЗАГЛІТА, натуральна, прывабіла хуткае рэагаванне ў друку. Ужо там, праз дзень-два ў газетах з'явіліся рэцэнзіі на спектакль «Камедыя пра Лісістрату» (наступныя водгукі нам абяцалі прыслаць). У нас, як правіла, рэцэнзіі, дакладней, сур'ёзныя аналітычныя артыкулы, з'яўляюцца праз месяц, а то і болей. Для заглітаў пытанні «арганізацыі прэсы» застаюцца нявырашанай праблемай. Газеты не спяшаюцца з водгукамі на новыя спектаклі, неяк зніклі традыцыі старой тэатральнай журналістыкі — пісаць адразу пасля спектакля, калі выданні самі зацікаўлена падтрымлівалі калонку тэатральнага рэцэнзента. Тэатральныя крытыкі ўвогуле схільны доўга думаць, глядзець па некалькі разоў. Бывае, што выходзяць спектаклі зусім без прэсы, і гледачы кепска знаёмы з рэпертуарам тэатра. Нават пра кіно ў нас больш інфармацыі, хоць фільмаў значна больш...

У невялікай Гдыні журналісты адразу пасля першых спектакляў пагаварылі з рэжысёрам, акцёрамі, паглядзелі, натуральна, спектаклі і хутка надрукавалі свае водгукі. Журналістка Аліна Кетрыц з вялікай цеплынёй успаміна́ла пра работы Барыса Луцэнкі, якія яна бачыла ў Мінску, доўга распытвала яго пра творчыя планы. Былі адзначаны і самабытнасць пастаноўкі Валерыя Рубінчыка, сцэнаграфія Дзмітрыя Мохава, музычны калаж Аркадзя Гурава ў спектаклі «Камедыя пра Лісістрату». Дарэчы, работы Мохава, а ён — мастак абодвух спектакляў, былі адзначаны многімі гледачамі, ён нават атрымаў запрашэнне працаваць над двума спектаклямі ў польскіх тэатрах («Сабачае сэрца» і «Доктар Жывага»). Як складуцца гэтыя кантакты, меркаваць цяжка, але крок да супрацоўніцтва ўжо зроблены. У прэсе былі названы і найбольш цікавыя акцёрскія работы, названы імёны акцёраў — С. Кузьміной, П. Юрчанкова, А. Гур'ева, В. Рыбчынскага, В. Новіка, І. Мацкевіча.

Асаблівы поспех выпаў на долю Юрыя Казючыца ў ролі Клісфена. Адна з газет назвала яго «акцёрам неабмежаваных магчымасцей» — так спадабалася палякам яркая буфонная роля Клісфена. Казючыц быў сапраўдным героем дня, тым больш, што яго дзеянні на сцэне *былі зразумелыя без* перакладу. Увогуле, на пахвалы польскія гледачы былі шчодрыя, «бардзо добжэ» гучала з усіх бакоў. На што, дарэчы, акцёры рэагавалі па-свойму, пытаючыся, чаму нашы беларускія газеты такія скупыя на эпітэты? Праўда, калі бэсціць, дык тут ужо знаходзяцца словы... Напэўна, перабудова ў справе тэатральнага рэцэнзавання павінна адбыцца ў бок яснасці, даходлівасці прастаты...

Я пазнаёмілася ў тэатры са сваім калегам — заглітам Кшыштафам Вуйчыцкім, які вельмі клапоціцца пра інтарэсы свайго тэатра, але і сам *шмат працуе ў літаратуры*, напісаў кнігу пра мастака, некалькі п'ес. У нас лічыцца ледзь не дрэнным тонам, калі загліт піша п'есы. Для Кшыштафа гэтая цікавая праца памагае знаходзіцца ў коле найцікавых праблем тэатра. Яго п'еса «Свабода для Барабаша» ўжо пастаўлена ў сопацкім тэатры. Магчыма, і мы набудзем у асобе майго калегі новага аўтара.

ЦЯПЕР МЫ з цікавасцю будзем чакаць гастроляў Драматычнага тэатра ў Мінску — у красавіку 1989 года яны прывязуць да нас вясёлы музычны спектакль Леона Шылера «Куфар з песенькамі». Рэжысёр Багдан Парэмба абяцае ў студзені пачаць працу над п'есай Я. Івашкевіча «Лета ў Ноане» ў Тэатры-студыі кінаакцёра, а Барыс Луцэнка выправіцца ў Гданьскі тэатр (праўда, ён яшчэ не прыняў канчатковага рашэння, што будзе ставіць).

Гастролі натхнілі акцёраў, *надалі* ўпэўненасці ў сваіх сілах. Так што падарожжа было прыемнае яшчэ і таму, што яно не закончы*лася — творчыя кантакты* сталі яшчэ больш моцнымі, з'явіліся спадзяванні на развіццё сапраўднай творчай садружнасці.

**Маргарыта ПУШКІНА,**
**загадчык літаратурнай часткі Тэатра-студыі кінаакцёра.**




**з 6 па 12 лютага**

**6 лютага, 18.35**

**III УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ**

Выступае вакальная група «Крыніца» Ашмянскага РДК.

**7 лютага, 21.50**

**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма. Размова пойдзе аб ролі сельскага інтэлігента.

Вядучая — журналіст А. Аўрынская.

**8 лютага, 18.55**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы В. Таўлая чытае артыст А. Падабед.

**8 лютага, 21.50**

**«ЛІДЭР»**

Музычнае шоу-конкурс.

**9 лютага, 19.25**

**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЕ ПІСЬМО...»**

Агляд крытычнай пошты за тыдзень.

**10 лютага, 19.45**

**«ДЗВІНА»**

Літаратурна-мастацкі часопіс.

Вы пазнаёміцеся з кніжкай віцебскага краязнаўцы А. Падліпскага «Беларусь на паштоўках», пачуеце вершы маладога паэта з Наваполацка А. Аркуша, убачыце работы віцебскага мастака В. Распопава. Пра творчасць маладога рэжысёра-коласаўца І. Баярынцава раскажа заслужаны артыст БССР М. Цішачкін. На заканчэнне прагучаць песні аўтара-выканаўцы С. Плотнікава.

**11 лютага, 14.00**

**«МЕТРАНОМ»**

Музычна-публіцыстычная праграма, прысвечаная А. С. Пушкіну. У ёй прымаюць удзел драматург А. Дудараў, паэт У. Някляеў, скульптар А. Анікейчык, мастак А. Кішчанка, кампазітары А. Багатыроў, У. Алоўнікаў.

Вядучая — музычны каментатар Э. Язерская.

**12 лютага, 15.15**

**«З ТАБОЮ ВЕЧНА»**

Прэм'ера песні А. Ціхановіча і Л. Дранько-Майсюка. Выконвае А. Ціхановіч.

**12 лютага, 16.50**

**«СКІБІНА СЛОВА»**

Перадача запрашае ў вёску Шышчыцы, *што на Случчыне*, да былога настаўніка А. А. Алішэвіча. Ён раскажа пра сваю сустрэчу з Якубам Коласам, падзеліцца думкамі пра родную зямлю і родную мову.

**12 лютага, 18.25**

**«ГУЧЫЦЬ ГІТАРА»**

Канцэрт артыста Белдзяржфілармоніі А. Іванова. У праграме — творы рускіх і замежных кампазітараў.

**12 лютага, 19.25**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы С. Законнікава чытае артыст А. Жук.

**12 лютага, 23.30**

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма.



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 07392 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.